# НАШ КРАЙ

№ 4 1930

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК



№ 4 (55) Красавік 1930



ГОД ВЫДАНЬНЯ ШОСТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1930

# IV Ўсерасійская Краязнаўчая Конфэрэнцыя.

22 — 24 сакавіка 1930 г. у Маскве адбылася IV Ўсерасійская Краязнаўчая Конфэрэнцыя, якая мела мэтай падвядзеньне вынікаў дзейнасьці краязнаўчых організацый РСФСР з 1927 г. за час ад III Краязнаўчай конфэрэнцыі, прапрацоўку пытаньняў далейшай дзейнасьці краязнаўчых організацый РСФСР у сувязі з рэконструкцыйным пэрыодам гаспадарчага будаўніцтва краіны і ўвязку працы краязнаўчых організацый з працай сумежных навуковых і грамадзкіх організацый. На конфэрэнцыі прысутнічала 193 дэлегаты з рашаючым голасам і 99 з дарадчым. З правам рашаючага голасу былі запрошаны на конфэрэнцыю і прадстаўнікі Саюзных Рэспублік. Але чамусьці не ад усіх Саюзных Рэспублік былі прадстаўнікі — ня было прадстаўніка ад Украінскага Камітэту Краязнаўства.

Конфэрэнцыя прапрацавала наступныя пытаньні:

1. Роля краязнаўства на шляхох соцыялістычнага будаўніцтва (даклад т. Сьмідовіча).

2. Аб шляхох соцыялістычнага будаўніцтва (т. Кржыжаноўскі).

3. Задачы і шляхі краязнаўчай работы ў галіне прамысловасьці (Уліцкі).

4. Задачы краязнаўчых організацый ва ўмовах соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі (т. Сегаль).

5. Чарговыя задачы краязнаўчай работы ў нацыянальных раёнах і іх вырашэньне (т. Тахо-Годзі).

6. Задачы краязнаўчых музэяў і іх узаемаадносіны з краязнаўчымі таварыствамі. (т. Шнеерсон).

7. Марксыцкі мэтод у краязнаўстве. (Прэабражэнскі).

8. Асноўныя вынікі і задачы краязнаўчага руху сярод студэнцтва (т. Талстоў).

Конфэрэнцыя насіла надзвычайна ажыўлены характар. Па кожнаму пытаньню запісвалася па 50-60 прамоўцаў. Асабліва ажыўленьне і здаровую крытыку ўносіла моладзь і краязнаўцы з нізавых організацый. Асноўнымі пытаньнямі, якія завострываліся амаль ува ўсіх выступленьнях былі пытаньні організацыйнага зьместу і далейшага кірунку ў працы. Усімі выступаўшымі адзначалася, што трэба скончыць з тэй організацыйнай пярэстасьцю ў краязнаўчай справе, якая існавала да апошняга часу, калі ў кожнай акрузе, у кожнай обласьці была свая асаблівая організацыя, што трэба ўрэшце ў мэтах ахапленьня і накіраваньня краязнаўчага руху па адзінаму шляху прыняць адзіную організацыйную структуру. Шкада, што ў адносінах да такога важнага пытаньня, як організацыйнае, у членаў і нават у прэзыдыуме старога складу ЦБК ня было адзінага погляду, адзінай думкі. У дакладзе т. Сьмідовіча было высунута на абгаварэньне конфэрэнцыі два

пункты погляду наконт далейшай організацыйнай структуры краязнаўчай сеткі РСФСР. Адзін пункт погляду быў такі, што неабходна па ўсёй лініі тэрыторыяльных адзінак, пачынаючы з акругі, заснаваць краязнаўчыя таварыствы з краязнаўчымі гурткамі ў нізавых пунктах і Бюро толькі ў абласьцях. Другі пункт погляду настайваў на ўвядзеньні Бюро Краязнаўства ў абласьцях і ў акругах, пакінуўшы таварыствы толькі ў раёнах. Вылучаная конфэрэнцыяй для апрацоўкі рэзолюцыі Камісія прыняла компромісны пункт погляду па гэтаму пытаньню. Яна лічыла магчымым увядзеньне ў тых краёх, дзе ёсьць моцныя краязнаўчыя організацыі, таварystваў краязнаўства, а ў тых, дзе краязнаўчай сеткі няма, яна лічыла мэтазгодным заснаваць Бюро Краязнаўства. Конфэрэнцыяй прынята ўва ўсіх акруговых і абластных цэнтрах стаць на шлях організацыі Бюро Краязнаўства, якое павінна абірацца на конфэрэнцыях з прадстаўнікоў раённых краязнаўчых організацый і прадстаўнікоў савецкіх, грамадзкіх організацый.

Другімі пытаньнямі, якія выпукляліся на конфэрэнцыі былі пытаньні масавасьці ў краязнаўчай справе, дабраахвотнасьці і кадраў.

У выступленьнях адзначалася, што краязнаўчыя організацыі да апошняга часу, ня гледзячы на пастановы і рашэньні папярэдняй конфэрэнцыі, ня сталі масавымі краязнаўчымі організацыямі, што рабочыя і сяляне сярод краязнаўцаў налічваюцца адзінкамі, што па-ранейшаму асноўнымі працаўнікамі — краязнаўцамі зьяўлаецца інтэлігенцыя. Таксама адзначалася, што кадры краязнаўцаў наогул пашыраюцца слаба. Прынята, што ў далейшай працы краязнаўчай сеткі ў гэтым кірунку неабходна зрабіць рашучы пералом, як у сэнсе ўцягненьня ў працу па краязнаўству рабочых, працоўнага сялянства, гэтак і працоўнай моладзі. Шляхамі для ажыцьцяўленьня гэтага лёзунгу конфэрэнцыя прызнала прасоўваньне краязнаўчых гурткоў на прадпрыемствы, у колгасы і пабудовы працы школы на краязнаўчым матар'яле.

Каштоўнейшым момантам на конфэрэнцыі была пастаноўка дакладу т. Прэабражэнскага. „Марксысцкі мэтод ў краязнаўстве“, які, да рэчы, быў зроблен надзвычайна добра і даў належную марксыцкую ўстаноўку адносна прадмету краязнаўства, яго зьместу і далейшага напрамку. Вельмі шкада, што дакладчык, за абмежаванасьцю часу, ня змог ілюстраваць паасобныя свае палажэньні прыкладамі. Трэба пажадаць, каб даклад т. Прэабражэнскага хутчэй зьявіўся ў друку. У заключэньне быў абраны новы склад Ц. Б. К. у ліку 150 чалавек. Важным момантам у рашэньні IV конфэрэнцыі трэба прызнаць ліквідацыю падзелу ЦБК на два цэнтры. Гэтае мерапрыемства, бясспрэчна, значна дапаможа разгортваньню і накіраваньню краязнаўчай справы па адзінаму кірунку.

На конфэрэнцыі была організавана выстаўка краязнаўчых выданьняў з часу III конфэрэнцыі ў саюзным масштабе. Прыходзіцца адзначыць што дасягненьні ў выдавецкай справе ў галіне краязнаўства за гэты час нязначныя: навін па распрацоўцы паасобных пытаньняў няма. Па сканчэньні організацыйнай часткі конфэрэнцыі 25—26 сакавіка адбіліся нарады па розных пытаньнях краязнаўства: нарада па школьнаму краязнаўству, нарада сэкцыі сельскай гаспадаркі ЦБК па пытаньню распрацоўкі анкеты аб вывучэньньні колгасаў, нарада па бібліографічных пытаньнях і інш.

Вось асноўныя моманты працы IV Краязнаўчай Конфэрэнцыі. У справе далейшага разьвіцьця краязнаўчага руху ў РСФСР і нават і ў паасобных саюзных Рэспубліках IV Ўсерасійская Краязнаўчая Кон-

фэрэнцыя павінна адыграць значную ролю: яна павінна стаць адпраўным этапам для ўнясеньня новых, сучасных установак у зьмест і мэтоды краязнаўчай працы.

Асабліва важным момантам у далейшым напрамку краязнаўчага руху ў саюзным масштабе трэба адзначыць організацыю краянаўчай сэкцыі пры Комуністычнай Акадэміі. Краязнаўчыя організацыі Саюзных Рэспублік спадзяюцца атрымаць ад краязнаўчай сэкцыі Комакадэміі належную мэтодычную дапамогу і кірунак працы ў марксыцкім асьвятленьні. Сэкцыя краязнаўства пры Комакадэміі павінна зрабіцца асяродкам марксыцкай думкі ў краязнаўстве. Ц. Б. К. БССР лічыць сваім абавязкам наладзіць сталую сувязь з сэкцыяй, каб мець належную дапамогу. У заключэньне трэба пажадаць, каб матар'ялы IV Ўсерасійскай Краязнаўчай Конфэрэнцыі былі выдадзены поўнасьцю паасобнымі выданьнямі і дасланы ўсім краязнаўчым організацыям, у тым ліку і нізавым краязнаўчым організацыям Саюзных Рэспублік. Гэта будзе крокам да ўзмацненьня сувязі краязнаўчай сеткі паасобных Саюзных Рэспублік з краязнаўчым рухам РСФСР.

*А. Казак.*

---

**В. Самцэвіч.**

# Колгаснае будаўніцтва і краязнаўства.

У сучасны момант у нас адбываецца процэс перабудовы ўсяе нашае прамысловасьці і сельскае гаспадаркі на новы социялістычны лад на падставе сучаснай тэхнікі. У сувязі з рэконструкцыяй народнай гаспадаркі адбываюцца і вельмі глыбокія зьмены ў социяльна-экономічным жыцьці: утвараюцца новыя формы вытворчых узаемаадносін, новыя мэтоды працы (соцспаборніцтва, пераход на бесьперапынны тыдзень), зьмяняюцца бытавыя ўмовы, адбываюцца самыя зрухі ў перабудове ўсяго грамадзкага ладу, выпрацоўваецца новая колектыўная псыхолёгія і пролетарская ідэолёгія мас. Руйнуецца старое і будуецца новае жыцьцё. Задача кожнае дасьледчае ўстановы і кожнага дасьледчыка ў нашай краіне заключаецца ў тым, каб улавіць, вывучыць тыя социяльна-экономічныя фактары, якія зьяўляюцца асноўнымі фактарамі нашага социялістычнага будаўніцтва, каб дасьледваць характар зьмены ў клясавай структуры сучаснай грамады, характар і мэтоды клясавае барацьбы, якая адбываецца ў процэсе социялістычнага будаўніцтва ў пэрыод дыктатуры пролетарыяту. У пэрыод грандыёзнага социялістычнага будаўніцтва сіламі рабочае клясы і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі нам асабліва патрэбна навукова-дасьледчая праца ва ўсіх галінах прыроды, гаспадаркі і культуры, шырокая популярызацыя вынікаў гэтае дасьледчае працы сярод самых шырокіх працоўных мас дзеля таго, каб мы маглі найбольш плянава, з улічэньнем усіх магчымасьцяй, усяго папярэдняга вопыту, унікаючы грубых памылак, будаваць нашу социялістычную гаспадарку і культуру. Перад усімі краязнаўчымі організацыямі і ўсімі краязнаўцамі стаіць конкрэтная і вялікая задача—сваёй дасьледчай працай—вывучэньнем прыродных рэсурсаў і мясцовых вытворчых сіл, экономічна-социяльнага і культурна-бытавога становішча свайго раёну,—дапамагчы працоўным масам, мясцовым партыйным, савецкім і гра-

мадзкім організацыям у выкананьні дырэктыў партыі па будаўніцтву соцыялізму ў нашай краіне. Усім краязнаўчым організацыям сваёю дасьледчай працай трэба дапамагчы ажыцьцяўленьню індустрыялізацыі і колектывізацыі краіны, што зьяўляецца асноўнай прадпасылкай посьпеху соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта першая і асноўная задача, якую мы павінны на сябе ўзяць у галіне краязнаўчай працы, выходзячы з яе важнасьці і першачарговасьці. Задачы вывучэньня разьвіцьця нашай соцыялістычнай прамысловасьці і колектывізацыі вёскі трэба лічыць задачамі ўдарнымі, неадкладнымі.

Але-ж нам патрэбна ня толькі вывучэньне фактаў, пэўных об‘ектаў, ня толькі ўстанаўленьне пэўных прычынных сувязяй, нам патрэбна, каб наша краязнаўчая праца, скажам па вывучэньню колгаснага руху, была мэтаімкнёнай, каб яна ўся была накіравана на вырашэньне пытаньня дапамогі партыі, Савецкай уладзе і ўсім працоўным масам пашырыць, паглыбіць, палепшыць працу па колгаснаму будаўніцтву і ўзьняцца ў ім на больш вышэйшую ступень. Вынікі нашай краязнаўчай працы па вывучэньні колгаснага руху павінны стаць вядомы самым шырокім працоўным масам (колгасьнікам, рабочым, бядняцка-серадняцкім масам вёскі) і тым органам і ўстановам, якія кіруюць колгасным будаўніцтвам.

Краязнаўчыя організацыі павінны самі прыняць непасрэдны ўдзел у колгасным будаўніцтве шляхам популярызацыі вынікаў сваіх дасьледаў, удзелу у складаньні організацыйных і вытворчых плянаў колгасаў і інш.

У якім-жа стане мы знаходзімся зараз у справе дасьледваньня колгаснага руху ў БССР? Трэба сказаць, што ў справе вывучэньня колгаснага руху мы далёка адсталі ад таго тэмпу, якім разьвіваецца колгаснае будаўніцтва. Колектывізацыя сельскае гаспадаркі ў нас у БССР як і ва ўсім СССР, разгортваецца выключным тэмпам, перакрываючы ўсякія оптымальныя меркаваньні. Мы зараз ужо маем некалькі раёнаў суцэльнай колектывізацыі (Ляднянскі, Рагачэўска-Жлобінскі) і знаходзімся напярэдадні суцэльнай колектывізацыі цэлых акруг (Магілеўская), калі зусім зьменіцца твар краіны. А што мы маем у сэнсе навуковага дасьледваньня колгаснага руху ў БССР? Амаль што нічога, калі ня лічыць некаторых дробных артыкулаў у часопісу „Шляхі Колектывізацыі“ і 2-3 артыкулаў у часопісу „Бальшавік Беларусі“. Вывучэньню колгаснага будаўніцтва не ўдзялялі яшчэ належнае ўвагі нашы навукова-дасьледчыя ўстановы і краязнаўчыя організацыі. І зусім зразумела, што колгаснае будаўніцтва ідзе ў нас без належнага навуковага абслугоўваньня і дапамогі. Навукова-дасьледчая справа яшчэ не папераджае сваімі парадамі колгаснага будаўніцтва, а ідзе ззаду за ім і што яшчэ горай, дык гэта тое, што нашы дасьледчыя ўстановы ня вельмі сьпяшаюцца з дасьледваньнем колгаснага руху, які ўжо зараз нязвычайна шпарка разгарнуўся, і ні адна з актуальнейшых проблем колгаснага будаўніцтва нялежным чынам не дасьледвана.

У нас яшчэ ня вывучаны і не распрацаваны пытаньні адносна організацыйных плянаў, тыпаў колгасаў, організацыі працы і яе аплаты, эфэктыўнасьці капіталаўкладаньня, адносна організацыі быту ў колгасах і г. д.; у нас няма яшчэ апублікаваных матар‘ялаў і па апісаньню асобных відаў колгасаў, няма монографічных апісаньняў арцэляй, комун. Усё гэта ўскладняе і затрудняе працу практычных, асабліва нізавых працоўнікаў у колгасах. Ясна, што дасьледчую працу

па вывучэньні колгаснага руху трэба прысьпешыць, надаць ёй той-жа хуткі тэмп, якім ідзе і само колгаснае будаўніцтва. Гэтага вымагае наша сучаснае жыцьцё, наша соцыялістычнае будаўніцтва.

У якім-жа кірунку павінна весьціся вывучэньне колгасьнага руху ў раёне?

На нашу думку гэта вывучэньне павінна ісьці ў двух кірунках: 1) па лініі вывучэньня паасобных колгасаў (монографічныя апісаньні), 2) па лініі вывучэньня паасобных тэм і проблем колгаснага будаўніцтва, якія маюць найбольш актуальнае значэньне (пытаньне клясавай барацьбы; процэсы абагульненьня сродкаў вытворчасьці; організацыя працы; эфэктыўнасьць працы ў колгасах у залежнасьці ад яе організацыі і г. д.).

Монографічныя апісаньні колгасаў вельмі цікавы і патрэбны. Грунтоўнае монографічнае апісаньне можа даць нам уяўленьне аб усім процэсе росту колгасу, раскрыць цікавыя старонкі яго гісторыі, паказаць, як вырастала соцыялістычная гаспадарка ў барацьбе з капіталістычнымі элемэнтамі ў вёсцы. Калі-б мы мелі ўжо некалькі добрых монографій колгасаў, мы-б мелі каштоўны матар'ял і для вывучэньня паасобных пытаньняў колгаснага будаўніцтва, для вывучэньня колгаснага руху. Але пакуль што мы такіх работ ня маем, а жыцьцё ставіць перад намі розныя пытаньні, зьвязаныя з задачамі колгаснага будаўніцтва, і гэтыя пытаньні мы павінны вывучаць іншымі спосабамі, аб якіх будзе сказана.

Паколькі па пытаньні адносна вывучэньня паасобных колгасаў ужо ёсьць некаторыя мэтодычныя ўказаньні і програмы (гл. „Наш Край" №№ 11 і 12), мы на гэтым пытаньні спыняцца ня будзем. Мы спынімся на справе вывучэньня найбольш актуальных пытаньняў колгаснага руху ў раёне ў даны момант.

Перш за ўсё нашу ўвагу зварачае факт надзвычайна вялікага колькасьнага і якаснога росту колгасаў за апошні час (пасьля XII зьезду КП(б)Б, які зьвярнуў асаблівую ўвагу партыі на ўзмацненьне колгаснага будаўніцтва ў БССР).

Вось як адбываўся колькасны рост колгасаў у БССР:

у 1921-22 г. колгасаў было 187, у 1924 г.—378, 1925 г.—414, 1926 г. —380, 1927 г.—416, 1928 г. 1/VI—611, 1/X — 994, 1/XI — 1929 г. 1943 колгасы.

З гэтых лічбаў відаць, што да 1925 г. ідзе досыць павольны рост колгасаў, потым у 1925 г. лік колгасаў нават памяншаецца і да 1928 г. амаль толькі выраўніваецца з лікам 1925 г. І толькі з 1928 г. рост колгасаў і ахоп імі насельніцтва [1]) значна павялічваецца, дасягаючы буйнога росту ў другім паўгодзьдзі 1929 г. Адначасова ідзе і ўзбуйненьне колгасаў як у складзе насельніцтва колгасаў (8 двароў на колгас на 1/VI і 24 дв. на 1/XI—1929 г.), так і ў павялічэньні іх зямельнай плошчы: у 1926/27 г.—132,2 га (у сярэднім на колгас), у 1927/28 г.—95,2 га, у 1928/29 г.—162 га і ў лістападзе 1929 г.— 276 га. Прыблізна тое-ж самае, што і ўва ўсёй БССР, адбывалася і ў паасобных акругах і раёнах.

Зусім натуральна, што ў кожнага з нас паўстае пытаньне аб прычынах, якія выклікалі посьпехі колькаснага і якаснага росту колгаснага будаўніцтва.

---

[1]) На 1/VI 1928 г.: 0,92% усяго насельніцтва; 1,4 усіх сял. двар.
„ 1/XI 1929 „ 6,9% „ „ 6,1% „ „ „

Колгаснае будаўніцтва і процэсы яго разьвіцьця стануць зразумелымі для нас толькі тады, калі мы будзем разглядаць і вывучаць яго ва ўмовах разьвіцьця ўсяе народнае гаспадаркі і асабліва сельскае гаспадаркі.

У першыя гады пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі колгасны рух быў спробай адшуканьня сродкаў асваеньня земляў, якія былі да рэволюцыі ў карыстаньні абшарнікаў і якія ва ўмовах нашай БССР дасталіся часткай былым батраком, часткай бедняком нашай вёскі. Нямецкая, потым польская окупацыі, бандытызм, асабліва на тэрыторыі прымежнай паласы, зразумела, не маглі спрыяць разьвіцьцю і пашырэньню колгаснага руху. Значная частка зямель, маёнткаў былых абшарнікаў была падзелена паміж сялянамі. Опортуністычная політыка былога Наркамзему і яго органаў на мясцох (політыка насаджэньня хутароў і дробных пасёлкаў) перашкаджалі і стрымлівалі рост колгаснага будаўніцтва. Калі-ж гэтая шкадлівая політыка была выпраўлена партыяй, і калі дырэктывы XV зьезду Усе КП(б) і XII зьезду КП(б)Б сталі ажыцьцяўляцца на мясцох, колгасны рух аднавіўся і набыў шпаркі тэмп. Калі толькі бяднацкія і серадняцкія масы адчулі конкрэтную дапамогу колгаснаму будаўніцтву на мясцох, калі ідэя стварэньня колгасаў была популярызавана сярод бяднейшых пластоў вёскі і калі колгасам стала аказвацца непасрэдная дапамога ў відзе крэдытаў і агрыкультурнага абслугоўваньня, на тэрыторыі БССР сталі вырастаць колгасы адзін за адным з надзвычайнай хуткасьцю. Ідэя колектывізацыі стала блізкай і зразумелай працоўнаму сялянству, яна сапраўды стала ідэяй шырокіх працоўных мас.

Другім галоўнейшым фактарам разьвіцьця колгаснага руху трэба лічыць буйны рост нашай індустрыі, якая змагла даць для вёскі, вялікую колькасьць складаных сельскагаспадарчых машын. У выніку росту індустрыі „ўзрасла магчымасьць для рабочае клясы яе рэволюцыйнага ўзьдзейнічаньня як на тэхніку сельскагаспадарчай вытворчасьці, так і на рэконструкцыю экономічных адносін у вёсцы ў бок іх абагульненьня“ (Лістапад. Пленум ЦК Усе КП(б).

Без складаных машын, без тэхнічнай базы ў сельскай гаспадарцы немагчыма было чакаць значных вынікаў у колгасным будаўніцтве, як вышэйшай форме буйное сельскае гаспадаркі. Правільная політыка партыі ў разьвіцьці буйной індустрыі дала свае конкрэтныя вынікі ў выглядзе непасрэднага ўплыву буйное прамысловасьці на рэконструкцыю сельскай гаспадаркі.

Наступным фактарам разьвіцьця колгаснага будаўніцтва трэба лічыць разьвіцьцё і павялічэньне вытворчасьці сельскае гаспадаркі ў вініку ўсяе політыкі Комуністычнае партыі. Павялічэньне засеўнай плошчы, інтэнсыўны рост жывёлагадоўлі, павялічэньне сельска-гаспадарчага інвэнтару абумовілі і рост у апошнія гады таварнасьці бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Рост-жа таварнасьці сялянскай гаспадаркі і патрэбнасьць яе далейшага павялічэньня зьявіўся новым фактарам разьвіцьця колгаснага руху. Аднак, распыленасьць і раздробленасьць сялянскіх (бядняцкіх і серадняцкіх) гаспадарак, поўнатуральны іх характар, нізкі ровень сельскагаспадарчай тэхнікі і культуры зьявіліся прычынамі, якія абмяжоўвалі „магчымасьці разьвіцьця дробнае гаспадаркі і асабліва росту яе таварнасьці пры даных яе разьмерах і спосабах вытворчасьці“, што магло стварыць шэраг цяжкасьцяй у забясьпечаньні нашай прамысловасьці сыравінай і выклікаць цяжкасьці забясьпечаньня рабочае клясы і бядняцкіх мас сельска-

гаспадарчымі продуктамі. Ясна, што аб‘яднаньне гэтых раскіданых і дробных сялянскіх гаспадарак у буйныя колгасы зьявілася адзіным сродкам дабіцца павялічэньня таварнасьці сельскае гаспадаркі.

Пры вызначэньні прадпасылак, якія выклікалі і дапамагалі разьвіцьцю колгаснага руху, нельга ні ў якім разе забывацца пра ўплыў коопэраванасьці насельніцтва на разьвіцьцё колгаснага руху. Сувязь паміж коопэрацыяй і колектывізацыяй відавочна, але яна належным чынам ня вывучана на фактычным матар‘яле.

Такім чынам, выразная і цьвёрдая ўстаноўка партыі на індустрыялізацыю і колектывізацыю краіны пры практычных мерапрыемствах у гэтым кірунку, дасягненьні нашае буйное прамысловасьці, забясьпечаньне сельскае гаспадаркі складанымі машынамі, разьвіцьцё сельскагаспадарчае вытворчасьці, павялічэньне і вялікае запатрабаваньне да таварнасьці сельскае гаспадаркі і ўплыў коопэраванасьці насельніцтва—вось асноўныя (але ня выключныя) фактары росту колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Пры практычным вырашэньні пытаньня колектывізацыі ў далейшым гэтыя фактары і прадпасылкі на даным этапе нашага социялістычнага будаўніцтва застаюцца нязьменнымі. Гэта відаць з пастановы XVI партконфэрэнцыі УсеКП(б) „Аб шляхох пад‘ёму сельскае гаспадаркі“ (п. 4), дзе гаворыцца: „Пры вырашэньні задачы паскарэньня пад‘ёму сельскае гаспадаркі і стварэньня буйной грамадзкай вытворчасьці, на цяперашнім этапе разьвіцьця Савецкай краіны, Савецкая ўлада і Комуністычная партыя абапіраюцца: а) на хуткае разьвіцьцё прамысловасьці і, у прыватнасьці, хуткі рост вытворчасьці сельскагаспадарчых машын; б) на плянавае рэгуляваньне народнае гаспадаркі, якое ўвязвае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі з хуткім ростам промысловасьці...; г) на сыстэматычнае абмежаваньне росту капіталізму ў вёсцы...; д) на рост вытворчага коопэраваньня, якое дае магчымасьць дробнай і драбнейшай гаспадарцы шляхам аб‘яднаньня вытворчых процэсаў скарыстаць тыя перавагі буйной гаспадаркі, якія ў капіталістычнай грамадзе даступны толькі кулаком; е) на ўсялякае выкарыстоўваньне нацыяналізаванай крэдытнай сыстэмы дзяржаўнага бюджэту для падвышэньня сельскае гаспадаркі; ж) на бязумоўнае падтрыманьне політыкі партыі ў галіне сельскай гаспадаркі з боку рабочае клясы і працоўных мас вёскі“.

Але-ж калі мы паставім пытаньне: ці вывучаліся гэтыя пытаньні ў конкрэтным іх ажыцьцяўленьні колгаснага будаўніцтва ў пэўным раёне, дык мы павінны будзем адказаць, што гэтыя пытаньні вывучаліся вельмі мала і недастаткова. Адсюль выцякае неабходнасьць дасьледваньня асноўных фактараў колгаснага будаўніцтва на розных этапах яго разьвіцьця і ў пэўных конкрэтных абставінах.

Колгаснае будаўніцтва, асабліва ў сучасны момант, адбываецца ва ўмовах узмоцненай клясавай барацьбы. Кулак добра разумее і непасрэдна ўжо адчувае, што рост буйных колгасаў выбівае ў яго глебу з-пад ног, што колектывізацыя вёскі і асабліва цэлых раёнаў па сутнасьці адзначае зьнішчэньне кулацкіх гаспадарак, зьнішчэньне ўсякай магчымасьці эксплёатацыі вясковай беднаты, і таму ў перадсьмяротнай агоніі кулак імкнецца ўсякімі спосабамі перашкодзіць разьвіцьцю колгаснага будаўніцтва. Супроць-колгасная агітацыя сярод адсталай часткі вёскі, спробы зрыву контрактацыі, пагрозы і тэрорыстычныя выступленьні супроць найбольш актыўных працаўнікоў у справе колгаснага будаўніцтва, падпалы колгасных будынкаў і г. д.—усе гэтыя

факты вельмі характэрны для сучаснага моманту пабудовы новае вёскі, новае соцыялістычнае гаспадаркі і грамады.

Аднэй з форм клясавай барацьбы зьяўляецца ўтварэньне кулакамі і заможнікамі ілжэколгасаў. Ілжэколгасы—гэта спосаб захаваць пад шыльдай колгасу па сутнасьці кулацкую гаспадарку, гэта спосаб падрыву і шкодніцтва ў колгасным будаўніцтве. На гэту небясьпеку прасачэньня кулакоў у колгасы зварачаецца ўвага ў пастановах Лістападаўскага Пленуму ЎсеКП(б) 1929 г., дзе гаворыцца: „Працягваючы і ўзмацняючы барацьбу супроць капіталістычных элемэнтаў вёскі, разьвіваючы рашучы наступ на кулака, усякім чынам перашкаджаючы і перасякаючы спробы прасачэньня кулака ў колгасы, партыя павінна ўпартай і сыстэматычнай работай забясьпечыць сплачэньне бядняцка-серадняцкага ядра ў колгасах“.

Вывучэньне форм і мэтодаў клясавай барацьбы ў вёсцы пры ўзмацнёным соцыялістычным наступе на капіталістычныя элемэнты вёскі, вывучэньне барацьбы супроць колгасаў прадстаўляе цікавасьць для гісторыка клясавай барацьбы і мае пэўнае практычнае значэньне для сёнешняга дня. Ведаючы спосабы і мэтоды барацьбы кулакоў супроць колгасаў і выходзячы з конкрэтных мясцовых умоў, мы павінны праз колгасы ўзмацніць нашу барацьбу з кулацкімі настроямі. Нашы колгасы павінны стаць асновай, базай савецкай і комуністычнай пропаганды ў вёсцы; яны павінны зьявіцца цэнтрамі, організуючымі навакол сябе бядняцкія і серадняцкія масы вёскі для соцыялістычнага будаўніцтва. І ў гэтай пропагандысцкай працы за колгасы, за рэконструкцыю нашай гаспадаркі, за організацыю новае соцыялістычнае грамады, належны ўдзел павінны прыняць нашы краязнаўчыя організацыі.

Вельмі цікавым і практычна неабходным зьяўляецца вывучэньне процэсу коопэраваньня і колектывізацыі сялянскіх гаспадарак. Важна выявіць, як пад уплывам разьвіцьця нашае індустрыялізацыі, забясьпечаньня сялянскіх гаспадарак складанымі сельска-гаспадарчымі машынамі, пад уплывам сельска-гаспадарчай коопэрацыі (мэліорацыйных, малочных, жывёлагадоўчых, машынавых, насенных і інш. таварыстваў) як па гэтаму шляху сялянскія індывідуальныя гаспадаркі прыходзілі і прыходзяць да абагульненьня сродкаў вытворчасьці, да соцыялістычных форм гаспадаркі. У нас у БССР (як і ва ўсім СССР) мы бачым, напр., што ніжэйшыя формы колектыўных гаспадарак перарастаюць у вышэйшыя (таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі, с.-г. арцелі, комуны)[1]). І вось у гэтым процэсе перарастаньня адных форм колектыўных гаспадарак (ніжэйшых у вышэйшыя) у другія ёсьць вельмі шмат цікавых момантаў, вывучэньне якіх карысна ў практычных мэтах, а таксама і для вывучэньня гісторыі колгаснага руху. Перарастаньне ніжэйшых форм колгасаў у вышэйшыя адбываецца нату-

[1])

| Віды колгасаў | Лік колгасаў у %% | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1926/27 г. | 1927/28 г. | 1928/29г. | 1929/30 г. |
| Комуны . . . . . . . | 11,1 | 7,6 | 6,2 | 7,3 |
| С.-г. арцелі . . . . | 71,0 | 77,6 | 82.9 | 83,5 |
| Таварыствы . . . . . | 17,9 | 14,8 | 10,9 | 9,2 |

ральна па тэй простай прычыне, што вышэйшыя формы (арцелі, комуны) найбольш адпавядаюць вымаганьням найбольшай таварнасьці пры моцнай тэхнічнай базе вытворчасьці, прычым с.-гаспадарчыя таварыствы зьяўляліся толькі школай, падрыхтоўчай ступеньню да організацыі больш дасканалага тыпу социялістычнае гаспадаркі — с.-г. арцелі і комуны. Памятаючы, што ў колгасным будаўніцтве мы маем процэс аб'яднаньня дробных уласьнікаў з няжжытай дробнаўласьніцкай псыхолёгіяй, мы вельмі часта можам мець і факты выхаду з колгасаў і розныя індывідуалістычныя праяўленьні. Адсюль трэба зрабіць вывад, што мы павінны стымуляваць скарэйшае перарастаньне ніжэйшых відаў колгасаў у вышэйшыя. Удзел у гэтым павінны прыняць і краязнаўцы, на падставе належных матар'ялаў даказаўшы выгоднасьць і неабходнасьць ускарэньня гэтага процэсу і прыняўшы ўдзел у распрацоўцы (пасьля папярэдняга вывучэньня) найлепшых форм організацыі вышэйшага тыпу колгасу, прычым пры вызначэньні тыпу гаспадаркі трэба мець на ўвазе не ўстаўную яе старану, а ступень колектывізаванасьці гаспадаркі і яе разьмер, які вызначаецца ўстанаўленьнем кошту асноўных сродкаў вытварчасьці колектыўнае гаспадаркі.

Процэс аб'яднаньня пахаці і сенажацяй, абагульненьня буйное жывёлы і сельска-гаспадарчага інвэнтару і г. д. пры няжжытай яшчэ псыхолёгіі індывідуаліста-земляўласьніка прыводзяць да конфліктаў паміж паасобнымі членамі колгасаў, ня страціўшымі яшчэ індывідуальных імкненьняў, і колектывам. Возьмем, напр., такія факты, як продаж скаціны, ужо юрыдычна замацаванай за колектывам і якая фактычна (з прычыны адсутнасьці агульных хлявоў) знаходзіцца часова ў карыстаньні свайго былога гаспадара, збыт інвэнтару і г. д.; такія і падобныя факты сьведчаць ня толькі аб цяжкасьцях колгаснага будаўніцтва, але і аб перашкодах, якія маюць месца у гэтым будаўніцтве. Вывучэньне гэтых перашкод і тормазў ў социялістычным будаўніцтве вёскі нам патрэбна таксама, каб унікнуць іх у далейшым.

У нашых дасьледваньнях колгаснага руху мы павінны ўдзяліць належную ўвагу процэсу ўзбуйненьня існуючых колгасаў, вывучыць шляхі і мэтоды гэтага ўзбуйненьня: аб'яднаньне дробных, карлікавых колектываў, далучэньне паасобных сялянскіх гаспадарак і цэлых груп іх, колектывізацыя цэлых вёсак і зьліцьцё іх з існуючымі колгасамі і інш. І ў даным выпадку мы павінны выявіць найлепшыя спосабы і практыку ўзбуйненьня колгасаў дзеля таго, каб скарыстаць назапасены вопыт і падштрухнуць далейшы процэс узбуйненьня колгасаў і паскорыць пераход да суцэльнай колектывізацыі цэлых сельсаветаў і раёнаў. У гэтым практычная мэтавая ўстаноўка нашых краязнаўчых досьледаў.

Што да вытворчага боку колектыўных гаспадарак, дык яны зьяўляюцца найбольш організаванымі, забясьпечанымі складаным інвэнтаром і тэхнічнымі сродкамі вытворчасьці, найбольш рацыянальна організаванымі вытворчымі адзінкамі з пэўнымі ўхіламі і *спэцыялізацыяй* у разьвіцьці найбольш адпаведных рыначным запатрабаваньням галін сельскае гаспадаркі (зернавыя, бульбяна-малочныя, ільнянапрамысловыя і інш. колектыўныя гаспадаркі). Нашы колгасы даюць новы характар разьвіцьцю нашае социялістычнае гаспадаркі, пабудаванаму на ўлічэньні ўсіх прыродна-географічных і социяльна-экономічных умоў і запатрабаваньняў усяе нашае экономікі.

Мы бачым такія рэконструкцыйныя зрухі ў вытворчасьці нашых колгасаў, як зьмены ў структуры засеваў у колгасах (зьніжэньне за-

севу зернавых культур і павялічэньне засеву больш рэнтабельных тэхнічных культур і траў), пераход ад трохпалёўкі на шматпольле з правільным севазваротам, ужываньне гатунковага насеньня, ужываньне штучнага ўгнаеньня, палепшаньне жывёлагадоўлі і інш. Але трэба сказаць, што гэтыя рэконструкцыйныя зрухі адбываюцца яшчэ ў значнай меры досыць стыхійна, пад гэтыя зрухі не падведзена належная навуковая база, няма належнай плянавасьці, і самыя зрухі і іх тэндэнцыя яшчэ не дастаткова дасьледваны.

Разьвіцьцё нашага колгаснага будаўніцтва ўжо ідзе па шляху стварэньня буйных агро-індустрыяльных комбінатаў, у якіх на мясцовай сыравіннай базе будзе разьвівацца наша мясцовая прамысловасьць. Гэта ідэя пры плянавым яе ажыцьцяўленьні дае нам надзвычайна цікавую пэрспэктыву перабудовы нашай вёскі і ўсяе гаспадаркі. Разьвіцьцё цэлага шэрагу досыць буйных прамысловых прадпрыемстваў, якія ўжо зараз проектуюцца для раёнаў суцэльнай колектывізацыі і пэрспэктывы кватэрнага і іншага жыльлёвага будаўніцтва вымагаюць ад нашых дасьледчых устаноў і краязнаўчых організацый у першую чаргу дасьледваньня прыродных і энэргетычных рэсурсаў свайго сельсавету, раёну: вывучэньне выкапняў, залежаў гліны, маргеляў, торфу і г. д.

Далёка нявывучаным і нявырашаным зьяўляецца пытаньне адносна організацыі працы ў колгасах, а таксама пытаньне аплаты яе і разьмеркаваньня прыбыткаў. Тут няма аднастайнасьці. У той час калі ў адных колгасах пры разьмеркаваньні прыбыткаў улічваліся і сродкі вытворчасьці, і ўзносы ў абагулены капітал, і зямля, у другіх колгасах існаваў ураўняльны прынцып, але, здаецца, пераважным прынцыпам аплаты працы ў даны момант застаецца прынцып аплаты працы па рабоце (па ліку чалавека-дзён); у сучасны момант абгаварваецца пытаньне адносна зьдзельнай аплаты.[1] Дасьледваньні ў гэтым пытаньні павінны ўстанавіць найлепшы прынцып організацыі працы і аплаты яе, маючы на ўвазе павялічэньне продукцыйнасьці працы і падняцьця вытворчасьці гаспадаркі.

У сувязі з карэннымі зьменамі ў гаспадарчых формах і зьмесьце колгаснага будаўніцтва ў параўнаньні з індывідуальнымі сялянскімі гаспадаркамі адбываюцца зьмены і ў быце колгасьнікаў, зьмяняюцца грамадзкія і сямейныя ўзаемаадносіны, выпрацоўваюцца новыя колектывістычныя звычкі. Вывучэньне процэсу бытавых зьмен, процэсу нараджэньня комуністычнага быту, процэсу перамогі новага над старым ў нас яшчэ не наладжана, а гэта вельмі пагрэбна для нашага больш рашучага змаганьня на культурным фронце. Калі ўсе рэакцыйныя сілы (кулацтва, папы, ксяндзы, сэктанты) імкнуцца затрымоўваць і перашкаджаць працоўным масам будаваць сваё новае жыцьцё, дык мы, выходзячы з конкрэтных умоў нашага соцыялістычнага будаўніцтва, павінны прыняць усе захады да найбольш пасьпяховага будаўніцтва новага комуністычнага быту. На вялікі жаль, культурна-бытавыя ўмовы ў нашых колгасах мала зьмяніліся, і праца ў гэтым кірунку вядзецца вельмі слабая. Мы яшчэ ня можам пахваліцца больш-менш прыметнымі дасягненьнямі ў палепшаньні санітарна-гігіенічных умоў жыцьця колгасцаў, у організацыі выхаваньня дзяцей, у рацыяналізацыі працы жанчыны і г. д. Культурна-бытавыя ўмовы, напр., большай часткі колгасцаў Барысаўскага раёну (Менск. акр.)[2] тыя-ж самыя, што і ва-

---

[1] Цяпер пытаньне гэта вырашаецца ўвядзеньнем у жыцьцё новага статуту с-г. арцелі.
[2] „Новы мір", „1 мая", „Усход", „Рой" і інш.

кольных сялян. Праца ў гэтым кірунку мясцовымі культурнымі ўстановамі і працаўнікамі не вядзецца (альбо вядзецца вельмі слаба). Ня толькі радавыя колгасцы, але і кіраўнікі колгасаў не ўяўляюць сабе нават бліжэйшых задач і пэрспэктыў культурна-бытавога жыцьця ў колгасах.[1]) Новыя будынкі будуюцца, выходзячы з меркаваньняў сёньнешняга дня, а не з пэрспэктыў далейшага часу. Усё гэта ўскладае на краязнаўцаў абавязак вывучыць культурна-бытавыя ўмовы жыцьця колгасаў, выявіць усе недахопы і, намеціўшы конкрэтныя пэрспэктывы далейшага будаўніцтва, популярызаваць гэтыя пэрспэктывы сярод колгасцаў, прыняць непасрэдны ўдзел у організацыі і наладжаньні новых умоў жыцьця (дзіцячыя яслі, пляцоўкі, сталоўкі, пральні; організацыя вольнага часу і інш.).

Мы ня будзем ды і ня можам спыняцца на цэлым шэрагу іншых вельмі важных і вельмі сур'ёзных пытаньняў (крэдытаваньне і скарыстаньне крэдытаў у колгасах, эфэктыўнасьць капіталаўкладаньня, рост і скарыстаньне сродкаў вытворчасьці, унутрыколгасныя супярэчнасьці і г. д.), якія для сёнешняга дня маюць актуальнае значэньне. Ахапіць усе пытаньні колгаснага будаўніцтва—значыць ахапіць усе найскладанейшыя пытаньні будаўніцтва новае вёскі і новае соцыялістычнае гаспадаркі і культуры ў вёсцы. Зрабіць гэта зараз немагчыма. Гэта задача ўсіх нашых дасьледчых устаноў і організацый, што працуюць і праводзяць досьледы ў галіне разьвіцьця сельскае соцыялістычнае гаспадаркі. Мы яшчэ раз толькі зазначым, што мы абавязкова павінны дапамагчы перабудове нашай вёскі, прыняць актыўны ўдзел у рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, у кожным выпадку выходзячы з дырэктыў партыі і конкрэтных пляновых установак для данага раёну. Тады тэмы нашых досьледаў будуць жыцьцёвымі, конкрэтнымі і карыснымі для савецкіх і гаспадарчых органаў. Кожны раз трэба брацца за вырашэньне найбольш актуальных задач свайго часу і свайго раёну. Як організаваць вывучэньне тых ці іншых проблем колгаснага будаўніцтва? Пры вывучэньні тых ці іншых пытаньняў колгаснага будаўніцтва ў раёне неабходна скарыстаць усе пісьмовыя матар'ялы (пастановы сходаў паасобных вёсак, спэцыяльных нарад, пастановы сельсаветаў і РВК, пляны і справаздачы колгасаў, рахунковыя кнігі і ведамасьці колгасаў і іх аб'яднаньняў і матар'ялы краязнаўцаў-колгасьнікаў і краязнаўчых гурткоў у колгасах (дзеньнікі, напр.), матар'ялы пэрыодычнага друку, прыватныя лісты і запісы, сабраць весткі ад непасрэдных організатараў колгасаў (кіраўнікоў, радавых колгасьнікаў) шляхам непасрэднага ці анкетнага апісаньня. Непасрэднае вывучэньне сучаснага становішча колгасаў і захаваных помнікаў іх мінулага жыцьця павінна легчы ў аснову дасьледваньня колгаснага руху ў раёне.

Нялішнім будзе зьвярнуць увагу на неабходнасьць некаторай асьцярожнасьці і належнай крытычнасьці пры карыстаньні вышэйпаказанымі матар'яламі. Статыстычныя лічбовыя даныя, якія ёсьць у колгасах, часта бываюць няпоўнымі і недакладнымі. Гэта асабліва трэба сказаць пра запісы мінулых гадоў, калі справаздачнасьць у колгасах альбо зусім адсутнічала, альбо была пастаўлена нездавальняюча. Прыходзілася сустракацца з выпадкамі, калі ў інвэнтарных кнігах ня былі запісаны нават машыны, набытыя ў 1929 г., прапускаліся запісы прыросту маладняка (у некаторых колгасах Барысаўск. р.); ацэнка будынкаў зусім не адпавядала іх сапраўднай каштоўнасьці і інш. Значыць, гэтыя да-

[1]) Артыкул напісан у пачатку студзеня м-ца.

ныя мы павінны будзем правяраць і папаўняць з іншых крыніц. Пры карыстаньні прыватнымі запісамі, лістамі і інш. падобнымі матар'яламі трэба заўсёды лічыцца з тым, кім і каму і з якой мэтай яны пісаліся. Калі гэтыя лісты ці запісы рабіліся нашым клясавым ворагам, чалавекам, які варожа ставіўся да колгаснага будаўніцтва, дык тады мы будзем мець адну ацэнку фактаў, калі мы будзем мець справу з матар'яламі (лістамі, запісамі) прыхільнікаў колгаснага будаўніцтва, будзем мець іншы падыход да справы і іншую ўстаноўку [1]). Зразумела, што пры ацэнцы і скарыстаньні падобнага роду матар'ялаў мы павінны будзем заўсёды лічыцца з клясавай прыналежнасьцю і ідэолёгіяй аўтараў іх. Падыход павінен быць крытычным.

Вывучэньне колгаснага будаўніцтва ў раёне будзе складацца з вывучэньня паасобных пытаньняў, тых ці іншых проблем. Як-жа практычна паставіць вывучэньне якога-небудзь пытаньня? Возьмем для прыкладу такую тэму, вызначаную Колгассаюзам, як „Выяўленьне відаў і раёнаў саматужнай вытворчасьці і пэрспэктывы яе разьвіцьця ў колгасах у сувязі з аслабленьнем часткі рабочай сілы пры колектывізацыі". Пытаньне, бязумоўна, актуальнае. Вывучэньне гэтага пытаньня прыблізна можна арганізаваць такім чынам:

1. Выявіць у раёне дасьледваньня тую рабочую сілу (лік мужчын, жанчын, падлеткаў), якая аслабанілася ў сувязі з колектывізацыяй, і час, у які можа скарыстоўвацца гэтая сіла ў саматужнай прамысловасьці (восень, зіма, увесь год, колькі дзён); выявіць спэцыялізацыю і кваліфікацыю гэтае сілы.

2. Вывучыць пашыранасьць саматужных промыслаў у даным раёне (раней і цяпер); запатрабаваньні на тыя ці іншыя продукты саматужных вырабаў; рынкі збыту і ёмістасьць іх; спосабы і організацыю збыту; запасы сыравіны для розных галін прамысловасьці (ткацтва, ганчарства, апрацоўка дрэва, саломы і інш.).

3. Дасьледваць тэхніку паасобных галін прамысловасьці і магчымасьць яе палепшаньня.

4. Праз адпаведныя ўстановы і організацыі паставіць на абгаварэньне вынікі папярэдняга дасьледваньня на спэцыяльных нарадах з удзелам спэцыялістых тых ці іншых галін прамысловасьці, прадстаўнікоў коопэрацыі і іншых зацікаўленых організацый. Прыняць удзел у складаньні конкрэтнага пляну організацыі і разьвіцьця вызначанай для пашырэньня галіны прамысловасьці.

5. Популярызаваць складзены плян разьвіцьця тае ці іншае галіны прамысловасьці сярод колгасцаў і потым працягваць досьледы па вывучэньню разьвіцьця гэтае прамысловасьці з мэтай яе ўдасканаленьня і пашырэньня. Вынікі праведзенай дасьледчай працы неабходна популярызаваць сярод шырокіх працоўных мас шляхам пастаноўкі адпаведных дакладаў і праз друк.

Вось прыблізная схэма вывучэньня аднаго з пытаньняў, якая, бязумоўна, можа быць зьменена адпаведна конкрэтным мясцовым запатрабаваньням і пашырана ў програму ў процэсе самае працы.

Дасьледчык колгаснага руху павінен цьвёрда стаяць на грунце матар'ялістычнага дыялектычнага сьветапогляду і карыстацца мэтодам дыялектычнага матар'ялізму, вывучаючы ўсе зьявы і факты ў іх узаемнай сувязі, прычыннай залежнасьці, выяўляючы ўсе супярэчнасьці

[1]) Мне найбольш вядома перапіска чырвонаармейцаў з бацькамі, дзе выяўляліся часамі дыямэнтральна-процілеглыя адносіны да колгаснага будаўніцтва.

як знадворныя, так і ўнутраныя, што вядуць да новых зьяў і ні на хвіліну не забываць аб клясавай барацьбе,якая адбываецца ў сувязі з соцыялістычным наступам на капіталістычныя элемэнты вёскі ў сувязі з колгасным будаўніцтвам і організуючай ролі політыкі Компартыі ў справе пабудовы новых форм соцыялістычнага жыцьця.

---

М. Касьпяровіч.

# Для чаго і як вывучаць быт дзяцей.

Ня гледзячы на даволі значныя агульныя посьпехі беларускага краязнаўства ў галіне гуманітарнай, вынікі этнографічнай краязнаўчай працы яшчэ вельмі малыя. Сабрана, праўда, даволі шмат, але выпадковых запісаў фольклёрных тэкстаў, адарваных ад абрадаў, рэчаў і дзеяў з імі зьвязаных, зроблена некалькі апісаньняў сялянскіх абрадаў, сколекцыянавана некалькі выпадковых узораў сялянскіх тканін — вось і ўсё пакуль што. Поўных, сталых і сыстэматычных этнографічных збораў і досьледаў нашы краязнаўцы яшчэ не рабілі. Значнай перашкодай служыла непадрыхтаванасьць краязнаўцаў-этнографаў, адсутнасьць мэтодычнай этнографічнай літаратуры і адпаведнага кіраўніцтва. Прынамсі вывучэньне дзяцінага быту, наколькі нам вядома, яшчэ ні разу нават ня ставілася на чаргу ў краязнаўчай працы. Паміж тым яно мае вялізнае практычнае значэньне. Вынікі яго дапамогуць больш дасканала наладзіць школьнае навучаньне і выхаваньне ды праз гэта мацней узьдзейнічаць на быт сям'і.

Вывучэньне дзіцянага быту, як асобнага об'екту этнографічных краязнаўчых досьледаў, вымагаецца, апрача таго, і агульнай дыфэрэнцыяцыяй этнографічнай навукі. Да рэволюцыі пад уплывам прычын, аб якіх няма месца зараз гаварыць, дамагаліся вывучэньня сялян, напр., або купцоў (Грыгор'еў) і інш., лічачы толькі іх народам, асновай, самабытнасьцю нацыі. Апрача таго, не вылучаліся об'екты вывучэньня па ўзросту, профэсіі, клясаваму стану і г. д., у выніку чаго ўласьцівасьці якога-небудзь старога селяніна часамі выдаваліся за агульныя ўласьцівасьці ўсіх людзей, узростаў і г. д. Каб выканаць сапраўды навуковае этнографічнае вывучэньне раёну, трэба дыфэрэнцыяваць об'екты вывучэньня ў ім.

Як і ва ўсёй іншай краязнаўчай працы, пры этнографічным вывучэньні раёну наогул і пры вывучэньні быту дзяцей, прыватна, абавязкова трэба праводзіць дзейны клясавы прынцып. Бясклясавасьць, беспартыйнасьць не павінна мець месца. Для кожнага зразумела, што свае досьледы этнограф-краязнаўца павінен праводзіць у першую чаргу над дзецьмі рабочых і сялян беднякоў і серадкякоў. Быт дзяцей кулакоў і нэпманаў, калі і павінен вывучацца, то толькі для больш поўнага і ўсебаковага выяўленьня клясавага змаганьня, якое мае месца і сярод дзяцей.

Але клясавы зьмест дзяцінага быту часта выяўляецца ў нацыянальных формах. Таму беларусы, татары, цыганы, жмудзіны, палякі, яўрэі і г. д. павінны вывучацца адмысловымі досьледамі і, пажадана, каб, калі не прадстаўнікамі ўласна гэтых нацыянальнасьцяй, то асобамі, якія ведаюць іх мову, асаблівасьці іх быту і да т. п., ды могуць наблізіцца да іх

жыцьця і апісаць яго. Больш таго — адмыслова трэба вывучаць і паасобныя групы аднэй якой-небудзь нацыянальнасьці, калі яны этнічна (гаворкай, мовай, адзежай, набыткам, песьняй, і да т. п.) значна розьняцца адна ад другой.

Далей быт гарадзкога пролетарыяту адрозьніваецца ад быту вясковага, а часамі і быт розных профэсій розьніцца паміж сабой, што таксама трэба мець на ўвазе. Цацкі, гульні, дапаможная праца і г. д. дзіцяці рыбака, селяніна, гутніка і інш., як відаць, будуць даволі розныя.

Урэшце трэба вылучыць асобныя ўзроставыя групы, як об‘екты самастойных досьледаў. Недарэчна-б было злучаць у адну групу забабоннага дзеда з ваяўнічым піонэрам, немаўлятка з двaццацігадовым хлопцам і г. д. Пакуль што яшчэ цяжка дакладна распадзяліць кожны з памянёных об‘ектаў этнографічнага вывучэньня па ўзросту. Але ў асноўным трэба вымагаць, каб 0 — 3 гадовыя, 3 — 14 гадовыя, моладзь, дарослыя і старыя вывучаліся асобна. Гэтыя пяць узроставых груп вылучаюцца з усяго насяленьня, не адно ўсімі сваімі ўзроставымі асаблівасьцямі, але і сваёю экономічнаю роляю.

Дзеці 3—14 год, аб якіх уласна і будзеісьці гутарка, маюць свой быт выразна адасоблены ад быту іншых узроставых груп. Апрача таго, некаторыя асаблівасьці яго зьяўляюцца найстарадаўнімі перажыткамі, якія сярод іншых узростаў ужо даўно ня бытуюць. На апошніх толькі часамі спынялася ўвага ранейшых дасьледчыкаў, але іх наглядані з прычыны гэтага носяць адрывачны выпадковы характар і, ва ўсякім разе, зусім не адлюстроўваюць усяго дзяцінага быту. Дзяціны быт на Беларусі — зусім новая галіна досьледаў для нашых краязнаўцаў-этнографаў. Ён павінен вывучацца цалкам і ўсебакова, а не ў паасобных праявах або галінах яго. Культура матар‘яльная, так званая духоўная і соцыяльная ўзаемна прасякаюць адна другую і ў справе этнографічных досьледаў няма рацыі цалкам адрозьніваць іх адну ад другой. Тым болей павінна мець месца гэтая суцэльнасьць і ўсебаковасьць вывучэньня ў галіне дзяцінага быту. Зусім зразумела, што ні ў якім разе не выпадае зьбіраць матар‘ялы і вывучаць толькі асобныя моманты дзяцінага быту. Фольклёр, напр., забабоны, веды і да т. п. павінны вывучацца разам з адпаведнымі матар‘яльнымі зьявамі, а не асобна ад іх. Дзяціны быт павінен быць усебакова вывучаны як па лініі матар‘яльнай, так і па лініі так званай духоўнай культуры. Пры гэтым прыдзецца, зразумела, высьветліць ролю і месца дзяцей у сям‘і, грамадзе, гаспадарцы і г. д. ды ўзаемаўплывы паміж гарадзкімі і сельскімі дзяцьмі і іншымі групамі вышэйпамянёных об‘ектаў этнографічнага вывучэньня раёну. Таксама трэба высьветліць, якія існуюць узаемаўплывы паміж дзяціным бытам паасобных сельскіх мясцовасьцяй, што ўласна пераймаецца і ад каго, як доўга захоўваецца і інш. Усе досьледы дзяцінага быту раёну павінны быць сталымі і сыстэматычнымі на працягу доўгага часу, бо ён зьмяняецца адпаведна порам году, г. зн. мае свой дзяціны бытавы каляндар. Трэба, каб этнограф-краязнаўца выпрацаваў сабе адмысловы стацыянарны мэтод падыходу да дзяцей, навучыўся сябраваць з імі, быў з імі ўвесь час, стаў сярод іх сваім наогул. У іншым выпадку яму цяжка будзе перамагчы сарамлівасьць дзяцей, іх пасыўныя адносіны і г. д., словам усе тыя перашкоды, якія могуць спаткацца ў справе вывучэньня дзяцінага быту раёну.

Урэшце трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што дзяціны быт раёну павінен вывучацца цалкам не адно ў сэнсе апісаньня ўсіх дэталяй яго, але і ў сэнсе бытаваньня іх. Для этнографа-краязнаўцы ня можа быць аднабаковых задач адшуканьня якіх-небудзь перажыткаў. Ён павінен цікавіцца і ўсталяванымі зьявамі, і парушэньнем іх, і зьменамі іх, і нараджэньнем новых форм і дэталяй, ды станаўленьнем іх і г. д. Больш таго— ён павінен памятаць, што працуе не на ўчарашняе, а на будучае і таму новыя формы павінны асабліва цікавіць яго. Апісваючы, напр., лук са стрэламі ў гульнях неорганізаваных дзяцей, ён павінен яшчэ большую ўвагу аддаваць апісаньням піонэрскіх гульняў і працы, уплыву піонэрскіх організацый і школы на дзяціны быт наогул і г. д. Цікавыя праявы старых формаў дзяцінага быту на новым зьмесьце і новага зьместу ў старых формах, парушэньне старых традыцый і д. т. п. пакажуць этнографу-краязнаўцу тэндэнцыі росту новага дзяцінага быту, дапамогуць рабіць свае практычныя вывады і г. д. Праводзячы магчымае датаваньне пэўных зьяў і формаў ды выяўляючы зьмену іх на працягу часу, выяўляючы іх дынаміку дыялектычным падыходам, этнограф-краязнаўца павінен таксама высьветліць распаўсюджанасьць іх па раёну, картаграфаваць іх. Для гэтага шляхам якаснага і колькаснага падліку прыдзецца вылучыць асноўныя адзнакі, зрабіць спробу клясыфікаваньня тыпаў, памятуючы, што ў такім разе нельга дапушчаць няпоўнага падзелу, ды паасобныя часткі падзелу не павінны супадаць або скрыжоўвацца і ў аснову падзелу пакласьці цьвёрда ўсталяваны прынцып, устоўлівыя, а не выпадковыя адзнакі. Зразумела, што працуючы над дэталямі, трэба ўлічваць цэлае, зразумець на што і для для чаго даная дэталь, зразумець яе ідэю, так сказаць ды адчуць сувязі, асновы аб'яднаньня дэталяй. Напр., вылучаючы адзнакі адзежы для картаграфаваньня яе, можна ўзяць за адзнакі крой, матар'ял, колер, тэхніку і орнамэнт; рэчы матар'яльныя наогул павінны разглядацца залежна ад прызначэньня, матар'ялу, тэхнікі, формы і аздоб. Картня трэба перагружаць, а старацца зводзіць шмат што ў адно або рабіць адмысловыя карты для кожнай зьявы. Зразумела, трэба рабіць усе карты аднолькавага памеру і маштабу. Апрача карт, трэба рабіць пляны, профілі, рысункі і фотографіі. Калі-б краязнаўца-этнограф і ўзяўся за складаную справу выяўленьня эволюцыі якой-небудзь формы або зьявы, то ён павінен зрабіць гэта адносна кожнага тыпу ды не старацца ўсюды адшукаць просталінейную эволюцыю. Але гэта вельмі складаная справа і лепш абмежавацца ўсебаковым апісаньнем дзяцінага быту ды ілюстраваньнем свайго апісаньня памянёнымі плянамі і інш. ды аўтэнтычнымі рэчамі.

Пасьля адпаведнага гістарычна-этнографічнага ўступу да свайго апісаньня этнограф-краязнаўца павінен выканаць уласна апошняе па лініі хатняга, вытворчага і грамадзкага быту ды ідэолёгічных формаў і праяў новага быту. Зразумела, што пры гэтым будзе ўлічвацца і навакольнае атачэньне, напр., агульная хата для сям'і і месца ў ёй для дзяцей, але ўся галоўная ўвага павінна зварачвацца на спэцыяльна-дзяціныя формы і зьявы. Так, у галіне жытла дзеці ня будуюць сабе адмысловых хат, але робяць сабе ў полі ды ў лесе будкі, салашы і д. т. п., у якія хаваюцца ад сьпекі і дажджу, калі, напр., пасуць жывёлу, або проста гуляючы. Апрача таго, трэба апісаць усе іншыя моманты скарыстаньня гатовых зьяў прыроды: дупляў, згрупаваньняў дрэў, ям, пячэр і д. т. п., ды будаваньня адмысловых пабудоў, якія служаць дзецям у якасьці часовага або сталага (напр., у бяспрытульных) жытла.

Дакладныя памеры, пляны, профілі, малюнкі, вераваньні зьвязаныя з пабудовай і скарыстаньнем — наогул, усё, што вымагаецца вышэйзгаданымі мэтодычнымі спосабамі павінна быць выканана. Далей апісваецца ўсё наяўнае абсталяваньне такога жытла і наогул усё начыньне, увесь дзяціны інвэнтар.

Пасьля трэба падрабязна і дасканала апісаць адзежу, якую носяць і асабліва якую робяць сабе самі дзеці: накідкі з конскай цыбулі ад дажджу, капялюшы розных відаў з саломы, лістоў і інш., паясы з кары і д. т. п. Асобна адзначаюцца розныя адмысловыя часткі адзежы і іх роля, напр., піонэрскі гальштук у піонэраў, кулёк у пастушкоў і інш.

Асабліва багатыя дзяціныя аздобы: пер'е ў хлопчыкаў, вянкі з кветак у дзяўчат, пацеркі з ягад і г. д. Апрача апісаньня такіх аздоб, трэба падрабязна апісаць таксама спосабы ды ўзоры фарбаваньня твару і іншых частак цела, якое часамі выконваюць дзеці чарніцамі, натуральнай вохрай, глінай і д. т. п., а таксама маскі, якія яны робяць і носяць у пэўных выпадках, спэцыяльную адзежу пастушкоў і г. д.

Яшчэ больш рознастайнай галінай зьяўляецца харчаваньне і здабываньне яго. Тут трэба пералічыць і дакладна апісаць ды сабраць колекцыі ўсіх расьлін пладоў і карэньняў, што адшукваюць, зьбіраюць ды спажываюць дзеці, як харч, а таксама іх лекавыя расьліны. У даным выпадку, як і ва ўсіх іншых, было-б буйной памылкай ня тут, а асобна, запісваць вераньне, веды, фольклёр і інш., зьвязаныя з рэчамі харчаваньня ды лячэньня. Таксама дэталёва апісваюцца і дзіцячыя напоі і іх здабываньне: бярозавік, кляновік і інш. ды наркотыкі.

Блізка да зьбіраньня жыўнасьці стаіць дзяцінае лавецтва, рыбацтва і пчалярства, якое пераводзіць дасьледчыка-этнографа ў разрэз уласна вытворчага дзяцінага быту. Дзеці ладзяць самыя рознастайныя плёнкі або пляніцы, пасткі і д. т. п. лавіць птушак і малых зьвяркоў ды маюць адмысловыя лукі, стрэльбачкі, прылады з гумкі і інш., пры дапамозе якіх забіваюць птушак і зьвяркоў на пэўнай адлегласьці ад сябе. Проста рукамі, дротам, вудамі, адзежаю, кашалямі, сеткамі і д. т. п. дзеці ловяць ракаў, мянькоў, уюноў і інш. рыбу з берагу і пялёхаючыся ў вадзе. У адпаведных выпадках дзеці рабуюць мёд у чмялёў, а то нават і ў дзікіх пчол, часта робяць з кары вулейчыкі і прабуюць прыручыць у іх чмялёў і г. д. Вось усе спосабы, прылады, прыметы і д. т., п. зьвязаныя з дзяціным лавецтвам, паляваньнем і пчалярствам, этнограф-краязнаўца і павінен апісаць, памятуючы, што асабліва ў даным выпадку ня можна прапушчаць незаўважанай ніводнай дэталі, ніводнай дробязі.

Адмысловай працай дзяцей зьяўляецца паста. Ад гусей, сьвіней, авечак і інш. малады пастушок пераходзіць да кароў і коняй. Пастушковы прылады: пуга, торба, труба, нож, жалейка і інш., выган і паста жывёлы, зварот яе дадому, праца ў полі, гульні там, словам усё ў чым выяўляецца праца і вольны час пастушкоў ды ўсё з імі зьвязанае павінна быць падрабязна апісана этнографам-краязнаўцам. У моцнай сувязі з гэтым стаіць здабываньне, раскладаньне, пераноска і ўжываньне пастушкамі агню—пячы, варыць, грэцца, бараніцца (ад камароў) і інш.

Ня меншую ўвагу трэба зьвярнуць на вывучэньне іншай дзяцінай працы: дагляду і гадаваньня меншых дзяцей, дапамогі матцы ў хаце і на полі ды бацьку ў сельскай гаспадарцы, рыбацтве, пчалярстве і д. т. п. Пры гэтым трэба добра выявіць усю неімаверную эк-

сплёатацыю дзяцей у дробнай сельскай гаспадарцы і распрыгоньваньне іх у комунах і колгасах.

Па лініі грамадзкага дзяцінага быту трэба вывучыць усе асаблівасьці і праявы зьбіраньня дзяцей у кучу для гульні, як праводзіцца складчына і вечарына на яе ў хлопчыкаў і дзяўчат (ёсьць адмысловыя) і ў тых і ў доўгіх разам, якія часовыя і больш сталыя аб'яднаньні ўтвараюць дзеці, для чаго, чым яны зьвязаны і г. д., як трымаюцца ў гурце і інш. Асаблівую ўвагу, зразумела, тут трэба будзе аддаць усебаковаму і падрабязнаму апісаньню працы піонэрорганізацый. Ва ўсёй гэтай працы трэба дакладна апісаць як дзеці праводзяць дзень у розныя поры, як трымаюць сябе з сябрамі (сябруюць, б'юцца і д. т. п.), з дарослымі, з чужымі, з дзецьмі суседніх паселішч і г. д.

У сувязі з усім гэтым трэба апісаць усе праўныя звычаі дзяцей. Далей, па лініі ідэолёгічных форм трэба апісаць, калі дзе такія яшчэ ёсьць, праявы старога дзяцінага быту з абрадавымі гульнямі і інш. У гэтым выпадку, як і ў разьдзеле дзяцінай працы, асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на націск дарослых на дзяцей на сяле. Трэба добра выявіць антырэлігійную ролю дзяцей. Побач, у адсталых кутках, дзе бытуюць, трэба апісаць уяўленьня дзяцьмі чорта, русалак, вісельніка і д. т. п., ды веды і забабоны зьвязаныя з паходжаньнем рэчаў няжывой і істот жывой прыроды, паданьні зьвязаныя з гэтым і інш., а таксама ўсе, так кажучы, веды дзяцей. Зразумела, што тут асаблівую ўвагу трэба аддаць уплыву школы і яе ролі ў распаўсюджваньні сапраўдных ведаў, але бязумоўна не на аглядзе школьнай працы, якая ляжыць у плошчы іншых досьледаў, а на падліку бытаваньня скуткаў яе працы сярод дзяцей і высьвятленьня імі мітолёгічных (якіх уласна) і інш. прадстаўленьняў дзяцей.

Надзвычайна важнай і ўдзячнай задачай у справе вывучэньня дзяцінага быту на данай лініі ідэолёгічных форм зьяўляецца ўкладаньне слоўніка штодзённай дзяцінай мовы, як з слоў адмыслова дзяціных, так і з слоў агульнаўжываных, якія пакажуць абхоп прадстаўленьняў дзяцей і іх лексыколёгічныя запасы. Такі слоўнік мае надзвычайна вялікае навуковае і практычнае значэньне. Побач з ім трэба ўкласьці таксама слоўнікі патаемных дзяціных моваў раёну, якія бытуюць амаль ува ўсіх сельскіх мясцовасьцях і гарадзкіх паселішчах Беларусі.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на вывучэньне дзяцінай творчасьці: архітэктуры, скульптуры, маляваньня, музыкі і тэатру. Дзеці будуюць свае будынкі, лепяць і выразаюць сваю скульптуру, робяць свае музычныя інструманты, на якіх іграюць, рысуюць і малююць, вырэзваюць і выпякаюць розныя ўзоры на рэчах свайго ўжытку, ставяць свае п'есы і г. д. Вось самае дэталёвае апісаньне ўсяго гэтага ды самыя поўныя колекцыі чаго і павінен зрабіць этнографкраязнаўца. Фольклёр, як ужо сказана, трэба абавязкова запісваць з тымі рэчамі і зьявамі, з якімі ён зьвязаны. Але, калі-б і знайшліся такія песенкі, напр., якія ня маюць сталай сувязі з матар'яльнымі зьявамі, то іх тут абавязкова трэба дакладна запісаць з захаваньнем усіх адпаведных правіл.

Побач апісваюцца ўсе дзяціныя гульні, забавы і цацкі ды праявы спорту (плаваньне, канькі і д. т. п.) танцы і інш. з самым дасканалым і поўным пералікам усіх правіл гульняў, апісаньнем процэсу іх і г. д.

Апрача свайго ўсебаковага апісаньня дзяцінага быту адпаведна дзяцінаму бытавому календару, этнограф-краязнаўца можа аформіць сваю працу ў выглядзе выстаўкі на тэму „Дзяціны быт", аддзелу ў музэі і д. т. п. Сваё апісаньне ён павінен апублікаваць для ўсеагульнага ведама. Калі гэта ня ўдасца зрабіць на месцы коштам свае краязнаўчае організацыі, трэба адаслаць сваю працу Катэдры Этнографіі Беларускай Акадэміі Навук (Менск на рагу Ленінскай і Унівэрсытэцкай; перасылка лістоў і пасылак вагой да 32 клг. дармовая), дзе яна будзе захоўвацца і чакаць адпаведнага апублікаваньня з захаваньнем усіх аўтарскіх правоў яе аўтара. Там яна будзе зарэгістравана як навуковая праца і павялічыць багацьце беларускай савецкай навукі.

Зразумела, што мэтавай устаноўкай вывучэньня дзяцінага быту зьяўляецца ўсебаковае палепшаньне яго. Пра барацьбу за новы быт наогул, а значыць і дзяцей, гаварылася шмат. Але сапраўдны пераможны поступ новага быту ідзе поруч з рэконструкцыяй гаспадаркі на новых колектывістычных началах і запануе ў комуне. Таму апрача сваёй данай мэтавай устаноўкі, этнограф-краязнаўца на грунце заснаванай ім цеснай сувязі з дзяцьмі ў часе сваёй дасьледчай працы над гэтай тэмай павінен стымуляваць іх змаганьне за колектывізаваньне сельскай гаспадаркі, організаваць яго і ўсямерна дапамагаць, бо толькі ў комуне, са зьменаю ўсяе гаспадаркі, будзе зьнішчана неімаверная эксплёатацыя дзяцей, якая пануе ў дробнай індывідуальнай гаспадарцы, а з гэтым запануюць зусім новыя формы дзяцінага быту распрыгоненых вольных дзяцей. І ў гэтым дасягненьні будзе значная кропля заслугі этнографа-краязнаўцы як у відзе свае дасьледчае працы, так і ў выглядзе непасрэднага ўдзелу ў творчасьці соцыялістычнага ладу.

---

**А К. Супінскі.**

# Да пытаньня аб некаторых усходніх элемэнтах у беларускім народным мастацтве фарбаваньня.*

Запісы аб нашым народным фарбаваньні маюць настолькі выпадковы характар, што агульнае становішча пытаньня яшчэ доўгі час ня зможа выйсьці з круга зьбіраньня матар'ялаў. Паводле гэтага, вельмі цяжка рабіць тыя ці іншыя вывады, тым болей адшукаць пэўныя крыніцы пахаджэньня бытуючага яшчэ ў сучасны момант орнамэнтаванага фарбаваньня. Тое, што мы маем у сваім распараджэньні, дазваляе толькі зрабіць некаторы падыход да орыентацыі асабліва характэрных адзнак у сэнсе іх першапачатковай апрацоўкі і сыстэматызацыі. Але і тут справа можа пасунуцца належным чынам толькі тады, калі будзе больш-менш наладжана зьбіраньне і вывучэньне ня толькі фарбаваньня, але і генэтычна зьвязаных з ім узораў тканіны і вышывак.

Тэхніка ўсіх трох відаў народнага мастацтва апрацоўкі і аздабленьня адзежы была значна высокай яшчэ ў дагістарычную пару для

* Артыкул зьяўляецца вынятках з дасьледчай працы па гісторыі беларускай жаночай вопраткі.

ўсходніх славян. Для 11—12 стаг. археолёгічныя досьледы пахаваньняў далі надта прыгожыя фрагмэнты вопраткі з высокай тэхнікай вырабу. Гэткімі зьяўляюцца крывіцкія астанкі з пахаваньняў, дасьледваных Н. І. Булычовым, А. А. Сьпіцыным і Эйбожэнко, якія сьведчаць нам аб знаёмстве крывічоў з тэхнікай бранага і тканага каляровымі ніткамі геомэтычнага ўзору.

З другога боку, блізкі да крывіцкіх па хараству вырабу фрагмэнт з раскопак В. А. Гарадцова (Падболцьеўскі магільнік), ахварбаваны індыга як і шоўкавая тканіна з вышэйпамянёных крывіцкіх знаходак Н. І. Булычова, некалькі абгрунтоўваюць пашыраную думку аб моцных сувязях славян з усходам.

Н. Н. Собалеў, лічачы Індыю бацькаўшчанай набіўной справы, гаворыць аб значным яе ўплыве на вырабы нашых продкаў. Па яго думцы, Хамаўныя вёскі пад Масквой атрымалі сваё прозьвішча ад вырабу баваўнянай тканіны з індускаю назваю „хаман“.

Аб сувязях з Індыяй, як і наогул аб усходніх уплывах, гаварыў яшчэ і В. Стасаў, у працу якога аб вышыўках увайшло і вывучэньне беларускіх узораў з Смаленшчыны, Віцебшчыны і Горадзеншчыны. Пахаджэньне геомэтрычнага, расьліннага і жывёліннага орнамэнту ён шукае пераважна на ўсходзе.

Знаёмую беларусам (Менскі і Віцебскі Дзярж. Музэі; крывіцкая кераміка з колекцый Н. І. Булычова) свастыку шэраг вучоных лічыць індускай, распаўсюджанай у сувязі з уплывам будызму. Гэткую думку выказалі: нямецкі вучоны Wilke, той-жа В. Стасаў і інш.

А. А. Бобрынскі, ня выказваючы рашучых поглядаў, усё-ж грунтуецца пераважна на дыванных узорах Каўказу, Паміра, археолёгічных матар'ялах Грэцыі і інш.

Некалькі асобна стаіць погляд Б. А. Куфціна, які хоча бачыць у славянскай свастыцы продукт іх блізасьці да фінаў.

Спрэчнага многа, але шурпатасьць пытаньня аб старажытных элемэнтах усходня-славянскай культуры зьмяншаецца з кожным крокам. У той-жа час патрэбна адзначыць, што орыентацыя на ўсход ня можа страціць сваёй вастраты, як нельга адмовіцца ад яе правадзейнага значэньня ў далейшых досьледах.

Такога напрамку прыходзіцца трымацца і мне ў тлумачэньні элемэнтаў зарэгістраванага летам 1929 г. у Лепельшчыне спосабу фарбаваньня ільнянай тканіны. Пазнаёміла мяне з ім сялянка з вёскі Слабада, Асецкага сельсавету, Менскай акругі Дар'я Максімаўна Вашкевіч, але аб ім захаваліся весткі, яшчэ знаёмыя самому маладому пакаленьню, у суседняй вёсцы Стволна, Домжэрыцкага сельсавету. Гэты спосаб складаецца з наступнага: кужэльная тканіна фарбуецца ў адзін колер, напр. зялёны; зьбіраецца гладкае невялічкае каменьне, аднолькавае па велічыні і ўвязваецца моцна ў тканіну, згодна запатрабаваньняў узору. Пасьля гэтай падрыхтоўкі выраб зноў апушчаецца ў хварбу, але ўжо іншага колеру, напр. чырвонага. Атрыманы ўзор: па чырвонаму полю раскіданы зялёныя кружкі ў крыж ці іншымі комбінацыямі.

Фарбаваньне ў вёсцы Слабада не стаіць адзінока. Блізкі яму спосаб знаходзім у Індыі пад вядомым прозьвішчам „Bandana“ (нямецкае Binden). Марудная тэхніка яе ня згінула і цяпер, але дажывае апошнія часы, разам з каставай цэхаўшчынай. Рамесьніцкая вытворчасьць банданы залежыць цалкам ад капіталістаў-скупшчыкаў, штучна забараняючых жыццё выгаднае для іх справы за кошт эксплёатацыі рабочых, чаму дапамагае нізкая аплата іх працы (15—20 кап. у дзень).

Выраб банданы індускай тэхнікай мае глыбокую старажытнасьць і першыя матар'яльныя помнікі яе высокай апрацоўкі сустракаем на абкладках кніжак з Хара-Хото 11 ст. (экспэд. Каззова). Спосаб яе афарбоўкі мае шэраг варыянтаў, але з іх ліку мы прыводзім малюнкі двух — многакаляровага і аднакаляровага (Музэй антраполёгіі і этнографіі Акадэміі Навук СССР №№ 3166—233; 3164—11; 3164—12). Першы з іх—афарбаваная ў сьветла-жоўты колер шоўкавая тканіна, па ўсім полі якой былі завязаны сэмэтрычным узорам малюсенькія вузялкі,



Мал. А. Крашаніна з вёскі Слабада, Асецкага с/с, Менск. акр.

захаваныя пад шчыльным слоем шоўкавых нітак, каб не дасягнула іх другая фарба, у якую апушчаецца падрыхтаваная такім чынам тканіна. Па новаму, ужо зялёнаму полю, той - жа тэхнікай павязаны дадатковыя, некалькі большыя вузлы і адчынены макушачкі вузялкоў з жоўтай афарбоўкай тканіны. Новая комбінацыя апушчана ў трэцюю карычневую фарбу, а пасьля прасушкі адчыненыя вузлы далі ўзор: карычневае поле орнамэнтавана зялёнымі і жоўтымі з карычневымі макушкамі вочкамі. Уся тканіна мае дужа прыгожы выгляд. (Мал. В).

Больш часу адымае выраб аднакаляровага варыянту, дзе вузялкі застаюцца не адчыненымі і складаюць узор. Тэхніка павязваньня вузлоў тая самая, толькі тонкая баваўняная тканіна кладзецца пластом у тры рады, каб атрымаць магчымасьць выбіраць вузлы буйныя і дробныя. Па сканчэньні вывязваньня ўзору выраб апушчаецца яшчэ раз у хварбу таго-ж колеру. Гатовы матар'ял ужываюць на коўдры інш (Мал. С).

Вызначаная блізасьць беларускай ахварбоўкі да індускай банданы ня выклікае сумненьня, але можа разглядацца з двух бакоў: а) як зьявішча падзеленай культуры і в) як продукт былых зносін з усходам. Што з іх мае большую праўдзівасьць пакуль што вырашыць трудна, асабліва пры адсутнасьці сьлядоў нейкага выпаўшага зьвяна. Усё-ж

у большай колькасьці ёсьць падставы думаць аб залежнасьці ад усходніх беларускага спосабу, магчыма, узьнікшага на глебе зносін з Сярэдняй Азіяй. У такой думцы падтрымоўвае нас досыць шырокае бытаваньне тэхнікі завязваньня па ўсёй Сярэдняй Азіі ў яе рознастайных вырабах. Блізкім прыкладам такіх вырабаў могуць служыць шоўкавыя коўдры з Бухарскай, Самаркандзкай і Фэрганскай акруг, афарбоўка якіх была абмалявана ў дакладзе В. В. Екімавай, яшчэ не адбітым у друку.



Мал. В.

Цікава, што параўнаньне беларускага фарбаваньня з вёскі Слабада з індускай банданай выяўляе значную прымытыўнасьць першай, застыўшай на адным з этапаў далейшага разьвіцьця тэхнікі.

Мне здаецца, што акрамя агульных гістарычных умоў, тут адыграла ролю адсутнасьць тонкай ядвабнай ніткі, неабходнай у разьвіцьці тэхнікі банданы і пашырэньне багатай па ўзоры і больш лёгкай па тэхнічнаму выкананьню набойкі. На вялікі жаль, аб апошняй мы знаем таксама ня многа, дзякуючы позьняму зьбіраньню матар'ялаў і краязнаўчаму ўхілу ў яго вывучэньні, што адбілася ў працах беларускіх дасьледчыкаў Я. Фурманава, А. Шлюбскага і Зм. Даўгяла.

Погляд на беларускую набойку, вырабленую тэхнікай батыкі, нібы-та яна зьявілася з Францыі, куды пранікае з Ост-Індыі ў выглядзе „фарфаравага“ ці „васковага“ спосабаў, мае вельмі мала падстаў. Шляхі яе не Беларусь мусіць тыя, што і ў набойкі тыпу „Chhapa“ орнамэнту пісанак, альбо фарбаваньня з вёсак Слабада і Ствольна.

Таксама нельга ўпэўнена зацьвярджаць і расійскае пахаджэньне набойкі наогул. Выключна шчасьлівыя ўмовы, захаваўшыя яе матар‘яльныя астанкі 12 ст. (адзежа Варлаама Хутынскага), як і ўспаміны,



Мал. С.

адлюстраваныя ў вуснай творчасьці народу (Голой Шан Давыд Попов приходил ко ласкову князю з подарками, принес сукно смурое, да крашенину печатную; па Арыставу, ст. 137, увага 423), яшчэ не гаворыць, што набойка беларусам у гэты час ня была знаёма. Простае параўнаньне (ня кажучы ўжо аб вывучэньні) набойных дошчак беларускіх, расійскіх з індускімі „Chhapa“ можа засьведчыць аб розных шляхох разьвіцця набойкі ў кожнай народнасьці асобна, ня гледзячы на магчымасьць агульнай крыніцы пахаджэньня. Гэта патрабуе новага і больш паглыбленага перагляду пытаньня ў шчыльнай сувязі з вы-

вучэньнем існуючых слядоў батыкі на крашаніне, пісанках, скарыстаўшы матар'ялы вышывак і археолёгічных досьледаў.

Пакуль-жа задача павінна стаць у тыя межы, якія так яскрава вызначыў нямецкі вучоны Турнвальд у наступным: „если период первоначального музейного собирательства в этнологии прошел, то прошол так-же и период поверхностных обобщений, обычно не свободных от предвзятости... Необходимо неутомимое накопление нового матариала, с учотом всей сложности действенных социально психологических отношений племен и элементов культуры" (Русский антропологический журнал, т. I, вып. 2—1, ГИЗ, 1928, стр. 65).

---

# Програма для зьбіраньня і запісваньня вуснай народнай творчасьці.

I.

Вуснай народнай творчасьцю называем усякі пераказ у форме прозы, вершу або сьпеву, які ўтварыўся без дапамогі пісьма і, у ўстаноўленых формах і вобразах, перадаецца з вуснаў у вусны, выражаючы грамадзкую думку, настроі і традыцыі ў сфэры філёзофскай, гістарычнай, соцыяльнай і політычнай.

Запісваньне па БССР мае на мэце: а) магчыма поўна і ўсебакова сабраць вусную народную творчасьць на беларускай мове, каб злажыць і ўпарадкаваць, згодна навуковым сыстэмам, фонд вуснай народнай творчасьці для навуковага карыстаньня; б) сабраныя матар'ялы навукова прааналізаваць на аснове дыялектычна-матар'ялістычнага сьветагляду і марсыцкага мэтоду, у клясавым асьвятленьні; увязаць факты са стадыямі разьвіцьця грамады і патрэбамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Вусная народная творчасьць, адлюстроўваючы ў сабе грамадзкую думку і грамадзкія настроі ад вельмі адлеглых пэрыодаў разьвіцьця чалавецтва аж да сучаснасьці, фіксуе круг пераменных зьяў у пераменных формах, у выніку чаго падзяляецца хронолёгічна на старадаўную і сучасную.

II.

*Пэражыткі старадаўнай вуснай народнай творчасьці,* пераходзячы з пакаленьня ў пакаленьне, адлюстроўваюць сьветапогляд і настроі, якія грамадзтва пэражывала на вельмі адлеглых стадыях свайго бытаваньня; у гэткіх пракаветных пэражытках вуснай народнай творчасьці знаходзяцца каштоўныя даныя да высьвятленьня сьветапогляду і стадый разьвіцьця як усяго чалавецтва, так і паасобных яго груп, з так адлеглых часоў, ад якіх іншых даных не захавалася. А дзеля гэтага вусная народная творчасьць у гэтай галіне, зьяўляецца амаль адзіным матар'ялам, на якім можна грунтваць навуковыя вывады аб далёкай мінуўшчыне, пасьля аналізу іх складовых элемэнтаў у духу матар'ялістычнага разуменьня гісторыі і клясыфікацыі напластаваных на яе розных ідэолёгічных надбудоў, а тым больш рэлігій-

ных сьветаглядаў для выкарыстаньня ў кірунку антырэлігійнай прапаганды. Да гэтай катэгорыі належаць:

а) *Казкі* аб зьвярох, птушках і іншых жывёлах; казкі з дзеямі ў іх сонца, месяца, зорак, грому, віхру, навальніц, вады, зямлі, балот і агня; аб людзях-каменях, рэках, вазёрах і горах; аб „жывучай“ і „гаючай“ вадзе. Казкі аб асілках і волатах; аб Бабе-Язе, Кашчэі бясьсьмертным; аб людаедах і лопаўшчыне; аб зьмеях; аб ведзьмах, ведзьмарох, чараўнікох і ваўкалаках; аб Дамавіку, Лесавіку, Гуменьніку, Добрахоце, Вадзяніку і Русалках. Аб Долі і Нядолі, Споры, Мане і Злыднях.

в) Казкі аб трох, пяці, сямі, дзевяці і дванаццаці братох; аб трох, пяці, сямі і дванаццаці сёстрах; аб добрай падчарыцы і благой мачысе; аб акалечанай мужам жонцы, якая ўзгадоўвае нязнанага бацькам сына.

г) Казкі аб скарбах і іх вартаўнікох; упырох, марах, нябожчыках і загробным жыцьці.

*Легенды*, г. зн. казкі, якія зьвязваюцца з тым або іншым конкрэтным месцам, урочышчам, ракой, балотам, каменем, горкай, будынкам; аб гарадзішчах і магільніках; аб праваліўшыхся пад зямлю ці пад ваду гарадох і будынках.

а) *Песьні* валачобныя, юраўскія, мікольскія, купальскія, русальныя, ралейніцкія, лалымскія, кукольніцкія, шчадроўкі, калядкі, вясьнянкі, масьленыя і багускія; хрэсьбінскія, вясельныя; хаўтурныя і радаўніцкія, галашэньні і прычытаньні.

б) Песьні зажынковыя і дажынковыя, профэсыянальныя; мужчынскія і жаночыя, любоўныя і бытавыя.

*Замовы* ад усялякіх хвароб,—ад урокаў, для пабольшаньня дабрабыту і спору ў хаце, замовы на каханьне і інш.

*Загадкі* на ўсякія рэчы дамовага і па-за дамовага акружэньня чалавека; асабліва каштоўны загадкі ў рытмаванай форме.

*Прыказкі*. Вельмі каштоўна для этнографіі магчыма поўнае сьпісаньне ў данай мясцовасьці прыказак і прыслояў. Прыказкі зьмяшчаюць перажыткі даўнага сьветагляду на розныя жыцьцёвыя зьявы і акалічнасьці, сформуляваныя ў кароткіх сказах і зьяўляюцца ў істоце „народнай моральна-практычнай філёзофіяй“ (Насовіч).

*Прыслоўі* заключаюць у сабе стабілізаваную народную фразэолёгію; яны сьцьвярджаюць бясспрэчна ў сьцісла сформуляваных, агульна прызнаных і прывычных сказах. Прыкладам: Мароз аж пячэ. Дождж ліе, як з лубу. Раса аж зігаціць. Ужо ня рана. Цёмна, хоць вока выкаль.

III.

*Сучасная беларуская народная вусная творчасьць* выражае грамадзкую думку, грамадзкія настрої і сьветапогляд жывых пакаленьняў—старэйшага і малодшага. Гэта народная вусная творчасьць, адлюстроўваючы ў сабе часткова старую спадчыну і для выражэньня новых ідэй патрэб і інтарэсаў, імкнецца свой новы зьмест апрануць у адпаведную яму, сугучную сучаснасьці новую сюжэтнасьць. Сучасная вусная беларуская народная творчасьць падзяляецца на прозаічную і рытмічную або вершаваную. У вытварэньні яе галоўным чыньнікам зьяўляецца беларускі пролетарыят—рабочыя гораду і батрацка-бядняцкія і серадняцкія пласты вёскі. Тэматычна новая беларуская рабоча-сялянская творчасьць уключае клясавае змаганьне, рэволюцый-

ныя падзеі, організацыю новага быту і соцыялістычнае будаўніцтва ў горадзе і вёсцы. Да гэтай творчасьці належаць:

*Казкі* аб панох і сялянах з элемэнтамі асьмейваньня панства; аб купцох і фабрыкантах з іх спосабамі ашукваньня рабочых і сялян; аб панох, ксяндзох, манахах і наогул усякім духавенстве і іх штукарствах у галіне „чудадзейства“, удаванай сьвятасьці, ласасьці да чужых жонак, грашалюбстве і прагавітасьці; аб братох бедным і багатым.

*Легенды і ўспаміны* аб прыгонных часох, панскіх зьдзеках, аб галодных гадох; пошасьцях; аб крыўджаньні панамі батракоў, сялян і рамесьнікаў; пра зьдзерствы і хабарніцтва царскіх чыноў і паліцыі; пра сялянскія бунты, паўстаньні, сялянскія выступленьні супроць паноў на вёсцы і рабочых супроць фабрыкантаў і капіталістаў у гарадох і мястэчках; пра казаччыну, чумаччыну і рэкрутчыну; пра ўсякіх змагароў.

*Успаміны і апавяданьні* пра забастоўкі і дэмонстрацыі ў царскія часы; пра агітатараў у царскія часы, іх хаваньне і арышты; пра нелегальныя сходкі і пашыраныя ў тыя часы адозвы; пра імпэрыялістычную вайну; пра нямецкую і белапольскую окупацыі; пра організацыі паўстаньняў супроць окупантаў; пра расстрэлы окупантамі насельніцтва, падпальваньне імі вёсак і мястэчак; пра зьдзекі ў окупанцкіх турмах; пра змаганьне з бандытызмам; пра Кастрычнікавую рэволюцыю; пра рэволюцыйныя падзеі і перамогу пролетарыяту ў гарадох і вёсках; пра выганяньне паноў і падпанкаў; пра рэволюцыйныя сьвяткаваньні і ўдзел у іх; пра бытнасьць у Чырвонай арміі; пра пераход ад індывідуальнай да аграмаджанай гаспадаркі.

*Апавяданьні* аб фабрыках і заводах, іх організацыі, працы і продукцыі; фабрычнага быту, соцыяльнага складу; характэрных эпізодаў з пераходу да аграмаджанай гаспадаркі; аб паводжаньні кулакоў і контррэволюцыйнай іх агітацыі; аб разбазарваньні жывёлы і спосабах аграмаджваньня жывёлы; апісаньне колектыўных гаспадарак, іх організацыі, працы, продукцыі і новым быце ў колектывах.

*Жарты і прыказкі.* Гумарыстычна-сатырыстычныя жарты і прыказкі на паноў, духавенства, буржуазію і кулакоў; жарты і прыказкі, якія ўзьніклі ў зьвязку з клясавым змаганьнем; жарты і прыказкі рабочых на фабрыках і заводах, у колхозах саўхозах і комунах, якія малююць новы быт, грамадзкі ўздым, клясавыя суадносіны і сучаснае соцыялістычнае будаўніцтва.

*Песьні* аб прыгоне; аб казаччыне, чумаччыне; аб горкай жаночай долі ў час прыгоншчыны; аб бунтарох, бунтох і паўстаньнях да Кастрычнікавай рэволюцыі; профэсіянальныя песьні рабочых на фабрыках і заводах, плытніцкія, бурлацкія, талочныя, беларускія чырвонаармейскія і комсамольскія песьні; рэволюцыйныя беларускія песьні і прыказкі.

## IV.

*Як трэба запісваць.* Запісваць трэба зусім так, як пяюць і кажуць, нічога не пераменяючы і не пераказваючы сваімі словамі.

Запісваць трэба зусім так, як гавораць у данай мясцовасьці і як вымаўляе апавядальнік.

Зрабіўшы запіс, трэба яго перачытаць разам з апавядальнікам і ў канцы запісу папраўіць і дадаць, што ня так запісана або было пра-

пушчана. Месца папраўкі або пропуску ў тэксьце адзначыць цыфрай і пад тэй-жа цыфрай дапісаць у канцы папраўку.

Загадкі трэба запісваць з адгадкамі.

Прыказкі запісваць з тлумачэньнямі, у якім сэнсе іх гавораць.

Песьні запісваць з адзначэньнем як іх пяюць—на адзін голас ці хорам; калі пяюць песьню ў часе працы, пры гульні, у часе вясельля, вясной, восенью і г. д. Калі песьня зьвязана з якім абрадам, то трэба ў канцы песьні падробна апісаць абрад, з якім яна зьвязана.

Пры запісваньні казак, калі якая частка яе напоўпяецца (рэчытатыў), то трэба гэтую частку адзначыць.

Гульні з песьнямі, як карагоды і інш., а таксама дзіцячыя гульні, трэба падробна апісаць усе іх фігуры, лік удзельнікаў і дадаць тэксты песень.

Запісваючы легенды і ўспаміны, трэба выразна паказваць, дзе адбылася легендарная падзея, калі і хто паіменна адыгрываў у ёй ролю.

Апісваючы рэволюцыйныя падзеі, трэба таксама паказваць месца і час і імёны іх удзельнікаў.

Рэволюцыйныя беларускія песьні рабочых, сялянскія, комсамольскія і піонэрскія сьпевы і прыпеўкі запісваць тыя, якіх няма ў друкаваных зборніках або якія маюць свае мясцовыя адменьнікі або дадаткі

V.

*Ад каго трэба запісваць.* Запісваць ад кожнага, хто можа расказаць або прапяяць што з беларускай слоўнай творчасьці ад старых і дзяцей, ад мужчын і жанок, ад пісьменных і няпісьменных з большай увагай да тых, хто ў большай меры мае сувязь з беларускай народнай вуснай творчасьцю. Асабліва-ж пажадана, каб мова апавядальніка выразна адлюстроўвала мясцовы дыялект з усімі яго асаблівасьцямі г. зн. была тыповай для данай мясцовасьці.

**Весткі, якія трэба далучыць да запісаў:**

а) хто пераказаў; яго імя і прозьвішча і ўзрост у ліку гадоў, пісьменны ці няпісьменны; і соцыяльнае становішча (батрак, бядняк, серадняк, рабочы, служачы, кулак і інш.);

б) назву вёскі, сельсавету і раёну, дзе зроблены запіс;

в) хто запісаў і калі—год, месяц і чысло.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

А. Я Крукоўскі.

## Вапняковыя пароды Мазыршчыны.

Вапняковыя пароды Мазыршчыны, як і наагул усе іншыя карысныя выкапні, яшчэ вельмі мала дасьледваны і апісаны.

У геолёгічнай літаратуры, напрыклад, якую можна знайсьці ў акрузе, зусім мала вестак аб вапняковых пародах. Так, у „Геологическом очерке Минской губ., вып. I—П. А. Тутковского“ паказаны ўсяго 4 месцы заляганьня вапняковых парод на тэрыторыі сучаснае Мазырскае акругі, гэта каля х. Лобча Пятрыкоўскага р., каля г. Пятрыкова і Мазыра, каля в. Перарова, Тураўскага р. (у апошнім месцы, па Туткоўскім мэргель пракідаецца нязначнымі конкрэцыямі ў перадледавіковых суглінках).

Такая адсутнасьць даных аб вапняковых пародах часткова служыла тою акалічнасьцю, што мясцовыя вапнякі зусім ў нязначнай меры выкарыстоўваюцца толькі ў г. Мазыры (ёсьць невялікая вапельня), а галоўным чынам для будаўніцтва, вапнаваньня глебы і ўсіх іншых патрэб вапна завозіцца на тэрыторыю акругі.

Патрэбнасьці-ж акругі ў вапне не малыя. У 1930 г. патрабуецца на розныя віды будаўніцтва 4926 тон вапны, на вапнаваньне глебы—14887 тон, а ўсяго 19313 тон, выкананьне-ж астатняе часткі пяцігодкі патрабуе 25106 тон вапны.

Для пакрыцьця азначанае патрэбнасьці вапны, асабліва для вапнаваньня глебы, неабходна выкарыстоўваць і мясцовыя вапняковыя пароды, аб якіх весткі ніжэй і падаюцца.

### Дзе і якая колькасьць вапняковых парод на тэрыторыі акругі.

Паводле няпоўных яшчэ даных на тэрыторыі акругі ёсьць усё-ж значная, хоць і недастатковая колькасьць вапняковых парод, годных часткаю для выпальваньня вапны, а часткаю для вапнаваньня глебы.

Найбольшая колькасьць іх ($CaCO^2$) пашырана на Мазырскіх узгорках, пачынаючы прыблізна ад в. Загорын Каленкавіцкага р. і канчаючы в. Барбароў Нараўлянскага р., на тэй частцы ўзгоркаў, якая прылягае да Прыпяці і зрэзана равамі. Даўжыня гэтае паласы да 35 км. пры сярэдняй шырыні да 3 км. На гэтай плошчы мінімальна налічваецца на паверхні да 400—500 $м.^3$ вапняковага каменьня, ці каля 1500 тон. Але трэба прыняць пад увагу, што частка парод, якая скла-

дае Мазырскія ўзгоркі, даволі багатая вапнякамі, кожным дажджом размываецца, у выніку чаго на дне і прыдонных схілах равоў застаюцца многія тоны вапнякоў.

Зьбіраньне і звоз іх зусім даступны: у кожны роў можна ўяжджаць калёсамі, схілы большай часткі равоў дазваляюць уздымацца па іх для




зьбіраньня вапнякоў, хоць большая частка апошніх спаўзае на дно і прыдонныя часткі равоў.

На прыведзенай плошчы пашыраны наступныя адменьнікі вапнякоў: а) шчытныя, з няпрыкметнымі для вока ракавінамі, белаватыя, сьветла-шэрыя, шэрыя, цёмна-шэрыя, цёмна-шэрыя з ржавымі плямамі, шаравата-жоўтыя, шэрыя з чорнымі крапінкамі і малапрыкметнымі

сьлюдзянымі блёсткамі, плямістыя (шэрыя з цьмяна-ружовымі, жаўтавымі плямамі і жыламі), сьветла-жоўтыя, сьветла-жаўтавыя з жоўтымі плямамі; частка з іх добра ўскіпае з халодным салянам квасам, частка толькі сычыць, або вельмі марудна ўскіпае; б) ракавістыя і плотныя порыстыя вапнякі сьветла-жоўтыя, шаравата-жоўтыя, шэрыя, цёмна-шэрыя, бураватыя, плямістыя (шэрыя з цьмяна-ружовымі, жоўтымі плямамі і жыламі); в) цьвёрдыя плітчатыя, слаба-слаістыя з пахам гліны мэргелі, шэрыя, шэра-жаўтаватыя, шэрыя з жаўтавым адценьнем і жоўтымі плямамі, з малапрыкметнымі сьлюдзянымі блёсткамі. Гэтыя плітнякі дасягаюць у рэдкіх выпадках да 2-3 пудоў вагою. Частка з іх з халодным саляным квасам толькі сычыць, ці марудна ўскіпае, частка добра ўскіпае.

Акрамя прыведзеных груп на тэй-жа тэрыторыі пашыраны яшчэ вапняковыя сьцягваньні (стяжения) гэта жураўчыкі, дуцікі, жалвакі і радзей паграмкі (орляки). Назіраюцца рэдкія выпадкі, што некаторыя вапняковыя сьцягваньні, сцэмэнтаваныя глінай і вапнай з дамешкай кварцавага і гранітнага шчэбню, напамінаюць па сваёй форме ўтварэньні конглёмэраты.

Але апрача ўсяго пералічанага, у вак. г. Мазыра (гл. карту) у сярэдняй частцы ус. веткі Сьвідоўскага рову, прылягаючай да вур. Кальварыі, у сярэдняй частцы Калініцкага рову (ён перасякае горад) у верхняй частцы веткі таго-ж рову, прылягаючай да Міхалкаўскага тракту, у сярэдняй частцы Салаўёўскага рову (недалёка ад гарадзкое скатабойні), пры дне равоў (гэта на глыбіні каля 40 мэтр., лічачы па простастаўнай ад паверхні), выступае мяккі, у сырым стане цёмны, сінявата-шэры мэргель. Натуральнае абгаленьне яго відаць у 3-х равох на працягласьці каля 0,5 клм., сярэдняя тоўшча пласту складае 1 м. Паводле ўмоў раўчаговае мясцовасьці слой мэргелю магчыма выкопваць у глыб сьцен равоў ня менш, чым на 3 м, такім чынам толькі відныя ў 3-х равох поклады даюць да 1500 куб. м. мэргелю, ці 2850 тон.

Але нам думаецца, што выхады памянёнага пласту мэргелю, або зусім няглыбокае заляганьне ад дна равоў ёсьць яшчэ і ў іншых шматлікіх равох у вак. г. Мазыра. Справа ў тым, што знойдзены мэргель у пералічаных равох, судзячы па яго глыбіні заляганьня ад паверхні, яго колеры, адпавядае таму пласту мэргеля, які пройдзены другою сьвідравальнай дзіркай у г. Мазыры, на вул. Новае Страеньне (гл. Туткоўскага, ч. І-ю). Ва ўсякім выпадку выхады аднатыпнага мэргелю ў трох равох гавораць за значнае пашырэньне яго і зусім-бы добра было правесьці дакладную геолёгічную разьведку гэтых пакладаў, хоць яны залягаюць на значнай глыбіні, але дзякуючы густой сетцы равоў, маглі-б быць у вялікай колькасьці выкарыстанымі. Дакладная геолёгічная разьведка разам з тым можа яшчэ-б выявіла і мажлівасьць выкарыстаньня другога пласту мэргеля, які паводле даных тэй-жа сьвідравальнай дзіркі залягае глыбей першага на 2,44 мэтры пад пластом пяску.

У раёнах таксама знаходзім месцамі вапняковыя пароды. Так, на зах. ад в. Лагвошча, Бранiслаўскага с/с, Жыткавіцкага р., у адлегласьці 1,8 км. ад вёскі, у ўр. Трылёсіны ёсьць белаваты і шэры лугавы мэргель, пашыраны на плошчы 1 га, залягае на глыбіні да 0,5 м, тоўшча пласту дасягае да 0,25—1,4 мэтру. Такім чынам, у Трылесіне прыблізна налічваецца 4000 $м^3$ мэргелю.

У Каленкавіцкім р. белы лугавы мэргель гнёздна пашыраны, паводле апытальных даных, на плошчы паміж Есіпавай-Рудняй, Зеляночамі, Насавічамі і Будай. Больш дакладна пашырэньне яго выяўлена каля Есіпавае-Рудні, Дудзіцкага с/с. Ён пашыраны тут у вур. Вéньцераў мох (у 2-х км ад вёскі), Лапàціца (у 2 км). Завòд (у 2 км) і Пéрцы (у 4 км), дзе плошча, занятая мэргелем ня меней 1 га, пры тоўшчы пласту да 0,5 м, на глыбіні заляганьня да 0,5 мэтра. Каля Есіпавае-Рудні прыблізна налічваецца да 5000 м³ мэргелю.

У тым-жа раёне каля в. Сухавіч, Сухавіцкага с/с ёсьць вапняковыя валуны, колькасьць якіх ня выяўлена. Паводле дасланых узораў там ёсьць шчытныя сьветла-шэрыя, шараватыя вапнякі з няпрыкметных для вока ракавін, ракавінныя шаравата-жаўтавыя мэргелевыя бурыя, з пахам гліны плітнякі. Частка з гэтых вапнякоў з халодным саляным квасам сычыць, частка моцна ўскіпае.

У Капаткевіцкім р. белаваты лугавы мэргель ёсьць у Нова-Галоўчыцкім с/с каля в. Старыя Галоўчыцы, у ўр. Дóўгі Курган, Зáбалацьце і Сіпава. Усе гэтыя вурочышчы распаложаны на зах. ад вёскі, у адлегласьці 0,5 км. У Доўгім Кургане, Забалацьці мэргель пашыраны на плошчы да 6-га ў кожным, у Сіпаве на плошчы зьверх 1 га. Залягае ён на глыбіні 0,5 м пад пластом пяску. У кожным з пералічаных ур. мэргель паводле паведамленьня залягае 3 пластамі сярэдняе тоўшчы кожнага ў 4-5 см, а паміж пластамі мэргелю пясок, магутнасьцю кожнага пласту ў 20 м. Усяго-ж, прыблізна, у 3 ур. 15000 м³ мэргелю.

У гэтым-жа раёне ў Навасёлкаўскім с/с лугавы сьветла-шэры мэргель ёсьць у ўр. Пуцькі; яно на ўс. ад х. Гурыны, у адлегласьці 0,25 км. Залягае мэргель на плошчы 0,5 га, на глыбіні 0,25 м ад паверхні пад пяшчаным пластом, тоўшча пласту мэргеля віхаецца ад 0,25—0,75 м і калі прыняць сярэднюю тоўшчу пласту за 0,3 мэтра, то ў Пуцькох будзе каля 1500 м³ мэргелю. Затым у ўр. Красныя Астраўкі, яно на пд. ад в. Ванюжыч, у адлегласьці 0,25 км, дзе на глыбіні 0,25 м пад пяшчаным пластом, на плошчы 1,5 га залягае мэргель тоўшчаю пласту 0,25—0,75 м, дык пры сярэдняй тоўшчы пласту ў 0,3 м будзем мець да 4500 м³ мэргелю.

У Нараўлянскім р. мэргель і моцна мэрглісты суглінак знойдзены ў 5 мясцох: а) у вур. Цыгельня, якое распаложана ў 2-х км ад в. Барбарова таго-ж с/с, у пн.-зх. кірунку. Залягае жоўта-сіняватая моцна мэргелістая гліна на глыбіні 0,5 м пад пяском на плошчы, паводле даных з месц, да 20 га, пры сярэдняй тоўшчы пласту прыблізна да 2 м, а ўсяго тут маем да 400,000 м³ моцна мэргелістага суглінку; б) у ўр. Жўржава і Лясішча, якія распаложаны—I на пн. ад в. Вербавіч, таго-ж с/с, у адлегласьці 3 км, II—на пд.-ўс. ад тае-ж вёскі ў 1,5 км. У абодвых вурочышчах белаваты і сьветла-шэры мэргель залягае на плошчы 1,5 га, на глыбіні 0,5 м пры тоўшчы пласту ў 25 см., а, значыцца, тут маем 3700 м.³ мэргелю; в) у Галоўчыцкім с/с каля в. Галоўчыц, паміж ёю і садам Нараўлянскае цукерачнае фабрыкі „*Чырвоны Мазыранін*“, пры шляху з Галоўчыц у Нароўлю. Тут, на прыземістай морэннай градзе, напластаваньне маем наступнае:

1) задзёрнены шэры (колеру попелу) валунны пясок з глеем . . . . . . 15 см.
2) палёвы, гляісты, валунны, у ніжняй частцы пласту гліністы пясок . . . . 18-19 см.

3) карычневы, пяшчаны, валунны, месцамі з карэнчыкамі расьліннасьці, суглінак . . 71 см.
4) сьветла-шэры, месцамі белы, з жыламі бурага, з карэнчыкамі расьліннасьці, шчытны мэргель 61 „
5) бела-жаўтавы з карычневымі плямамі і цёмнымі крапінамі, шчытны мэргель (да канца ня пройдзены . . . . . . . 55 „

Паказаны мэргель прасьледжаны на плошчы больш 1 га і прыняўшы тоўшчу пласту за 1 мэтар, будзем мець 10,000 м³ мэргелю; г) у Дзямідаўскім с/с у ўр. Салапòк, распаложаным у 0,25 км на зх. ад в. Дзямідаў у адлегласьці 3-х км, дзе сьветла-шэры мэргель залягае на глыбіні 0,75 мэтру пад пяском, на плошчы 0,5 га, тоўшча пласту 0,25 мэтр., а мэргелю налічваецца 1200 м³; д) у сярэдніх частках Дубровы, таго-ж с/с., дзе рассыпчаты сьветла-шэры валунны лугавы мэргель сустракаецца на б. сядзібах Жураўскага, Лойка Ціхана і Уладзімера Суханіцкага. Залягае ён пад шэрым пяском на глыбіні 22 см., усяго яго тут налічваецца да 1000 м³.

У Тураўскім р. сьветла-шэры і з жаўтавымі плямамі мэргель ёсьць у Азяранскім с/с у ўр. Выгàльскае і Астраўкі каля Расахàцкае Нівы. I ўр. распаложана ў 2 км ад Азяран на пд.-ўс. Тут мэргель пашыраны на плошчы да 1,5 га, тоўшча пласту яго 0,5 м., залягае на глыбіні 0,25 м. пад супяшчаным пластом. Усяго-ж тут да 7500 м.³ мэргелю. II вур. у пд.-зх. кірунку ад Азяран, у адлегласьці 4,2 км, у ім мэргель залягае на глыбіні да 1 м. пад забалочваемай глебай, на плошчы да 0,75 га пры тоўшчы пласту 0,25 м, а ўсяго тут пакладаў мэргелю да 1800 м³.

Каля в. Хваенска ў ур. Ляшнó, якое на зх. ад в. у 1 км, дзе мэргель знаходзіцца на глыбіні 0,5 м., на плошчы 0,75 га, тоўшчаю пласту 0,25 м, а значыцца, пакладаў мэргелю маем да 1800 м³.

На беразе Прыпяці і яе прытокі Сьцьвігі, на I у пн. кірунку ад в. Пагост у 0,25—0,5 км, на II—у пд. у адлегласьці 0,25 км. На беразе Прыпяці сьветла-шэры, а месцамі з жаўтавым адценьнем мэргель залягае пад суглінкам на глыбіні 0,5—0,7 м. на працягласьці 0,25 км, тоўшча пласту яго 0,3—0,5 м, на беразе Сьцьвігі пад суглінкам на глыбіні 0,4—0,5 м, тоўшча пласту 0,1—0,3 м. Усяго тут у 2 мясьцінах паводле прыблізных падлікаў набярэцца да 1000 м³ мэргелю.

У вак. Турава белаватыя, сьветла і цёмна-шэрыя мэргелі ёсьць у ўр. Агарод, ці Балота пад Буразямі, яно на пд.-зх. ад Турава каля в. Буразі. Мэргель тут тоўшчаю пласту ў 0,25 м залягае на глыбіні 0,25 м пад пластам суглінку, на плошчы 0,5 га, а такім чынам тут будзе да 1200 м³ мэргелю; у ўр. Рычча, распаложаным на пд. ад Турава, у 4 км, па дарозе ў в. Рычоў, дзе мэргель залягае пад суглінкам на глыбіні да 0,25 м тоўшчаю пласту да 0,3 м; у ўр. Цагельня, якое з пд.-ўс. боку пры самым Тураве, каля могілак, пры дарозе ў в. Азяраны. У гэтым ур. мэргель залягае на глыбіні 0,27 м, пад суглінкам, тоўшча пласту 0,26 м. У апошніх двух урочышчах мінімальна можна здабыць да 1000 м³ мэргелю.

Усяго ў пералічаных мясцовасьцях будзе да 500 м³ вапняковага каменьня, 61700 м³ мэргелю і да 400.000 м.³ мэрглістага суглінку.

У пераводзе паказанай колькасьці вапняковых парод на вагу будзем мець да 1500 тон вапняковага каменьня і да 117.230 тон мэргелю.

Аднак, яшчэ лугавы мэргель ёсьць каля Скрыгалава, Пятрыкоўскага раёну, і ў Ст.-Высоцкім с/с. Каралінскага р., але дакладных вестак аб плошчы, глыбіні заляганьня, таўшчыні пласту яшчэ не сабрана.

Усе апісаныя вышэй вапняковыя каменьні неаднолькавае цьвёрдасьці. Найбольш цьвёрдаю зьяўляецца група жаўтавых вапнякоў і цьмяна-ружовых (апіс. пад літ. „а“), цьвёрдасьць якіх складае 3. Белаватыя і розных адценьняў шэрыя вапнякі больш мяккія, цьвёрдасьць іх 2 (драпаюцца „известковым шпатам“).

Апісаныя лугавыя мэргелі схэматычна можна характарызаваць наступным:

Усе яны, за выключэньнем Дуброўскіх, безвалунныя, з невялікай дамешкай пяску, мяккія, з халодным саляным квасам моцна ўскіпаюць, большы % вапны, па прыкметах, мае група белых і сьветла-шэрых мэргеляў, залягаюць яны ў даступных для выкарыстаньня мясцох і часткова выкарыстоўваюцца насельніцтвам тых месц, дзе мэргелі ёсьць, але толькі для пабелкі хат унутры і печаў.

Для вапнаваньня глебы мясцовыя мэргелі покуль што не выкарыстоўваюцца, калі ня лічыць вопытаў Палескае Дасьледчае Станцыі.

---

**А. Шашалевіч.**

# Організацыя працы і быт у колгасах Чачэрскага раёну.

*(Краязнаўчы нарыс паводле матар‘ялаў экспэдыцыі ЦБК 1929 г.).*

Колектывізацыя ў Чачэрскім раёне перад пачаткам 1929-30 гаспадарчага году была слаба пашырана. У раёне больш пашыраліся ніжэйшыя формы колектыўных аб‘яднаньняў у сельскай гаспадарцы і амаль зусім не расьлі вышэйшыя аб‘яднаньні. Так, напрыклад, машынных таварыстваў у раёне ў канцы верасьня 1929 г. налічвалася 13, а с.-г. арцеляў (колгасаў) усяго 6, прычым толькі 3 з гэтых арцеляў былі зусім організацыйна аформленымі і ўжо мелі пэўную практыку колектыўнага гаспадарчага жыцьця. Гэта: комуна імя Крапоткіна (цяпер імя Леніна), с.-г. арцель Адзінства і с.-г. арцель Пролетары. Астатнія колгасы: Красный Пахарь, Чырвоная Паляна і Чырвоная Зорка былі нават неземлеўпарадкаваны і не вялі колектыўнай гаспадаркі[1]).

Зямельная плошча колгасаў Чачэрскага раёну перад кастрычнікам 1929 г. была 725,25 га з насяленьнем у 261 чал. Непадзельных капіталаў у колгасах было 72162 руб., а паявых 13014 р. 18 к. Такім чынам відавочна, што нават у сваім агульным складзе колгасы Чачэрскага раёну не адпавядалі пастановам XV зьезду аб узбуйненьні колектыўных сельскіх гаспадарак. Праўда, каштоўнасьць сродкаў вытворчасьці ў трох колгасах (Адзінства, Крапоткіна і Пролетары) сьведчыла аб тым, што яны зьяўляюцца гаспадаркамі з належнай ступеньню машынізацыі (2 трактары), але ніякім чынам гэтыя колгасы нельга

---

[1]) Паводле апошніх вестак колгасы Чырвоная Паляна і Чырвоная Зорка цяпер ліквідаваны.

было прызнаць такімі гаспадаркамі, якія маюць пэрспэктывы ў сваім разьвіцьці.

Апрача гэтага, усе колгасы раёну заснаваліся на землях былых панскіх маёнткаў і ў значнай ступені залежалі ад рэшткаў былой панскай гаспадаркі (будынкі засталіся нікуды ня вартыя, але сады да гэтага часу зьяўляюцца важнай крыніцай прыбыткаў колгасаў). Гэта накладала пэўны характар на колгаснае жыцьцё Чачэрскага раёну, на організацыю працы ў колгасах, вызначала спосабы вядзеньня колектыўнай гаспадаркі і разьмеркаваньня продукцыі і г. д.



Ліпавы шлях з Чачэрску ў комуну імя Леніна.

З новага гаспадарчага 1929-30 году колектыўнае земляробства ў Чачэрскім раёне перайшло на новую ступень разьвіцьця. Колгасны рух за месяцы лістапад—сьнежань 1929 г. і студзень 1930 г. шырака разгарнуўся ў раёне. Прывядзем некаторыя опэрацыйныя весткі колгаснага руху ў Чачэрскім раёне перад лютым месяцам 1930. Комуна імя Крапоткіна (цяпер завецца комунай імя Леніна) вырасла плошчай да 4200 га і насяленьнем да 250 сямей (раней плошча была 243 га і насяленьня 18 сямей); у слабадзе Аннапольлі заснаваўся колгас Сталінец на плошчы 1000 га і 100 сямей; у в. Сяліцкай — колгас 1800 га, у в. Петрапольлі—1000 га, у в. Сідаравічах 1300 га, у Дудзіцкім сельсавеце колгас на плошчы 3500 га; колгас Адзінства павялічваецца за лік вакольных вёсак разьмерам да 4000 га і г. д. Агульная зямельная плошча колгасаў Чачэрскага раёну перавышае цяпер 20000 га — гэта ёсьць $^1/_4$ плошчы ўсяго раёну. Вясною гэтага году плошча колгасаў орыентовачна вызначаецца ў 40000 га—$^1/_2$ зямельнай плошчы раёну.

Колектывізацыя Чачэрскага раёну больш пашырана на правабярэжжы Сажа, а левабярэжжа—сельсаветы Беляеўскі, Нісімкавіцкі, Будзішчанскі і Бабіцкі амаль зусім не зачэплены колгасным рухам.

Гэта тлумачыцца тым, што на левым беразе Сажа таварнасьць сельскай гаспадаркі вельмі нізкая, на правым беразе, дзякуючы глебавым умовам, таварнасьць значна вышэй, а таму хутчэй адбываецца пераход да больш дасканалых формаў сельскай гаспадаркі.

У верасьні 1929 г. ЦБК накіравала ў Чачэрскі раён краязнаўчую экспэдыцыю і адным з галоўных заданьняў яе вызначыла сабраць гаспадарча-бытавы матар'ял у колгасах раёну. Сабраныя матар'ялы даюць уяўленьне аб структуры і быце колгасаў. Нарыс мае мэту высьветліць вельмі важныя пытаньні організацыі працы ў колгасах. Гэтыя пытаньні краязнаўцам трэба ня менш вывучаць, як і поўную статыстыку колгаснага руху, бо організацыя працы і быт акрэсьляюць формы ўнутранага жыцьця колгасаў, вызначаюць узаемаадносіны сяброў колгасаў, садзейнічаюць пераходу колектыўных аб'яднаньняў да вышэйшых формаў грамадзкага жыцьця. Апрача ўсяго пералічанага правільнае вырашэньне організацыйных пытаньняў у колгасах будзе лепшай агітацыяй за колгасы.

I.

Усе колгасы Чачэрскага раёну па сваёй організацыйнай сутнасьці зьяўляюцца сельска-гаспадарчымі арцелямі, бо ў іх аграмаджаны як сродкі вытворчасьці, так і процэсы вытворчасьці. Мы гаворым выключна аб старых і організацыйна моцных колгасах, як комуна імя Леніна, Адзінства і Пролетары. Комуна імя Леніна па сваёй структуры таксама ёсьць сельска-гаспадарчая арцель, бо і ў ёй быт сяброў аб'яднаньня не аграмаджаны. Праўда, гэта комуна ў організацыі працы і быце мае шмат асаблівасьцяй, якія набліжаюць яе да вышэйшай формы колектыўных аб'яднаньняў і ў пэўнай частцы даюць ёй права звацца комунай, але ў асноўных прынцыпах працы ўсе пералічаныя колгасы Чачэрскага раёну не адрозьніваюцца між сабой.

II.

Структура кіраўніцтва ў колгасах Чачэрскага раёну, паколькі яны перад новым гаспадарчым годам былі дробнымі колгасамі, будавалася так: агульны сход, праўленьне, старшыня. Праўленьне абіраецца агульным сходам, складае вытворчыя пляны, скарыстоўвае ўсю рабочую сілу. На практыцы ўсю організацыйную працу праводзіць старшыня.

Вытворчыя пляны колгасаў абгаварваюцца часта на сходах. Складаньне плянаў часта перадавалася інструктару колгассаюзу, як гэта было ў колгасе Пролетары. Гэты колгас з організацыйнага боку мала праявіў ініцыятывы. Праўленьне ня мела аўторытэту. Часта спрэчкі між членамі колгасу, якія лёгка можна было вырашыць праўленьню ці старшыні, як гэта рабілася ў комуне імя Леніна, у колгасе Пролётары вырашаліся інструктарам акрколгассаюзу.

У складаньні вытворчых плянаў самым ініцыятыўным было праўленьне колгасу Адзінства. Свае пляны працы праўленьне абмяркоўвала разам з інструктарам. Супольна з ім праўленьне абмяркоўвала і пляны крэдытаў. Вось які цікавы плян крэдытаў праўленьнем быў вызначаны на 1929 г.: сенакасілку 150 р., жнейку 1000 р., карнярэзку 75 р., на пакупку малочнай жывёлы 1500 р., сьвіней на 500 р., на пабудову кватэр 1000 р., на пабудову сьвірана для машын і сьвінарніка 1750 р., на насеньне 250 р., на мінэральнае ўгнаеньне 200 р., на

супэрфасфат 100 р., на коопэраваньне беднаты 500 р., на лазьню 400 р., а ўсяго на 7420 р. Гэты плян крэдытаў праўленьне разьбівала па кварталах. Іншыя вытворчыя пляны, якія зьвязаны з агрыкультурнымі паляпшэньнямі, праўленьне ніколі не складае бяз удзелу агронома-коопэратара. Так, з яго дапамогай у колгасе Адзінства складзены плян севазвароту на 10 год, былі сваечасова конкрэтызаваны пляны вясновай і асеньняй сяўбы.

Аналёгічная праца ў складаньні плянаў праводзілася і ў комуне імя Леніна.

У колгасе Пролетары ніякага плянаваньня ня было і плян, які складаўся інструктарам, ня быў вядомым у сваіх дэталях усім членам колгасу.

На новы гаспадарчы год вытворчыя пляны былі ўва ўсіх колгасах, але яны ня мелі належную форму і былі недаступны для ўразуменьня радавых членаў колгасу, ня кажучы аб тым, што гэтыя пляны адсталі ад тэмпаў колгаснага руху і цяпер будуць перагледжаны.

Каляндарных плянаў працы няма ў колгасах Чачэрскага раёну. Гэта зусім зразумела. У сельскай гаспадарцы пакуль што цяжка ўсё прадбачыць. Але мінімальныя сэзонныя прыметкі павінны былі быць. Адсутнасьць гэтага выклікае такую зьяву, што праўленьне кожны дзень павінна вырашаць, якую працу і каму даручыць. Наколькі гостра адчуваецца патрэба ў драбязьлівым плянаваньні працы колгасаў—паказваюць такія факты. У колгасе Пролетары кожны дзень раніцою (працоўны дзень „нароўна“ пачынаецца, калі а 7 гадзіне, калі пазьней) старшыня раіцца з сябрамі праўленьня і вызначае пэўную працу кожнаму колгасьніку, а потым паведамляе апошняга аб даручанай працы. У комуне імя Леніна нарад на працу складаўся старшынёю і сакратаром прыблізна каля 6 гадзін раніцою і потым старшыня ўсіх паведамляў, сабраўшы разам. Пры гэтым часта былі зьмены ў нарадах, часта высьвятлялася, што вызначаную працу ня трэба рабіць, альбо трэба адкласьці, бо знаходзілася больш неадкладная праца. Гэта выклікала на агульных сходах скаргу колгасьнікаў: „Збузавалі народ нарадамі, па 5 нарадаў даюць, невядома куды йсьці“ (Рабочы Пархоменка на агульным сходзе). Больш правільна гэтая справа наладжана ў колгасе Адзінства і яго прыклад пачынаюць запазычваць. Кожны дзень вечарам складаецца плян прац на другі дзень і вывешваецца на пэўным месцы. Гэты сьпіс безагаворачны. Прыводзім тут нарад на 18 верасьня 1929 г.

Сяўба жыта:

1. Хавін Нісон. 2. Бінькін Бэнямін. 3. Сыркін Янкель.

Скарадзьба.

1. Хавін Гірша. 2. Ружынскі Хоня. 3. Дворкін Самуэль. 4. Хавін Янкель.

Ехаць у Белы Бераг (прыстань на Сажы).

1. Каплан Абрам. 2. Каплун Леў.

Касьба канюшыны.

1. Левін Борух. 2. Гінзбург Моня.

Праца ў сьвіране.

1. Малкін С. 2. Песікаў Масей. 3. Шапіра М. 4. Камісараў.

У гэтым парадку таксама ёсьць вельмі значны недахоп. Сьпіснарад не ахапляе працу садоўніка, 2 трактарыстаў, малочніка, які зусім ня мае вольнага дня, канцылярскай працы і жаночую працу наогул. Жанчыны ў колгасе Адзінства вызначаюцца на працу як давядзецца.

Праўленьне ў комуне імя Леніна і ў арцелі Адзінства складаецца з 5 асоб, а ў Пролетары з 3 асоб (фактычна і ў Адзінстве праўленьне складаецца з 3 асоб). У комуне імя Леніна праўленьне ў сваім складзе мае 2 партыйцаў і 1 комсамольца, у колгасе Адзінства—2 комсамольцаў 1 партыйца. У праўленьні комуны імя Леніна і колгаса Адзінства ёсьць адна жанчына, а ў Пролетары жанчыны не ўваходзяць у праўленьне. У апошнім колгасе ў праўленьні зусім няма партыйцаў і здаецца іх зусім ня было ў колгасе перад новымі гаспадарчым годам. Гэтым тлумачыцца нявыразная палітычная лінія ў працы гэтага колгасу.

Рэвізійныя камісіі існуюць у ліку 5 асоб (4 мужчыны, 1 жанчына), а ў Пролетары ў ліку 1 асобы. Праца камісій вельмі слабая. У большасьці выпадкаў іх функцыі выконваў раней інструктар акруговага колгассаюзу, а пасьля агроном-колгасьнік.

Такім зьяўляецца ў агульных рысах кіраўніцтва ў трох колгасах Чачэрскага раёну. Як відаць, структура гэтага кіраўніцтва мае значныя недахопы, і вынікам гэтага зьяўляюцца недахопы ў організацыі вытворчай працы колгасаў.

III.

Пераходзячы да пытаньня аб разьмеркаваньні працы між членамі колгасаў Чачэрскага раёну, трэба падкрэсьліць, што формы організацыі працы ў трох памянёных колгасах досыць разнастайныя, і кожны колгас мае асаблівасьці. Агульныя недахопы ва ўсіх колгасах: 1) запас рабочай сілы, які ў пэўны час перавышае патрэбу ў ёй, 2) нескарыстоўваньне рабочага часу, няроўнасьць, слабасьць рабочай загрузкі, 3) значныя страты рабочага часу ў індывідуальных працах сяброў колгасаў (нават ня лічачы працу па хатняй гаспадарцы), 4) карыстаньне наёмнай працай.

Асноўныя прычыны гэтых недахопаў заключаюцца ў слабой організацыі ўсяе вытворчае працы памянёных колгасаў, аднабаковасьці яе (паляводства), у адсутнасьці ці слабым распаўсюджваньні працаёмкіх культур, у адсутнасьці падсобных прадпрыемстваў, слабым разьвіцьці гародніцтва і тэхнічных культур. Усё гэта добра разумеюць самі колгасьнікі. На працягу пяцігодкі комуна імя Леніна намячае пабудову крухмальнага заводу, колгас Адзінства ў бліжэйшы час пабудуе маслабойню (перaапрацоўка ільнянога насеньня), сыраварны і масладзельны завод. Усё гэта павінна ў высокай ступені павялічыць скарыстаньне на працягу ўсяго году рабочай сілы ў колгасах. А цяпер найбольшае скарыстаньне рабочай сілы і амаль поўную адсутнасьць наёмнай працы можна бачыць толькі ў комуне імя Леніна.

[Ва ўсіх трох колгасах праца разьмяркоўваецца не па сем'ях, а па работніках. Часам бяруць пад увагу і сям'ю, але гэта ня ёсьць правілам. Рабочы ўзрост для мужчыны лічыцца з 16 да 60 год, для жанчыны да 55 год. Падросткам лічыцца ад 14 да 16 год.] Непрацаздольных ня было ў колгасах, за выключэньнем 1 у колгасе Адзінства. Іх перад новым гаспадарчым годам ня прымалі ў колгасы, бо для дробных колгасаў, асабліва ў пэрыод організацыйнага ўмацаваньня, значны

лік непрацаздольных ляжыць цяжарам на гаспадарцы колгасу. У колгасе Адзінства ў протоколах не адзін раз зафіксавана: „грамадзяніну... адмовіць у прыняцьці ў колгас, бо ня можа працаваць і мае стары ўзрост“.

Па ўзросту, які паказваецца інвалідным, такія сябры ёсьць у колгасах, але ўсе яны вядуць тую ці іншую працу. Адным з такіх вэтэранаў працы ў комуне імя Леніна зьяўляецца пастух Сымон Міроненка. Яму ўжо 60 год, але ён добра спраўляецца з вялікім статкам комуны



Жанчыны вакольных вёсак (комуна імя Леніна).

і кажа: „пукуля ў камуні Карпоткіна еты грошы (колькі даюць) стою. Пасу скаціну, начоўкі зьдзелаю, касіў улетку, лапці плёў. Паю ў камуну ні було, дык казна заклала“.

Дзеці і непрацаздольныя атрымоўваюць з агульных сродкаў комуны ад 10—25% сярэдняга заробку колгасьніка, ня больш 2 р. 50 к. на кожнага дзіцёнка. Сярэдні заробак колгасьніка 25 р. у месяц.

Разьмеркаваньне працы між працаўнікамі, а ня між сем‘ямі вынікам сваім мае матар‘яльную няроўнасьць членаў колгасу, значныя цяжкасьці ў рэгуляваньні індывідуальных накапленьняў і ў скрытай форме клясавую барацьбу між бяднейшымі і больш забясьпечанымі членамі ў колгасах. Гэта можна заўважыць ва ўсіх трох колгасах Чачэрскага раёну.

Праца паводле яе аплаты падзяляецца на мужчынскую і жаночую (Пролетары і Адзінства). У комуне імя Леніна няма такога падзелу, праца лічыцца альбо цяжэйшай (малаціць, касіць, капаць бульбу) незалежна ад таго, хто яе выконвае—мужчына, ці жанчына, альбо лягчэйшай (у садзе працаваць). У колгасе Пролетары апрача працы мужчын і жанчын адрозьніваецца і праца падросткаў.

Спэцыялізацыя працы вельмі слабая. Толькі некаторыя працаўнікі прымацоўваюцца да вядомай працы — даеньне кароў, хаваньне матар‘ялаў і продуктаў у клецях (клетнікі), пастухі (у комуне імя Леніна пастух свой, у 2 другіх колгасах вольнанаёмныя), садоўнікі (вольнанаёмныя), каваль (у комуне каваль выконвае таксама і іншую працу), трактарыстыя, малочнік (Адзінства). Усе іншыя колгасьнікі па чарзе выконваюць усялякую працу, што ня можа ня ўплываць на якасьць і продукцыйнасьць працы.

Няма ў колгасах Чачэрскага раёну і акрэсьленых нормаў выпрацоўкі. У колгасе Пролетары існуюць толькі наступныя нормаваньні працы: падаіць 20 кароў у дзень лічыцца нормай 1 працоўнага дня, адзін дзень з касой лічыцца за 2 працоўных дні, адзін га сенажаці нормуецца на 3 касцоў у дзень. У колгасе Адзінства падаіць трэба 24 каровы, каб гэта залічылі за 1 працоўны дзень, начны абыход саду ці іншых гаспадарчых вучасткаў лічыцца за $^1/_2$ прац. дня. У комуне імя Леніна нават такая цяжкая праца, як вываз гною не нормуецца і нават ня лічыцца за цяжэйшую працу.

Прэміяльную сыстэму ці зьдзельшчыну ня ўжывалі. Формы зьдзельшчыны ў асобных выпадках ёсьць, але яна больш ужываецца ў адносінах да наёмных працаўнікоў. Так, напрыклад, пастуху ў Пролетары за лета плацілі 30 п. ($^1/_2$ тоны) хлеба і па чарзе харчавалі, у колгасе Адзінства 70 пудоў. На зьдзельшчыне садоўнікі ў комуне і Адзінстве. Адсутнасьць разьвітой прэміяльнай сыстэмы ці зьдзельшчыны ня спрыяе матар‘яльнай зацікаўленасьці колгасьнікаў, хоць у комуне імя Леніна часта можна чуць ад колгасьнікаў: „калі наша комуна будзе багацей, дык і заплату большую будам мець а пукуля трэба многа працаваць!“ У іншых колгасах можна іншае чуць: „многа працуем і мала бяром“.

Тарыфікацыя працы колгасьнікаў мала разьвіта і ня мае правільных прынцыповых установак (якасьць працы, колькасьць яе). У комуне імя Леніна за цяжэйшую працу як мужчыне, так і жанчыне плоцяць 1 рубель за працоўны дзень. За лягчэйшую працу 80 к. У колгасе Пролетары існуюць тры катэгорыі зарплаты: мужчынам плоцяць 1 р. 10 к., жанчынам 80 к. і падросткам 60 к. А ў колгасе Адзінства мужчынам — 1 р. 20 к., жанчынам 60 к. і падросткам таксама 60 к. У гэтую тарыфікацыю не ўваходзіць праца трактарыстаў, садоўнікаў і іншых неабходных працаўнікоў з патрэбнай кваліфікацыяй. Іх працоўны дзень альбо тарыфікуецца так, як і ўсіх колгасьнікаў, калі гэтыя працаўнікі—члены колгасу (трактарыст у комуне імя Леніна — старэйшы член комуны Драбушэўскі), альбо вызначаецца дагаворна, калі працаўнікі наймаюцца на вядомы тэрмін (трактарыст у колгасе Адзінства). Бязумоўна тарыфікацыя зарплаты ва ўсіх колгасах Чачэрскага раёну сьведчыць, што колгасьніку лепш жывецца, як у звычайнай серадняцкай гаспадарцы. Зарплата ніколі цалкам не выдаецца, а толькі ў разьмеры, акрэсьленым статутамі (50%). Прычыны гэтага зразумелы: слабыя зваротныя капіталы, будаўнічыя затраты, пагашэньне запазычанасьці і г. д. А таму ва ўсіх колгасах раёну шырака ўжываецца сыстэма авансаў—у лік зарплаты. Авансы выдаюцца і натураю, і грашыма. Такім чынам зарплата ў колгасах зьмешаная. Колгасьнікі атрымоўваюць паёк на ўсю сям‘ю і разрахунак за гэта запісваецца ў разьліковую кніжку колгасьніка. Апрача гэтага, калі трэба,

выдаецца і грашовы аванс. Прывядзем тут запіс з рахунку Гінзбурга— члена колгаса Адзінства:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1929 г. | 8/II | аванс 4 р. грашыма. | |
| | 15/II | „ 9 р. „ | |
| | 30/II (?) | малочнымі продуктамі | 3 р. 90 к. |
| | 15/III | „ „ | 2 — 13. |
| | 25/III | аванс 6 р. грашыма. | |
| | 30/III | малочнымі продуктамі | 5 — 72. |
| | 15/IV | аванс 2 р. 80 к. грашыма. | |
| | 30/IV | малочнымі продуктамі | 3 — 55. |
| | 31/V | мяса . . . | 3 — 60. |
| | За чэрвень | продукт. і грашыма | 14 — 21. |
| | За ліпень | „ „ | 22 — 43. |

Усяго з лютага месяца па ліпень уключна колгасьнік Гінзбург забраў грашовых авансаў і продуктаў на 77 р. 34 к. За гэты час Гінзбург меў працоўных дзён (колгасы ў мінулым годзе мелі магчымасьць аплачваць толькі працоўныя дні і можна падкрэсьліць слабае ўшчыльненьне працоўных дзён па сэзонах), пачынаючы з лютага па ліпень: $11^1/_2$, 22, $19^1/_2$, 25, $23^1/_4$, 26 усяго $127^1/_4$ працоўных дзён. Лічачы орыентовачна працоўны дзень за 1 р. 20 к. Гінзбург павінен быў атрымаць 152 р. 70 к. Атрыманая ім зарплата на працягу памянёнага часу (77 р. 34 к.) прыблізна і роўна $50^0/_0$ зарплаты. Рахунак Гінзбурга найбольш тыповы ў колгасе Адзінства.

Трэба падкрэсьліць, што ўва ўсіх колгасах зарплата цалкам выдаецца ў канцы году зімою і часта аплата бывае вышэй за орыентовачную. Так у тым-жа колгасе Адзінства працоўны дзень мужчыны ў часе канчатковай расплаты за 1928 год быў палічаны ў 1 р. 35 к., хоць орыентовачна аплата была вызначана ў 1 р. 20 к., працоўны дзень жанчыны ў 77 к., орыентовачна ў 60 к. Сярэдні лік працоўных дзён за год быў у 1928 годзе роўны прыблізна 184 (колгасьнік Камісараў з Адзінства). Такім чынам звычайная зарплата колгасьніка на працягу году роўна 248 р. 40 к. (Адзінства). У іншых колгасах Чачэрскага раёну зарплата троху меней.

Рэальная зарплата значна вышэй, бо тыя продукты, якія выдаюцца ў лік зарплаты, даюцца альбо па сабекошту, альбо нават і ніжэй. Так, напрыклад, мука выдаецца з разьліку 1 р. 40 к. за 16 кілё, масла 60 к. за 400 гр. Іншыя продукты куды больш танна ацэньваюцца, як у коопэрацыі, а садовіна і гародніна часта выдаецца па патрэбе і ня ўлічваецца. Выдача продуктаў першай патрэбы нормавана, але неаднолькава ва ўсіх колгасах. У колгасе Адзінства паводле пастановы агульнага сходу было вызначана выдача на дарослага калгасьніка 18 п. жыта ў год, на падростка 12 пуд., на дзяцей 4 п., пасьля згодна прапановы акр. колгассаюзу была прынята агульная норма для ўсіх 11 пуд. У комуне імя Леніна выдаецца 30 ф. мукі і 10 ф. на дзяцей. У колгасе Пролетары толькі ў выдачы масла ёсьць норма ды ня сталая (на сям'ю ў месяц 1600 гр., 2400 гр. і 3200 гр.), у выдачы іншых продуктаў ніякіх нормаў няма. Гэта залежыць ад таго, што ў гэтым колгасе разьмяшчэньне продукцыі колгасу, разьмеркаваньне яе больш разьлічана на спажывецкія патрэбы, а не на вытворчыя і будаўнічыя. Увесь ураджай у гэтым колгасе, пасьля абмалоту і вылучэньня пэўнай часткі на насеньне, контрактацыю і здачу дзяржаве, дзеліцца між членамі колгасу і хаваецца па кватэрах і толькі лішкі ўраджаю аўсу

поўнасьцю здаюцца дзяржаве. Колгасьнікі гэты спосаб разьмяшчэньня продукцыі тлумачаць недахопам сьвіранаў, у якіх можна ссыпаць збожжа. У комуне імя Леніна ўся продукцыя збожжа захоўваецца ў 4 клецях. Яе па строгаму падліку прымае загадчык складаў, ён з клецяў, калі трэба, выдае збожжа на млын і зноў прымае, як прывязуць з млына. Цікава прывесьці тут выдачу жыта са складаў комуны імя Леніна, якая намечана ў новым гаспадарчым годзе: з усяго змалочанага 1700 п. жыта здана коопэрацыі 450 п., 250 п. засеяна, 100 пуд. вызначана ў харчы жывёле, астатні запас вызначаны на 83 едакоў комуны.

У колгасе Адзінства збожжа ссыпаюць, ня важыўшы, у засекі і запісы вядуцца прыблізныя. На руках у колгасьнікаў нічога не хаваецца.

Працоўны дзень ва ўсіх колгасах узімку цягнецца 8 гадзін, вясною, улетку і ў пачатку восені 10 гадзін. На працу выходзяць а 7 гадзіне па гудку (комуна імя Леніна) ці па загаду (Пролетары). У колгасе Адзінства абедзенны перапынак быў з 12 да 2 г., у комуне імя Леніна з 1 да 3 ці 4.

Працоўны дзень толькі ўлетку належна ўшчыльнены рабочай сілай. У комуне імя Леніна рабочая налічная сіла цалкам скарыстоўваецца на працягу ўсяго году, чаго ня бывае ў іншых колгасах, але ўзімку і комуна мае няпоўную загрузку працай. Так, напрыклад, за студзень месяц у членаў комуны працоўных дзён было: 31, 27¹/₄, 24, 10, 20¹/₂, 6³/₄, 7¹/₂, 5, 1¹/₄ і г. д. З боку наёмная сіла вельмі рэдка бярэцца ў комуне імя Леніна. Там імкнуцца ўсю працу зрабіць самі і пароўнаму разьмеркаваць між працаўнікамі, а часта і сем'ямі. Лішняй працы не даюць, а для гэтага хутчэй наймуць з боку, калі дача той ці іншай працы можа выклікаць няроўнасьць. Так, напрыклад, узімку 1929 г. трэба было расьпілаваць дошкі для комуны. Адзін колгасьнік хацеў выканаць гэтую працу разам з нанятым рабочым. Праўленьне не дазволіла гэтага зрабіць.

У колгасе Адзінства жаночая рабочая сіла, як правіла, слаба скарыстоўваецца і часта замяняецца наёмнай. Увосень 1929 г. у гэтым колгасе нават для такой лёгкай працы, як збор яблык, ня былі скарыстаны жанчыны-колгасьніцы, а шмат было нанята з вакольных вёсак. Паасобныя колгасьніцы рабілі працу на старану, якая была больш выгадна, бо за яе бралі большую плату (2—2¹/₂ рублі за кравецтва). Іншыя колгасьніцы ўвесь час аддавалі дзецям, хоць нярэдка ў гэтым колгасе можна бачыць наёмных хатніх працаўніц. Астатнія колгасьніцы і хацелі-б працаваць, але „глядзяць на тых і самі за 60 к. ня хочуць працаваць“. Такім чынам, у колгасе Адзінства замужнія колгасьніцы з большага заняты хатняй працай. Дзяўчаты-ж усе заняты на арцельнай працы і кожны дзень працуюць.

Некаторая частка цяжкой працы ў колгасах перадаецца на старану. Так у колгасе Адзінства забалочанае возера здаецца сялянам у арэнду, бо, як выказаўся член праўленьня, „цяжка гэту мясьціну касіць“. Арэнда мае месца нават у комуне імя Леніна, там мінулым летам кавалак зямлі пад грэчку быў зданы сялянам „з 5-га“ (3 снапы комуне, 2—сялянам), бо комуна ня мела свайго насеньня.

Праца на старану ў прынцыпе не дазваляецца, нават у выпадку, калі працаўнік хацеў-бы некаторую частку заробку аддаць колгасу ў форме ўкладаў, што магло-б павялічыць працаёмкасьць гаспадаркі. Уклады ў колектывах бываюць толькі ад абагуленай маемасьці. У комуне Ле-

ніна гэтыя ўклады вельмі невялікія, сумы: 231 р.. 154, 100, 60 і менш. У Адзінстве значна большыя: 947, 800 і г. д. Гэта канешне, знаходзіцца ў сувязі з соцыяльным складам колгасаў. Склад комуны імя Леніна па соцыяльнаму пахаджэньню: 16 бядняцкіх сям'яў і 14 батракоў. Склад колгасаў Адзінства і Пролетары пераважна дробна-рамесьніцкі і дробна-гандлярскі.

У сувязі з формамі організацыі працы знаходзіцца ступень аграмаджанасьці сродкаў і процэсаў вытворчасьці. Чым большую аграмаджанасьць мы маем, тым лепшую можна чакаць організацыю працы, продукцыйнасьць працы, ушчыльненьне працоўнага дня і працоўную дысцыпліну. У комуне імя Леніна з усіх колгасаў Чачэрскага раёну найбольшая аграмаджанасьць сродкаў вытворчасьці, працы і быту. Кожны сябра пры ўваходзе ў комуну ўсю сваю маемасьць здае комуне. Бяруцца на вучот ня толькі засевы ў ранейшай гаспадарцы, ня толькі гаспадарчыя і жылыя будынкі, ня толькі інвэнтар і жывёла, а нават і ўсё хатняе начыньне—бочкі, рэшаты, сякеры, вяроўкі, дровы, вёдры, куры і іншая птушка, сабакі і кошкі. У колгасе Адзінства і Пролетары аграмаджана толькі зямля, жывёла, с. г. інвэнтар, будынкі. Усё іншае не аграмаджана. А таму некаторыя колгасьнікі маюць сьвіней (Пролетары і Адзінства) амаль кожная сям'я мае курэй, індыкоў, гусей. Шмат часу ідзе на індывідуальную частку гаспадаркі. У колгасе Адзінства сярод яўрэйскіх сем'яў была і сям'я беларуская, дык гэтая сям'я мела невялікую плошчу засеву з ільном. І, як кажа гаспадыня гэтай сям'і „да етага году прыпёндзы зь лёнам ні булò ад арцелі, а ціпер ні даюць". У колгасе Пролетары былі выпадкі, што нават будынкі членаў калгасаў яшчэ не аграмаджаны былі. Калі на сходзе агрономам-колгасьнікам было ўзьнята пытаньне аб перадачы ў карыстаньне арцелі дому аднаго сябра колгасу, дык апошні абвясьціў: „ліквідаваць маёмасьць, якая мне належыць у Чачэрску (невялікі дом цаною каля 700 р.) не магу і калі гэтага патрабуюць члены арцелі і вышэйстаячыя органы, я лепш выйду з арцелі, але не магу ліквідаваць цяпер свае маёмасьці ў Чачэрску". (З протоколу агульн. сходу ў верасьні 1929 г.). Цікава адзначыць, што за пастанову аб перадачы маемасьці гэтага сябра ў арцельную ўласнасьць актыўна галасавалі толькі 3, іншыя ўстрымаліся. Магчыма, што і ў іншых сяброў колгасу засталася якая-небудзь маёмасьць па-за межамі колгасу. Налічча неаграмаджанай маёмасьці па-за колгасамі і ўнутры іх, а таксама і моцная сувязь з раднёю, якая ня ўлілася ў колгасы, значна дэзорганізуюць агульную наладжанасьць працы ў колгасах. З мястэчкам, з яго былымі гандлярскімі коламі яшчэ вельмі зьвязаны. Паводле пастановы сходу колгасу Адзінства кожны сябра яго мае права 1 раз у тыдзень карыстацца колгасным канём для язды ў мястэчка, між тым у комуне імя Леніна на асабістыя патрэбы ў год можна карыстацца коньмі на 15 км праезду.

## IV.

Організацыя працы ва ўсіх колгасах Чачэрскага раёну ня мае акрэсьленага імкненьня палепшыць якасьць продукцыі. Няма правіла зьмяншаць аплату за нездавальняюча выкананую працу, павышаць аплату за добрую працу. Толькі ў канцы 1929 г. узьнікла думка заснаваць прэміяльны фонд, але гэта не праведзена ў жыцьцё. Няма належнага контролю ў прыйме і кваліфікацыі зробленай працы.

Праўда, ва ўсіх колгасах ёсьць спосабы ўзьняць працоўную дысцыпліну. Так, з комуны імя Леніна адзін колгасьнік быў выключаны за расьцягваньне маемасьці комуны. У іншых выпадках на сходах выносяць выгавар, ганьбу і г. д. Але найбольш дзейныя сродкі ўплыву на працоўную псыхолёгію сяброў колектываў, як штрафы, прэміі, належныя нормы выпрацоўкі, зьдзельшчына — усё тое, што забясьпечвае працоўную дысцыпліну і добраякасьць продукцыі—яшчэ вельмі мала мелі месца ў мінулым годзе. Вядомы толькі адзін выпадак штрафаваньня, калі сябра комуны імя Леніна без дазволу праўленьня ўзяў каня комуны і па асабістых справах паехаў у Гомель.

У практыцы колгасаў да восені 1929 г. ня было вытворчых нарад, соцспаборніцтва (распачалі ўвосень 1929 г.) і аховы працы. У колгасе Пролетары быў выпадак, што парадзіху праз тыдзень пасьля родаў паслалі кароў даіць. Санітарных правіл у працы не наглядаюць.

## V.

Падлік працы і вынікаў яе добра вядзецца ў комуне імя Леніна і арцелі Адзінства. У комуне рахункаводзтва і дзелаводзтва наяўна з кожным днём разбухае і адымае шмат часу. Колькасьць заведзеных спраў і кніг для падліку працы, сродкаў і маемасьці комуны вельмі вялікая і трэба дзівіцца, што сакратар комуны, былы звычайны селянін, спраўляецца з гэтым. Пералічым, якія рахунковыя кнігі ёсьць у комуне: 1) Ведамасьці працоўных дзён, напр. паказана, што ў чэрвені месяцы праца з бульбай узяла 51$^1/_2$ мужчын - дзён, 75 жанчын - дзён і 58$^1/_2$ коні - дзён (10 га); 1 студзеня ўся праца, якая была зроблена ў комуне: па сена езьдзілі 4 мужчын, 4 коняй; па дровы—2 м., 2 к.; 1 вартаўнік каля жывёлы; на гаспадарчай працы 5 м., 5 ж., 1 к.; на кухні 2 ж.; нанята зьдзельна 2 пільнікі і 1 сталяр, які зрабіў шафу. 2) Рахункі кожнага члена комуны і яго сям'і; 3) Касавая кніга; 4) Кніга шкод; 5) Кніга паявых узносаў; 6) Кніга разрахункаў з рознымі ўстановамі і асобамі; 7) Кніга абсьледваньняў; 8) Кніга дагавораў; 9) Табелі і рахунковыя ведамасьці;) 10) Кніга асабовага складу комуны; 11) Кніга продуктаў і матар'ялаў; 12) Галоўная кніга—зводка ўсіх рахункаў—покуль што не вялася: сакратар не асіліў падвойную бухгальтэрыю; 13) Кніга маёмасьці; 14) Кніга падліку працы трактара; 15) Кніга прэмій і штрафаў; 16) Кніга справаздач і каля 10 яшчэ іншых дробных рахунковых кніжок. У колгасе Адзінства больш спрошчанае рахункаводзтва. Вядуцца кнігі: 1) Касавая (галоўная кніга таксама не вядзецца); 2) Кніга земляробства (вучот кожнай галіны палyводзтва); 3) Кніга продуктаў і матар'ялаў 4) Разрахункі з рознымі ўстановамі; 5) Кніга маемасьці; 6) Кніга разрахункаў з членамі колгасу; 7) Дзеньнік прац.

У колгасе Пролетары вучоту вельмі мала. Часты спрэчкі між праўленьнем і працаўнікамі аб няправільным падліку працоўных дзён за год ці за месяц. У ліквідаваным колгасе Чырвоная Зорка падлік працы быў яшчэ горшым. Працоўныя дні адзначаліся часта біркамі і ў гэтым цяжка было разабрацца.

Наогул, для ўсіх пералічаных колгасаў у мінулым годзе цяжка было весьці дасканалы падлік працы і весьці рахункаводзтва ў падвойнай сыстэме. Для такога-ж дробнага колгасу, якім быў Пролетары непасільна было мець і рахункавода.

У далейшым, калі ўсе апісаныя колгасы зробяцца буйнымі гаспадаркамі, яны стануць на шлях найдасканалага падліку і працы і вынікаў яе.

## VI.

Формы новага быту, які ствараецца ў колгасах Чачэрскага раёну, залежаць ад таго, што сялянам, па сваёй прыродзе дробным уласьнікам, трэба бывае свае індывідуальныя інтарэсы і дамаганьні падпарадкаваць інтарэсам грамады, усяго колектыву. Сяляне, уліўшыся ў колгасы, ламаюць усе свае старыя звычаі, думкі, усю ідэолёгію і набліжаюцца да пролетарыяту. Усё гэта выклікае некаторыя супярэчнасьці ў быце колгасаў. Тым ня менш колгасы Чачэрскага раёну ў мінулым годзе нават у сваім малым ліку былі апорнымі пунктамі ў агрыкультурным напрамку і сваёй чыннасьцю сярод вакольнага сялянства былі лепшымі агітатарамі за новы колектыўны гаспадарчы быт. Паказальнікамі іх культурнай ролі ў гэтым напрамку былі такія фактары іх жыцьця, як травазасевы, тэхнічныя культуры, гатунковае насеньне, шматпольле, землеўпарадкаванасьць, дасьледчыя вучасткі і інш. Так, напр., комуна імя Леніна дапамагала сялянскай беднаце ачышчаць насеньне, 7 бядняцкім гаспадаркам дармова абмалаціла жыта (па 45 п. на гаспадарку ў сярэднім), узьняла трактарам 6 га камітэцкай зямлі, заклала дасьледчыя вучасткі з аўсом, бульбай, жытам. Колгас Адзінства ўзьняў трактарам 9 га камітэцкай зямлі, даваў беднаце магчымасьць бясплатна карыстацца злучным пунктам і малацілкай, ачысьціў насеньне 935 бядняцкіх гаспадарак, вясной 1929 г. заклаў дасьледчыя вучасткі з аўсом, бульбай, люпінам і караньплодамі, у сваёй агрыкультурнай дзейнасьці меў шчыльную сувязь з Турскай Дасьледчай Станцыяй.

Дзякуючы гэтаму аўторытэт гэтых колгасаў быў досыць вялікім. Аб гэтым сьведчыць наступны факт. Увосень 1929 г. сялянства вакольных вёсак, ахвяруючы на індустрыялізацыю краіны першы сноп, аднадушна накіравала ўвесь збор гэтага ў комуну імя Леніна.

Ставячы першай мэтай свайго існаваньня колектывізацыю і агрыкультурнае паляпшэньне гаспадарчага быту, колгасы Чачэрскага раёну ў сваім бытаваньні яшчэ шмат маюць недахопаў. Першым прарывам зьяўляюцца дрэнныя кватэрныя ўмовы. Горш за ўсё з гэтага боку ў комуне імя Леніна. Ад старога часу комуна атрымала разбураныя хлявы для жывёлы і частку іх прыстасавала да квартэр комунараў. Увосень рамантаваліся 4 квартэры і намячаўся для пабудовы 1 дом на 4 сям'і. Цяснота вялікая. Часта ў адным невялікім памяшканьні, дрэнна дагледжаным, зьмяшчаецца некалькі сямей. Так, напр., у пакоі, дзе ўвосень 1929 г. жыў старшыня комуны, узімку жыло 12 чалавек дарослых і вісела 4 калыскі (зыбкі). Памер гэтага памяшканьня—адзін пакой 9 м.×5×3. Канцылярыя комуны знаходзілася на квартэры сакратара, а там жыла яшчэ адна сям'я з дробнымі дзяцьмі і вісела на круках дзьве калыскі. Адзіночкі—моладзь таксама жыве ў цясноце. У пакоі 6 м.×6×3 жывуць два хлопцы, адна дзяўчына і адна сям'я. Вынікам такой цясноты зьявілася пашырэньне ў комуне некаторых эпідэмічных хвароб, асабліва сярод дзяцей. Яны амаль усе цяжка перахварэлі на коклюш.

Яшчэ горшыя квартэрныя ўмовы былі ў колгасе Чырвоная Зорка. Нават выходзячы толькі з гэтага, гэту арцель трэба было даўно лік-

відаваць ці перанесьці ў іншае месца, бо там кватэрныя ўмовы былі жудасныя.

У колгасе Пролетары няма кватэрнага крызісу, бо ўвосень 1929 г. закончылася пабудова дому на 3 кватэры.

Кватэрныя ўмовы ў колгасе Адзінства трэба прызнаць здавальняючымі. З 1927 г. пабудавана ўсяго 8 домікаў для колгасьнікаў. У двох доміках жывуць па 1 сям'і, у астатніх па 2. Домікі расплянаваны ў адну лінію, стварыліся нешта накшталт вуліцы, дамы з аднаго боку, з другога—колгасны сад.



Маці і дзіцё. (Колгас „Пролетары").

У колгасе Пролетары і комуне імя Леніна кватэры разьмешчаны ў старых будынках і нічога спэцыфічна новага не даюць. Унутраны выгляд кватэр колгасьнікаў у трох апісаных колгасах мае свае асаблівасьці. У комуне імя Леніна ў пакоях нявеглага старога памяшканьня перанесена сялянская мэбля, начыньне, ложкі, коўдры, падвесныя да столі калыскі (зыбкі) для дзяцей і г. д. У колгасе Пролетары ў абсталяваньні кватэры захаваўся местачковы быт — нікеляваныя ложкі, дзіцячыя калыскі, прымусы, плюшавыя коўдры — рэшткі мінулай местачковай раскошы і г. д. У гэтым колгасе жыве адна беларуская сям'я, тут кватэра тыповая для чачэрскіх мяшчан-беларусаў: шырмы, фіранкі, на вокнах „аганькі", „мушкаты" і г. д. Кватэры ў колгасе Адзінства даюць нешта сярэдняе між новым і старым. Кватэры, у якіх жывуць дзьве сям'і, звычайна маюць агульную куханку і залю (сталовую) і апрача гэтага паасобныя спаленкі. Прытульнасьці ў кватэрах колгасьнікаў мала бывае. Думка ня гэтым занята. Таксама і якіх-небудзь украс каля дамоў—садзікаў з кветкамі, гародзікаў, ці проста дрэўцаў няма яшчэ. У колгасе Адзінства да гэтага так роўнадушны, што ўся вялікая плошча двара зарасла магутным у 2 м. вышынёю палыном (відаць глеба добрая) і нагадавае нейкія амэрыканскія прэрыі. Увосень гэта нават вельмі прыгожа, але нікому ў галаву ня прыходзіць думка гэтую плошчу скарыстаць больш мэтазгодна.

Унутры кватэры маюць некаторыя ўпрыгожваньні, асабліва ў комуне імя Леніна. Там, напр. кватэра старшыні колгасу (там жыве 4 сям'і) аздоблена портрэтамі нашых правадыроў, фотографіямі розных груп комунараў, малюнкамі з часопісаў, веерамі і г. д. Портрэт Леніна і Калініна знаходзяцца ў пярэднім куце і апраўлены нібы ў раму з рушнікоў, прыгожа пратканых народным орнамэнтам. Кватэры ў колгасах Адзінства і Пролетары ніякага ўбранства ня маюць. Зрэдка можна ўбачыць на сьценах портрэты правадыроў, але яны так зжоўклі і заседжаны мухамі (а іх у мінулую сухую восень у колгасах было вельмі многа), што часта і пазнаць цяжка.

Колгасьнікі між сабой жывуць досыць добра. Спаянасьць між сябрамі больш за ўсё прыкметна ў комуне імя Леніна. Гэта тлумачыцца тым, што ў комуне вельмі вытрыманы соцыяльны склад. У 1929 г. з комуны ніхто ня вышаў, а выключылі аднаго члена за крадзеж. Да восені 1929 г. комуна прыняла на працягу году 7 сямей беднякоў з маемасьцю, якая ацэньвалася ня больш 80 р. на кожнага. З восені пачаўся масавы прыліў сяброў у комуну. У колгасе Пролетары няма сталай згоды між сябрамі. Спрэчкі асабліва сярод жанчын пашыраны. Адна з прычын спрэчак—няправільныя запісы працоўных дзён. Колгасьніцы папякаюць жонку старшыні гэтага колгасу: „Яна не працавала, а ёй лішку 20 дзён прыпісалі“. Спрачаюцца за каровы („мне папалася трудная карова даіць, а табе лёгкая!“), за гаршкі ў агульнай печы, за часты праход праз пакой, калі ён праходны, за дзяцей і г. д. Больш за ўсё спрэчкі бываюць на глебе аграмаджаньня. У колгасах Пролетары і Адзінства спрэчкі між яўрэйскімі і беларускімі сем'ямі вядуцца з-за сьвіней, авечак, засеваў ільну, з-за аграмаджаньня будынкаў, якія ёсьць па-за колгасамі. У колгасе Адзінства ў 1929 г. прынялі ў колгас былога крупадзёра, узяўшы з яго і жонкі 500 р. паю+250 р. недзялімага ўзносу+50 р. уступнага ўзносу, між тым як уся маемасьць крупадзёра ацэньвалася ня менш 1700 р. Таксама прынялі ў гэты колгас былога гандляра хлебам, узяўшы з яго 1000 р. узносаў. З-за прыйма іх таксама былі спрэчкі.

## VII.

Грамадзкі быт у колгасах Чачэрскага раёну яшчэ мала мае колектывістычных элемэнтаў.

Да восені 1929 г. у комуне імя Леніна існавала агульная сталоўка, але організацыя харчаваньня была нагэтулькі нерацыяльная і няўмелая, што нават вышэйстаячыя органы прызналі необходным зачыніць яе, хоць супроць гэтага была прыблізна $^1/_3$ частка комунараў (асабліва адзіночкі). Памяшканьне гэтай сталовай і кухні зусім не адпавядала мінімальным запатрабаваньням санітарыі, гігіены і самай незацейнай кулінарыі. Увосень 1929 г. гэта памяшканьне рэмонтавалася і канешне пытаньне аб агульнай сталоўцы будзе вырашана.

У колгасах Пролетары і Адзінства няма агульнай сталовай, што знаходзіцца ў сувязі з няпоўным аграмаджаньнем маёмасьці членаў гэтых колгасаў. У паасобных сяброў (беларускія сем'і) гэтых колгасаў ёсьць сьвіньні, авечкі і ў кожнай сям'і куры, індыкі, качкі.

Клюб і школа існуюць пры комуне імя Леніна. У колгасе Адзінства ёсьць Чырвоны куток, які летам не працуе. У колгасе Пролетары ніякіх грамадзкіх куткоў няма.

Яс'лі летам былі толькі ў комуне імя Леніна на працягу 2 месяцаў. Спачатку працу вяла прысланая кіраўніца, а потым свая комунарка. Працай ясьляў былі нездаволены. „Павядуць дзяцей на Сож ды цэльны дзень таўкуць іх там“—так расцэньвалі комунары працу ясьляў, якія ахаплялі 19 дзяцей комунараў і 11 з вакольных паселішчаў. Грамадзкіх організацый мала ў колгасах. Пры комуне імя Леніна ёсьць партыйная і комсамольскія ячэйкі, організацыі МОПР і Осоавіяхім. Комсамольская ячэйка слаба працуе. З гурткоў у комуне прыкметна працуе толькі драматычны, які на працягу году ставіць да 10 спэктакляў для вакольных сялян. Культпрацай кіруе камісія з 5 асоб, вынікаў працы мала—адзін № насьценгазэты (да кастрычніка 1929 г.). Комуна

выпісвае 10 газэт і часопісаў. Селькораў сталых зусім няма, толькі адзін комунар зрэдка піша ў газэты.

У колгасе Адзінства, дзе ўсе пісьменныя, хоць і няма клюбу, але ёсьць гурткі: газэтны, палітгурток, гурток па вывучэньню законаў колгаснага будаўніцтва. Выпісвае Адзінства каля 10 газэт, ёсьць бібліотэка-перасоўка з 30 кніг. Працуе культурна-бытавая камісія.

У колгасе Пролетары ніякіх гурткоў няма, 4 сябры нават няпісьменныя. Усяго выпісваецца 2 газэты. Абрана культкамісія, але яна не працуе.

Культпраца ў колгасах Чачэрскага раёну наогул вельмі слабая. На яе адлічваюць 1% з чыстага прыбытку. У комуне Леніна ў мінулым годзе гэта адлічаная сума была роўна 70 р., у гэтым годзе вызначана было 230 р., але ў сувязі з пашырэньнем колектывізацыі гэтую суму трэба будзе значна павялічыць.

Усе колгасы да восені 1929 г. ня мелі ячэек „Бязбожнік". Гэта зьвязана з тым, што да канца 1929 г. сярод колгасьнікаў Чачэрскага раёну ідэі бязбожніцтва амаль ніхто не пропагандаваў. Толькі ў комуне імя Леніна няма нідзе абразоў і няпрыкметна выкананьне рэлігійных абрадаў—ні хрэсьбін, ні вянцоў у царкве на працягу апошніх год ня было, але ня было таксама і акцябрын, і чырвоных вясельляў. У колгасе Пролетары ў яўрэйскіх сем'ях рабілі абразаньне, у беларускай сям'і дзяцей хрысьцілі, авечак вазілі да разьнікоў, нават быў выпадак. што атруцілі парася, якога завяла сабе адна яўрэйка - колгасьніца. У колгасе Адзінства ўжывалі мацу, рабілі абразаньне і нават былі спробы організацыі „мінен" (калі некалькі чалавек організуюцца для хатніх малітваў), да восені 1929 г. сьвяткавалі суботу.

Яскравым паказьнікам новага грамадзкага быту ў колгасах Чачэрскага раёну зьяўляюцца агульныя сходы. Яны заўсёды адбываюцца вельмі актыўна. Удзел прыймаюць ня толькі ўсе рабочыя члены колгасаў, але і ўсё насяленьне колгасаў, часта прысутнічае сям'я ў поўным складзе, нават з груднымі дзяцьмі. Вельмі актыўнымі зьяўляюцца жанчыны і часта вядуць за сабой мужчын. А таму на сходах бываюць выступленьні паасобных мужчын супроць жанчын наогул, як, напр., у колгасе Адзінства, дзе загадчык малочнай адмаўляўся працаваць, бо „з нашымі жанчынамі нельга паладзіць". Праца сярод жанчын сыстэматычна вядзецца толькі ў колгасе Адзінства.

Сямейны быт у колгасах Чачэрскага раёну асабліва моцна трымаецца ў яўрэйскіх колгасах, яле і ў комуне імя Леніна ня было разводаў. У ўзаемаадносінах мужа і жонкі ёсьць уплыў новай комуністычнай моралі. Гэта выяўляецца ў самых драбязьлівых зьявах жыцьця. Праяў распусты і няэтычных учынкаў мала. У комуне імя Леніна быў выпадак, што комунар сышоўся з вясковай дзяўчынай і калі даведаўся, што яна цяжарна, кінуў яе і ажаніўся з комунаркай. Комуна прыняла да сябе пакрыўджаную дзяўчыну і будзе выплачваць ёй алімэнты з зарплаты бацькі. Гэтым конфлікт і закончыўся, ніякіх эксцэсаў ня было. Аборты распаўсюджаны, офіцыяльна вядомы два выпадкі.

Хуліганства зьнішчана ў колгасах Чачэрскага раёну. У комуне імя Леніна, калі ня было партыйнай ячэйкі, хуліганства было вельмі пашырана. Даходзіла да самагонакурэньня (комунары гэта лічаць найбольш шкодным відам хуліганства). Комунары, напіўшыся, на нажах рэзаліся з „пасялкоўцамі". Цяпер аб гэтым слабы ўспамін застаўся. Цяпер вольны час хоць і аднастайна, але праводзіцца досыць культурна. У колгасе Адзінства старыя па ўзросту сябры вольным часам

зьбяруцца ў купу і „ўвесь час гавораць, як палепшыць працу арцелі“. Моладзь ня любіць доўгіх размоў. „Так нам задурваюць галаву гэтым, усё перабяруць да ніткі, мы ўцякаем ад старых“—кажуць маладыя. Моладзь наладжвае вечары з вуснай газэтай, спэктаклі, гуляюць у шашкі, доміно, організуюць даклады аб „міжнародным“, якія вельмі падабаюцца абсолютна ўсім сябром колгасаў. Часта бываюць танцавальныя вечары з гармошкай, альбо ўсім гуртам пойдуць у Чачэрскае кіно (1$^1/_2$ км).

У комуне імя Леніна аналёгічна праводзіцца вольны час, толькі ў кіно ня ходзяць—далёка. Затое больш распаўсюджаны „танцулькі“ пад гармонь. Улетку часам пасьля вячэры дзяўчаты зьбяруцца ў купу і сьпяваюць. Старыя песьні толькі „для сібе“ сьпяваюць. Нават пажылыя комунары і комунаркі лічаць іх няпрыгожымі і аддаюць перавагу новым гарадзкім, фабрычным ці чырвонаармейскім сьпевам.

---

В. С.

# Саўгас „Чырвоны Молат“

*(Халопеніцкага раёну).*

У агульнай сыстэме перабудовы нашае сельскае гаспадаркі на новы социялістычны лад набывае вялікае значэньне практыка гаспадарчае і культурнае працы нашых саўгасаў і старых колгасаў. Добра організаваная гаспадарка і жыцьцё ў саўгасе ці колгасе заўсёды зьяўляліся стымулам для бядняцка-серадняцкіх мас ваколічнага насельніцтва ў справе організацыі буйных социялістычных гаспадарак. Нашы саўгасы і колгасы павінны былі быць практычнай школай для бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі організацыі новых форм социялістычнае сельскае гаспадаркі; такая роля застаецца за імі і ў далейшым. З гэтае прычыны апісаньне саўгасаў і колгасаў, паказ іх дасягненьняў і недахопаў мае практычнае значэньне. У даным кароценькім артыкуле мы застановімся на некаторых момантах у працы саўгасу „Чырвоны Молат“, аб якім мала хто ведае нават у бліжэйшых вёсках раёну і на які мала зварачвалася ўвагі з боку кіруючых устаноў.

Саўгас „Чырвоны Молат“ знаходзіцца на адлегласьці 1,5 км ад м. Халопеніч (ад раённага цэнтру, гл. схэматычную карту). Палажэньне саўгасу адносна экономічных і культурных цэнтраў вельмі нявыгоднае. Да бліжэйшага прамыслова-экономічнага пункту г. Барысава 48 км., да бліжэйшай чыгуначнай станцыі Крупкі (МББ чыгункі) 30 км. Бліжэйшымі саўгасамі зьяўляюцца саўгасы „Весялова“ і „Палялюм“ (у Барысаўскім раёне). З усімі насельнымі пунктамі і з чыгункай саўгас зьвязаны толькі звычайнымі грунтавымі дарогамі,—найлепшай з якіх зьяўляецца дарога на ст. Крупкі.

Да апошняга году саўгас ня меў пэўнага напрамку ў разьвіцьці тае ці іншае галіны сельскае гаспадаркі, ня меў спэцыялізацыі, а самыя вытворчыя пляны сталі складацца толькі ў апошнія 2-3 гады. Саўгас адначасова імкнуўся разьвіваць дьзве спэцыяльныя галіны сельскае гаспадаркі—жывёлагадоўлю і зерневую гаспадарку, якія, трэба дадаць, былі слаба ўвязаны паміж сабой і пакуль што належных вынікаў не далі. У апошні год саўгас атрымаў заданьне ад кіруючых органаў узяць больш выразны жывёлагадоўчы напрамак.

У якіх-жа ўмовах разьвівалася гаспадарка саўгасу да гэтага часу, у якім становішчы яна знаходзіцца ў даны момант і якія пэрспэктывы яна мае на далейшае разьвіцьцё?

Уся зямельная плошча саўгасу роўна 567,14 га, г. зн. зусім нязначная для разьвіцьця буйное савецкае гаспадаркі. Па ўгодзьдзях яна разьмяркоўваецца такім чынам (у гэктарах):

| Пахаць | Луг | | Сядзіба | Гарод | Сад | Пладовы выхавальн. | Выган | Пад хмызьнякамі | Лес мясц. значэньн. | Дарогі канавы, рака | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | балотн. | сухадольн. | | | | | | | | | |
| 232,69 | 138.89 | 20 | 15,30 | 2,62 | 4,37 | 5,0 | 70,97 | 15,62 | 50,72 | 10,96 | 567,14 |
| 41% | 28% | | | | | | 15,3 | | | | |

Прыведзеная табліца паказвае, што і тая досыць нязначная плошча зямлі, якая знаходзіцца ў распараджэньні саўгасу, у даны момант скарыстоўваецца досыць экстэнсыўна: 28% запушчаных балотных лугоў, якія трэба асушыць і скарыстаць больш рацыянальна, 15,3% плошчы пад выганам і хмызьнякамі, якія не даюць ніякай карысьці і інш. Зусім зразумела, што такое становішча трэба лічыць ненормальным.




У бліжэйшыя-ж гады трэба асушыць балотныя лугі і зрабіць іх культурнымі і скарыстаць належным чынам плошчу пад выганамі і хмызьнякамі, але такія работы не пад сілу самому саўгасу пры цяперашнім яго экономічным становішчы і тэхнічных магчымасьцях; тут павінна быць належная дапамога з боку Белсельтрэсту.

Глебы саўгасу належаць да сярэдня-падзолістых глеб і па мэханічнаму складу прадстаўляюць лёэсавыя супесі, падасланыя пяскамі і далей морэнай. Па рацэ Эссе глебы належаць да поймавых утварэньняў, забалочаны. Кліматычныя і глебавыя ўмовы даюць магчымасьць саўгасу разводзіць асноўныя для данай мясцовасьці культуры: жыта, авёс, ячмень, бульбу, лён, прычым лён стаў засявацца толькі год таму назад паводле заданьня трэсту. У мінулым годзе саўгасам па кантрактацыі было засеяна пад лён 30 га.

З 1926 году ў саўгасе ўведзены правільны васьміпольны севазварот: 1) папар, 2) жыта, 3) бульба, 4) ярына з падсевам канюшыны, 5) канюшына 1 г., 6) канюшына 2 г., 7) бульба, 8) ярына. Пашырэньне засеву бульбы для саўгасу набывае вялікае значэньне ў сувязі з заканчэньнем у гэтым годзе пабудовы ў м. Халопенічы комбінату, на якім будзе выrабляцца крухмал. Да гэтага-ж часу саўгас здаваў буль-

бу ў неперaапрацаваным відзе сельскагаспадарчай коопэрацыі па кантрактацыі і нарадах трэсту.

Саўгас у апошнія гады палі засявае выключна ачышчаным і гатунковым насеньнем (жыта — шацкае, авёс — „залаты дождж“), аднак, ураджаі ў саўгасе пакуль застаюцца вельмі нізкімі, што відаць з наступнае табліцы (у цэнтнэрах):

| Гады | Жыта | Авёс | Ячмень | Бульба | Канюшына (насенная) | Канюшына (на сена) | Сенажаць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1925 | 8,9 | 10,4 | — | 93,2 | — | — | 9,8 |
| 1926 | 4,0 | 6,5 | 6,5 | 75,8 | 1,5 | 8,3 | 9,5 |
| 1927 | 5,65 | 3,1 | 4,85 | 44,4 | 1,5 | 20,2 | 7,8 |
| 1928 | 4,6 | 6,8 | — | 30,3 | 1,0 | 20,8 | 9,35 |
| Сярэдні за 4 гады | 5,8 | 6,7 | 5,7 | 6 ,9 | 1,36 | 17,0 | 9,13 |
| 1929 | 6,5 | 10,8 | — | 66,8 | — | 18,1 | — |

З табліцы відаць, што наогул нявысокія ўраджаі ў саўгасе асабліва паніжаюцца ў 1927 і 1928 г. г. Прычыны гэтаму розныя: з аднаго боку безгаспадарчасьць, як напр., засяваньне нявыпрабаваных гатункаў збожжа, (авёс „Эхо“ ў 1927 г.) няправільнае і няўмелае ўжываньне ўгнаеньня (пад бульбу ў 1928 г.), нясваечасовы засеў і інш., а з другога боку — няспрыяльныя прыродныя ўмовы (дажджлівае лета, лівень у 1927 г. і інш.). Мінулы 1929 г. дае ўжо значнае павялічэньне ўраджайнасьці па некаторых культурах: жыта на 39%, аўсу на 63%, бульбы на 52%, што тлумачыцца ў значнай меры больш уважлівымі адносінамі з боку кіраўніцтва і рабочых да вядзеньня палявой гаспадаркі (лепшая апрацоўка глебы, ужываньне штучнага ўгнаеньня, больш сваечасовыя палявыя работы). Наогул-жа трэба сказаць, што палявая гаспадарка была і застаецца ўбыткоўнай для саўгасу. Так, напр., складзены на 1930 г. гаспадарчы плян у галіне паляводзтва (улічваючы вынікі мінулых гадоў і пэрспэктывы будучага году) прадбачыць перавышэньне выдаткаў над прыбыткам ад палявой гаспадаркі на 3.308 р. 45 к. (прыбытак 16.318 р. 50 к., выдаткі 19.626 р. 95 к.). У 1928 г. гаспадарка дала дэфіцыт у 5.000 руб. (прыблізна).

Сенажаці саўгасу, ня гледзячы на іх запушчанасьць і адсутнасьць культурна-тэхнічных палепшаньняў, зьяўляюцца аднэй з нямногіх прыбыткоўных стацей саўгасу. Саўгас па нарадах трэсту забясьпечвае сенам і некаторыя суседнія саўгасы (Палялюм). Правядзеньне мэліорацыі і іншых культуртэхнічных мерапрыемстваў дало-б вялікія магчымасьці саўгасу стварыць належную кармовую базу і організаваць жывёлагадоўчую гаспадарку.

У саўгасе ёсьць пладовы сад у 4,37 га, які зьяўляецца аднэй з даходных стацей гаспадаркі. У 1926 г. саўгас прыступіў да організацыі пладовага выхавальніка. У даны момант у гадавальніку налічваецца: 15.500 сеянцаў дзічак і яблынь аднаго году — 9.908 шт., двух год — 1.075 шт., груш — 552. У гэтым годзе па заданьню трэсту саўгас організуе прамысловае гародніцтва для вырашчваньня насеньня гуркоў і капусты. Для гэтае справы вызначана 7 га. Як разаўецца ў саўгасе садоўніцка-гародніцкая справа зараз сказаць

цяжка, але трэба думаць, што ў сувязі з колектывізацыяй раёну і ўзятым курсам на палепшаньне садоўніцтва і гародніцтва ў колгасах, запатрабаваньні на насенны матар'ял для гародніны і па саджанцы з боку колгасаў будуць значныя. Гэтыя зпатрабаваньні ў першую чаргу і павінен будзе задаволіць саўгас, але зразумела садоўніцтва і гародніцтва ў колгасе „Чырвоны Молат“ могуць быць толькі дапаможнымі галінамі гаспадаркі.

Нельга, зразумела, прызнаць сур'ёзнай спробу саўгасу (па заданьню) організаваць табакаводзтва. Глебавыя і кліматычныя ўмовы з аднаго боку і адсутнасьць у саўгасе сцэцыяліста па табакаводзтву з другога паказалі ў першы год (1929) поўную нерэнтабельнасьць гэтае справы. Ва ўсякім выпадку без належнага кіраўніцтва і папярэдняга выпрабаваньня нельга ставіць пытаньне ў шырокім маштабе.

Найбольшыя мажлівасьці на разьвіцьцё ў саўгасе мае жывёлагадоўля, на што да 1928 г. не зварочвалася належнай увагі. Рост жывёлы відаць з наступнай табліцы.

| Гады | Каровы | Цяляты | Коні | Маладняк |
|---|---|---|---|---|
| 1926 | 14 | 13 | 20 | — |
| 1927 | 29 | 13 | 18 | — |
| 1929 (1/VI) | 69 | 51 | 18 | 5 |
| 1930 (15/II) | 86 | 67 | 28 | 5 |

Даная табліца паказвае значнае павялічэньне (больш чым на 100%) кароў у 1927 г. і прыблізна такі-ж процант павялічэньня ў 1928 г., калі з Мэлітопалю была выпісана значная партыя кароў чырвонай нямецкай пароды. З гэтага-ж часу пачынае расьці і колькасьць племяннога маладняка. У 1930 годзе ў сувязі з раскулачваньнем кулацкіх гаспадарак саўгас атрымаў яшчэ 9 кароў і 9 коняй і купіў восемь кароў і 1 каня. Гэта колькасныя паказчыкі росту жывёлагадоўлі ў саўгасе, але гэтыя паказчыкі самі па сабе яшчэ ня сьведчаць аб сапраўдным якасным становішчы жывёлагадоўчай справы ў саўгасе. Коні, за выключэньнем набытых у 1929 і 1930 г. г. дробныя, слабасільныя. Каровы наогул малапродукцыйныя. Прывезеная ў 1928 г. з Мэлітопаля партыя кароў чырвонай нямецкай пароды (каля 30 шт.) з прычыны нездавальняючага ўтрыманьня і слабога дагляду (у халодных хлявох) і непрыстасаванасьці да новых кліматычных умоў зараз аказалася зусім няпрыгоднаю для далейшага ўтрыманьня, бо ўсе каровы захварэлі на сухоты і забракаваны. Хлявы і да гэтага часу ня прыведзены ў належны парадак. Спэцыяльных кармушак для ўсіх кароў няма. Ваколічныя сяляне пры абгаварэньні пытаньняў колектывізацыі і аграмаджаньня жывёлы часта адзначаюць некаторую нядбайнасьць і някультурнасьць вядзеньня справы жывёлагадоўлі ў саўгасе (в. Галькі). У значна лепшым становішчы знаходзіцца маладняк.

Сярэдні ўдой каровы ў год характарызуецца наступнымі лічбамі (у літрах):

| 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | Сярэдні за 4 гады |
|---|---|---|---|---|
| 581 | 849 | 942 | 1097 | 847 |

Шляхам падбору больш продукцыйнай жывёлы і палепшаньня догляду і ўтрыманьня кароў удойнасьць іх можна значна павялічыць.

У сучасны-ж момант буйная рагатая жывёла ў саўгасе дае дэфіцыт. І гэта пры наўнасьці лугоў і забясьпечанасьці грубымі кармамі. Такое становішча, бязумоўна, ненормальна і павінна быць зьменена. Сьвіней у саўгасе зусім няма.

Сельска-гаспадарчым інвэнтаром саўгас параўнальна забясьпечаны здавальняюча. У саўгасе ёсьць наступныя асноўныя сельска-гаспадарчыя прылады і машыны:

| Назва прадметаў | Колькасьць | Назва прадметаў | Колькасьць |
|---|---|---|---|
| Плугі 2-х лямешныя | 8 | Сеялкі раскідныя | 2 |
| „ 3-х лямешныя | 3 | „ радковыя | 1 |
| Бароны зіг-заг | 24 | Жаткі | 4 |
| „ спружыновыя | 5 | Касілкі конныя | 2 |
| „ лугавыя | 2 | Малатарня паравая | 1 |
| Культыватары | 3 | „ ручная | 1 |
| Акучнікі | 2 | Сартыроўкі | 2 |
| Бульбакапальнікі | 2 | Арфы | 2 |
| | | Граблі конныя | 2 |

Да канца 1929 г. у саўгасе быў і трактар „Фордзон“, але цяпер ён па загаду Белсельтрэсту перададзены ў саўгас „Косіна“. З гэтае-ж прычыны ў саўгасе павялічыўся лік коняй. Трэба, аднак, сказаць, што трактар у саўгасе „Чырвоны Молат“ ня меў належнай нагрузкі ня толькі ў зімні час, але і ў летні і трымаць яго ў такой маленькай гаспадарцы было немэтазгодна.

Вельмі востра стаіць справа з будынкамі ў саўгасе. Кватэрная плошча для рабочых і служачых саўгасу вылічаецца ў 318 кв. м і плошча пад канторай у 9 кв. м. Цяперашнія кватэры для рабочых былі разьлічаны для былых батракоў маёнтку, на месцы якога існуе саўгас, і зусім не адпавядаюць санітарна-гігіенічным і культурна-бытавым вымаганьням. Адчуваецца патрэба ў пабудове кватэр для рабочых, клюбу, якога цяпер у саўгасе зусім няма. Патрэбна таксама пабудова стайні, хлявоў, сьвірну. Такі недахоп у будынках у саўгасе адчуваецца таму, што ў часе нямецкай окупацыі нямецкай вайсковай часьцю быў спалены галоўны жылы будынак, а потым у 1921—1922 г. былі спалены і некаторыя халодныя будынкі воража настроенымі да саўгасу людзьмі. Новага-ж будаўніцтва Белсельтрэст разгарнуць яшчэ ня змог.

Ніякіх прамысловых прадпрыемстваў у саўгасе няма, а саўгас, як вытворчая адзінка, уваходзіць у Беларускі сельска-гаспадарчы трэст (Белсельтрэст), які плянуе вытворчасьць і організуе збыт продуктаў паасобных савецкіх гаспадарак.

У саўгасе працуе 14 чал. штатных рабочых, 5 служачых і 9 чал. сэзонных рабочых, якія атрымліваюць 87 к.—1 р. 08 к. у дзень. Усіх членаў сем'яў рабочых налічваецца 40 чал., з іх 12 чал. дзяцей. Усе штатныя рабочыя і служачыя зьяўляюцца членамі саюзу Рабземлес. Для абгаварэньня пытаньняў, зьвязаных з падняцьцем вытворчасьці

працы і павялічэньнем яе продукцыйнасьці, склікаюцца вытворчыя нарады. У сучасны момант у сувязі з разгортваньнем соцыялістычнага спаборніцтва ў саўгасе рабочыя організавалі дзьве ўдарныя брыгады (па 5 чал.), якія паставілі сваёй мэтай падняць продукцыйнасьць працы і сваечасовую падрыхтоўку да вясеньней засеўнай кампаніі.

Самастойных грамадзкіх організацый (Мопру, Осоавіяхім і інш.) у саўгасе няма. Паасобныя рабочыя зьяўляюцца членамі адпаведных местачковых організацый, прычым агульны лік рабочых, уцягнутых у грамадзкую працу і організацыі нязначны. У саўгасе няма таксама ніякіх гурткоў; політычнае выхаваньне пастаўлена слаба. Тлумачыцца гэта ў значнай меры тым, што ў саўгасе няма партыйнага ядра, якое-б давала кірунак грамадзкай і ўсёй выхаваўчай працы. Да гэтага трэба дадаць, што сярод рабочых і асабліва сярод членаў іх сем'яў ёсьць значны процант няпісьменных і да апошняга году нават на ліквідацыю няпісьменнасьці сярод рабочых, не гаворачы ужо аб далейшым паглыбленьні іх адукацыі, не зварачвалася сур'ёзнай увагі; толькі ў гэтым годзе лікпунктам больш-менш ахоплены ўсе няпісьменныя. І зусім зразумела, што культурнае жыцьцё і праца ў саўгасе стаяць на нізкай ступені. Праўда, з боку раённых організацый прымаюцца меры, каб уцягнуць рабочых у працу местачковых організацый (паколькі саўгас знаходзіцца ў 1,5 км ад мястэчка і ня мае сваіх сіл), але-ж гэты мэтод пакуль што ня даў добрых вынікаў. Магчыма, што і сама пастаноўка працы ў мястэчку (напр., нардом) не адпавядае запатрабаваньням рабочых.

З тае прычыны, што саўгас ня мае адпаведных культурных сіл і не стаіць яшчэ на належнай вышыні як буйная сельска-гаспадарчая вытворчая адзінка, уплыў яго на ваколічнае насельніцтва вельмі слабы. Саўгас не адыграў і не адыгрывае належнай ролі ў справе колектывізацыі індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Сувязь яго з бядняцкімі гаспадаркамі бліжэйшых вёсак выявілася ў дапамозе некалькім бядняцкім гаспадаркам апрацаваць і засеяць поле, у ачыстцы насеньня для севу і інш. Гэтага бязумоўна недастаткова. Саўгас павінен быў зьявіцца організатарам колектыўных гаспадарак у раёне; ён павінен быў паказаць як трэба будаваць буйную соцыялістычную гаспадарку, як організаваць працу ў гэтай гаспадарцы і г. д. Саўгасу „Чырвоны Молат" гэта задача аказалася не пад сілу.

Саўгас ня мог стаць моцнай і культурнай савецкай гаспадаркай таму, што ён ня меў належнай матар'яльнай базы, ня меў належнага кіраўніцтва ў непасрэднай вытворчай працы, не забясьпечаны быў агрономічным абслугоўваньнем. Аб адносінах да саўгасу з боку органаў былога НКЗ і мясцовых устаноў сьведчыць хаця-б такі факт, як абрэзка 15 га зямлі яшчэ ў мінулым годзе для мястэчка. Гэтая памылка цяпер ужо выпраўлена. У сувязі з агульным курсам, даным партыяй, на ўзмацненьне і ўзбуйненьне саўгасаў Белсельтрэстам і НКЗ узята ўстаноўка на ўзбуйненьне саўгасу „Чырвоны Молат" у гэтым-жа годзе да 3.000 га лугоў. Распрацоўваецца плян асушкі гэтых лугоў і прывядзеньня іх у культурнае становішча з мэтай стварыць для саўгасу моцную increasingкармовую базу, каб прыдаць саўгасу, выразны жывёлагадоўчы ўхіл. Адпаведна павялічэньню маштабу гаспадаркі павялічыцца і лік рабочых у саўгасе. У блізкім часе саўгас „Чырвоны молат" стане буйной савецкай гаспадаркай з спэцыялізацыяй у жывёлагадоўлі. Побач з саўгасам адзін за адным у раёне растуць колгасы, як соцыялістычныя гаспадаркі, якія будуць зьвязаны паміж сабой адзіным вытворчым плянам.

**В. Купрэвіч.**

# Лекавыя сродкі ў народнай мэдыцыне.

*(Смалявіцкі раён, Менск. акр.).*

Матар‘ялы аб народнай мэдыцыне, якія падаюцца ніжэй, сабраны пераважна вучнямі мясцовай белар. сямігодкі, а таксама, часткова, сябрам раён. краязнаўчага т-ва Купрэвіч Верай і мной. Зьбіраньне матар‘ялу адбывалася на працягу 1926-29 г.г., прычым былі ахоплены бадай-што ўсе населеныя пункты раёну.

Збор лекавых расьлін, сьпіс якіх падаецца ніжэй, адбываецца звычайна ў маі і пачатку чэрвеня. У гэты час некаторыя „народныя лекары“ накіроўваюцца за дзесяткі вёрст на заліўныя сенажаці, у лясы і балоты па патрэбныя расьліны. Сабраны матар‘ял засушваецца ў большасьці выпадкаў пад страхой, або проста на печы. Пры лячэньні ўжываецца звычайнна ўся расьліна (з карэньнем, сьцяблом, лісьцямі і кветкамі), а калі не, дык і сушыцца толькі тая частка яе, якая выкарыстоўваецца.

Для прыёму ўнутр, як правіла, гатуюць з расьліны адвар. Дзеля чаго расьліну кладуць у гліняны гаршчок, заліваюць вадой і ставяць у „лёгкі дух“ (г. зн. у печку пасьля таго, як яна ўжо выпаліцца і крыху астыне). Калі адвар атрымаецца вельмі моцны (накшталт дзёгцю), дык яго разбаўляюць перагатаванай вадой да колеру гарбаты і п‘юць у адзін прыём прыблізна шклянку. Прычым, з кожным днём хворы павялічвае дозу. Але, наогул кажучы, у аграмаднай большасьці выпадкаў у гэтым кірунку ня існуе ніякіх правіл.

Спосабы ўжываньня іншых (не расьлінных) лекавых сродкаў паказаны ў адпаведным сьпісу.

Большая частка паказаных у сьпісах матар‘ялаў сабрана наступнымі вучнямі мясц. белар. сямігодкі:

Скорабагатая Алеся і Лапцёнкі Каця і Насьця зьбіралі на хутарох „Калюга“ ад Лапцёнак Г., 50 год і іншых асоб. Паўлоўская Н. і Скуратовіч І.—вёска Крывая-Бяроза, пераважна ад Скуратовіч Фэліцы, 76 год. Розум Л., Красінскі К., Жыгалка В., Ерахавец З. і Кашэль А.—м-ка Смалявічы, ад розных асоб. Лабач К.—в. Восава. Ерахавец І.—в. Астраўкі. Апацкі А.—в. Чарніца. Шыбко М. і Зьмітровіч У.—в. Асавіна. Тамашэвіч А.—в. Праходка. Мацкевіч Ул.—в. Кальнікі, ад Мацкевіч М., 50 год. Дулеба В.—в. Дуброва. Васілёнак—в. Лютка. Пятроўскі Р. і Кашэль А.—в. Скураты. Мініч Ад.—Варатоўшчына. Інчык А.—Яවароўшчына. Лапцёнак Н.—в. Верхажа і в. Ахрана.

Па вёсках Кальнікі, Кайкава, Мглё, Бабін Лес і Крутая Гара матар‘ялы сабраны сябрам Краязн. т-ва Купрэвіч Верай і мной.

Прыводжу сьпісы лекавых расьлін і іншых лекавых сродкаў у альфабэтным парадку.

## I. Расьліны [1]).

1. *Achillea Millefolium L.* Крываўнік звычайны. Параць у вадзе і п‘юць ад болей у жываце; хут. Калюга. Сокам, выціснутым са сьвежай расьліны, заліваюць раны; в. Забалоцьце, Кальнікі, Мглё, Бабі Лес, Кайкава, Крутая Гара.

[1]) Азначэньне расьлін, якія ўжываюцца, як лекавыя, рабілася мною (паводле экзэмпляраў, дастаўленых разам з запісамі).

2. *Achillea nobilis L.* Крываўнік ружовы.

Параць у вадзе і п‘юць ад кровацячэньня (з носу, а таксама пры мэнструац.).

3. *Avena sativa L.* Авёс сеўны.

„Цэдам“ аўсу (пераквашанае жыдкае цеста з аўсянай мукі) лечаць дзяцей ад глістоў (круглых і істужкавых). Дзеля гэтага хвораму даюць выпіць адну шклянку моцнага „цэду“, распушчанага ў вадзе (на $^1/_2$ шлянкі цэду—$^1/_2$ шклянкі вады); в. Кальнікі. Талакном (мілтай), прыгатаваным хатнім спосабам, лечаць ад нэўрастэніі і катару страўніка в. Кальнік, Кайкава, Гільмшчына.

4. *Arctostaphylos Uva ursi Spr.* Мучаньнік звычайны.

Адвар расьліны п‘юць ад рэўматызму. А таксама прыкладаюць да хворага месца анучку, змочаную ў адвары; хут. Калюча.

5. *Aloё vulgaris.* Аліяс (Алоэ).

Вараныя, ці сырыя сакавітыя лісьця ядуць з мёдам ад сухот. Мочаны ў гарэлцы—ад жывата. Сокам заліваюць сьвежа парэзаныя раны; в. Лютка, Кальнікі, Мглё, м-ка Смалявічы.

6. *Artemisia Absinthium L.* Палын.

Адвар п‘юць ад галаўной болі і болі жывата; в. Кальнікі.

7. *Amanita muscaria.* Мухамор.

Лечаць ад рэўматызму. Маладыя сьвежыя мухаморы настайваюць на вінным сьпірытусе; настоем націраюць хворыя месцы (перад ужываньнем бутэльку з настоем кладуць на некалькі дзён у гной, настоены вараным канём); в. Асавіна.

8. *Ajuga reptans L.* Гарлянка паўзучая.

Параць у вадзе і п‘юць пры болях у горле; х. Калюга.

9. *Allium Cepa L.* Цыбуля.

Цыбулю пякуць, намыльваюць мылам і прыкладаюць да мазоляй; м-ка Смалявічы.

10. *Allium sativum L.* Часнок.

Ядуць галоўкі часнаку ад глістоў, усюды.

11. *Alnus glutinosa Gaetn.* Вольха ліпкая.

Аднагодныя гучкі параць у вадзе і заліваюць раны; хут. Калюга.

12. *Brassica rapa.* Рэпа.

Насеньне параць у вадзе і даюць піць дзецям ад водры; в. Кальнікі.

13. *Bidens tripartitus L.* Ваўчкі трыдзельныя.

Параць у вадзе і п‘юць ад спалоху; хут. Калюга.

14. *Brunella vulgaris L.* Брунэлька звычайная.

Адвар травы п‘юць ад кашлю; в. Дуброва.

15. *Betula verrucosa Ehrh.* Бяроза гузаватая.

Сьвежа прыгатаваным адварам лісьця або пучкоў, сабраных вясной, заліваюць раны; м-ка Смалявічы, в. Кальнікі.

16. *Boletus edulis Bull.* Баравік.

Грыб размачваюць у вадзе і прыкладаюць да скулы; м-ка Смалявічы.

17. *Briza media L.* Дрыжнік сярэдні.

Адвар сушанага дрыжніка п‘юць пры затрыманьні мачы; в. Кальнікі.

18. *Cuscuta europaea L.* Павітуха эўропейская.

У адвары павітухі купаюць дзяцей, якія кепска прыбываюць у вазе, пасьля нараджэньня; х. Калюга.

19. *Chrysosplenium alternifolium, L.* Мінушкі чарговалісьцёвыя.

Кветкі парацъ у вадзе і п'юць (або мыюцца) ад залатухі; хут. Калюча.

20. *Corus Calamus, L.* Аер балотны.

Лечаць коняй ад змардаваньня і аддышкі. Дзеля гэтага даюць хворым коням патоўчанае сухое карэньне аерніку з аўсом. Дзяўчаты мыюць галаву адварам, каб добра расьлі валасы; в. Кальнікі.

21. *Centaurea arenaria*, M. B. Валошка пескавая.

Адвар п'юць ад катару лёгкіх і кашлю; х. Калюга.

22. *Centaurea Cyanus, L.* Васілёк палявы.

Адвар п'юць ад затрыманьня мачы; хут. Калюга.

23. *Cucurbita Pepo, L.* Гарбуз звычайны.

Сушаць шкарупкі, таўкуць іх і даюць піць каровам ад паносу; в. Кальнікі.

24. *Cannabis sativa, L.* Канапля сеўная.

Насеньне труць, зьмешваюць з вадой і даюць піць каровам дзеля „ачышчэньня“ пасьля ацёлу; в. Верхажа.

25. *Carduus acanthoides, L.* Чартапалох калючы.

Адвар кветак і лісьця п'юць ад спалоху; х. Калюга.

26. *Convallaria majalis, L.* Лантуш.

Адвар расьліны п'юць ад гарлавой болі; хут. Калюга. Моцны настой кветак на гарэлцы п'юць з вадой ад падучай хваробы (2—5 кропель на шлянку вады); в. Кальнікі.

27. *Claviceps purpurea.* Спарыньня.

Перад родамі даюць парадзісе 4-5 плодзікаў і пасьля родаў столькі-ж; в. Кальнікі.

28. *Daucus Carota, L.* Морква гародная.

Корань сушаць, параць і п'юць ад малакроўя. Для тэй-жа мэты ўжываюць сок кораня; в. Кальнікі.

29. *Equisetum arvense, L.* Хвошч палявы.

Адвар карэньня п'юць пры гострых болях нырак; в. Кальнікі.

30. *Fragaria vesca, L.* Суніцы звычайныя.

Адвар карэньня п'юць ад рэўматызму; хут. Калюга. Адварам усёй расьліны мыюць твар ад вяснушак; в. Кальнікі.

31. *Hepatica triloba, Chaix.* Пралеска трыпадзельная.

Адварам кветак прамываюць вочы ад розных хвароб; в. Кальнікі.

32. *Juniperus communis, L.* Ялавец звычайны. Сок шышак („ягад“), зьмешаны з квасным малаком п'юць ад болей у жываце; х. Калюга.

33. *Inula Helenium, L.* Дзівасіл звычайны.

Настой травы на гарэлцы п'юць ад болей у жываце і парушэньня; в. в. Дуброва, Крывая-Бяроза.

34. *Iris germanica, L.* Касач нямецкі.

Адвар карэньня даюць піць каровам ад „краскі“; в. Крывая Бяроза.

35. *Iris Pseudacorus, L.* Касач жоўты.

Карэньні даюць сьвіньням ад розных хвароб; в. Крывая Бяроза.

36. *Linaria vulgaris, Mill.* Зарніца звычайная.

Адвар даюць піць каровам для ачышчэньня пасьля ацёлу; в. Кальнікі.

37. *Lycoperdon gemmatum.* Порхаўка.

Зароднікамі дасьпеўшага грыба засыпаюць раны; в. Каланікі.

38. *Ledum palustre, L.* Багун балотны.

Парацъ і п'юць ад кашлю. Адвар даюць сьвіньням з кормам для ўзмацненьня апэтыту. Кладуць сьвежыя расьліны ў хлеў для папярэджаньня розных хвароб сьвіней; в. Кальнікі.

39. *Lilium Martagon, L.* Лялея.

Кветкі парацъ у вадзе і п'юць ад сухот; Прылукі.

40. *Lichenes* (лішайнікі)—розныя віды.

Розныя віды лішайнікаў, якія растуць на дахах, сьценах і дрэвах сушаць, труць і прыкладаюць да раны; хут. Калюга.

41. *Leonurus Cardiaca, L.* Сардэчнік звычайны.

Настой сухіх кветак п'юць ад сэрцабіеньняў; в. Крывая Бяроза.

42. *Matrikaria discoidea, DC.* Раманок пахучы.

Адвар п'юць ад хвароб жывата (ад крываўкі і паносаў); в. Кальнікі.

43. *Mentha silvestris, L.* Мята лесавая.

Траву парацъ і прыкладаюць да месц, хворых рожай; в. Ахрана.

44. *Mentha arvensis, L.* Мята палявая.

Лісьце парацъ і п'юць ад ташнаты і ванітаваньня; х. Калюга.

45. *Orchis maculata, L.* Зязюлька плямістая.

Сьвежы корань (расьцёрты) кладаць на хворыя зубы; в. Кальнікі.

46. *Origanum vulgare, L.* Мацярдушка звычайная.

Сушаныя кветкі і сьцяблы парацъ у малаку (у глінянай пасудзе) і п'юць ад болей сэрца; в. Крывая Бяроза.

47. *Ophioglossum vulgare.* Гадзючнік.

Лечаць быдла ад укусу гадзюкай, дзеля чаго сьвежую траву кладуць у хлеб і даюць пакусанай жывёле; в Асавіна.

48. *Menyanthes trifoliata, L.* Бабок.

Адвар п'юць ад сухот, кашлю і прастуды; м-ка Смалявічы, Кальнікі і інш.

49. *Populus pyramidalis.* Таполя.

Настоем веснавых пучкоў у гарэлцы заліваюць парэзаныя раны; м-ка Смалявічы, в. Праходка.

50. *Pinus silvestris, L.* Хвоя лесавыя.

Пылком кветак засыпаюць раны; в. Восава. Настой на гарэлцы маладых веснавых гучкоў хвоі п'юць ад сухот; в. Восава. Смалу і карэньне маладой хвойкі парацъ і п'юць ад сухот. Для тэй-жа мэты парацъ і п'юць кветкі; х. Калюга; в. Кальнікі.

51. *Petroselinum sativum, Hoffm.* Пятрушка гародная.

Адвар лісьця і карэньня ўжываюць, як мачагоннае; в. Крывая Бяроза; в. Кальнікі.

52. *Plantago media, L.* Трыпутнік сярэдні.

Сьвежыя лісьця прыкладаюць да скулы; в. Чарніца. Адвар карэньня даюць піць каровам ад „краскі"; в. Кальнікі.

53. *Polystichum Filix mas.* Папарацъ (мужчынскі).

Адвар карэньня п'юць ад салітэра; в.в. Мглё, Кальнікі.

54. *Polygonum aviculare, L.* Драсён птушыны.

Адварам дзяўчаты мыюць галаву, каб добра расьлі і завіваліся валасы; в. Кальнікі, в Мглё.

55. *Potentilla palustris, Scop.* Дуброўка балотная.

Сьвежыя расьліны запарваюць і даюць піць каровам ад „краскі"; в. Кальнікі.

56. *Polygonum Bistorta, L.* Драсён вужоўнікавы.

Адвар карэньня даюць піць дзецям ад падучай хваробы; в. Крывая Бяроза.

57. *Pirus Malus, L.* Яблыня.

Сушаныя яблыкі заварваюць вадой і даюць піць ад кашлю; в. Кальнікі.

58. *Papaver Rhoeas, L.* Мак чырвоны.

Труць насеньне і прыкладаюць да скуры ад сыпі; в. Кальнікі.

59. *Paeonia peregrina, Mill.* Півонія звычайная.

Параць, і п'юць ад падучай хваробы; х. Калюга.

60. *Quercus Robur, L.* Дуб лядны.

Адварам дубовай кары палошчуць рот ад цынгі і болі зубоў; в. Арлова. Адвар кары п'юць ад сухот; в. Чорны Лес.

61. *Raphanus Sativus, L.* Рэдзька.

Корань рэдзькі расьціраюць і націраюцца ад рэўматызму, в.в. Кальнікі, Мглё.

62. *Rubus idaeus, L.* Маліна звычайная.

Адвар маліньніка п'юць ад прастуды; в.в. Кальнікі, Крутая Гара, Крывая Бяроза, м-ка Смалявічы.

63. *Salix rasmarinifolia, L.* Лаза ніцая.

У адвары галінак і лісьцяў купаюць дзяцей ад залатухі; в. Астраўкі.

64. *Sorbus aucuparia, L.* Рабіна звычайная.

Ягады настойваюць на гарэлцы і п'юць ад болей у грудзёх; х. Калюга.

65. *Sedum soboliforum, Sims.* Скочкі.

Сьвежыя расьліны таўкуць з салам і прыкладаюць да вывіхаў; х. Калюга.

66. *Syringa vulgaris, L.* Бэз звычайны.

Кветкі параць у вадзе, або настойваюць на гарэлцы і п'юць ад сухот; х. Калюга.

67. *Stellaria media, Vill.* Макрыца.

Адвар п'юць ад рэўматызму; параную макрыцу (гарачую) прыкладаюць да хворага рэўматызмам месца; х. Калюга.

68. *Solanum tuberosum, L.* Бульба.

Адвар кветак даюць дзецям ад коклюшу; в. Крывая Бяроза.

69. *Symphytum officinale, L.* Жывакост.

Адвар сушаных карэньняў п'юць ад сухот касьцей; в. Крывая Бяроза.

70. *Taraxatum vulgare, Schrank.* Дмухавец звычайны.

Сокам расьліны лечаць бародаўкі (змазваюць іх); в. Кальнікі.

71. *Tanecetum vulgare, L.* Піжма звычайная.

Адвар п'юць ад спалоху; в. Верхажа. У адвары купаюць дзяцей, каб хутчэй расьлі; в. Крывая Бяроза.

72. *Thymus Serpyllum, L.* Чабор звычайны.

Адвар п'юць ад кашлю; в. Кальнікі.

73. *Tilia cordata, Mill.* Ліпа сэрцалістая.

Кветкі, сабраныя ў чэрвені, запарваюць і п'юць ад прастуды; м-ка Смалявічы, в. Дуброва, в. Мглё і інш.

74. *Triticum vulgare, Vill.* Пшаніца звычайная.

У адвары вотрубей пшаніцы купаюць дзяцей ад залатухі; в. Скураты.

75. *Urtica urens, L.* Крапіва жыгучка.

Адвар п'юць ад лёгачных хвароб; х. Калюга.

76. *Valeriana officinalis, L.* Валяр'яна лекавая.

Карэньні настайваюць на гарэлцы і п'юць ад болей у жываце; в. Астраўкі. Адвар карэньня і кветак п'юць ад галаўных болей і хвароб сэрца; х. Калюга.

77. *Viola tricolor, L.* Браткі звычайныя.

У адвары браткоў купаюць хворых на залатуху дзяцей; в.в. Лютка, Дуброва. У м-ку Смалявічах кураць сушаныя браткі ад зубной болі.

78. *Vicia Faba, L.* Боб.

Кветкі параць у вадзе і даюць піць каровам ад „краскі; х. Калюча.

79. *Veratrum album, L.* Чамярыца белая.

Параць у вадзе і націраюцца ад каросты; х. Калюча.

80. *Viscaria vulgaris, Röhl.* Смолка звычайная.

Кветкі стоўчаныя (або звараныя) з салам даюць сьвіньням ад расстройства стрававань ня; м-ка Смалявічы; в. Кальнікі.

81. *Viburnum Opulus, L.* Каліна звычайная.

Кветкі параць у вадзе і п'юць ад прастуды; х. Калюга.

82. *Vaccinium vitis idaea, L.* Брусьніца.

Параць і п'юць ад кашлю; в. в. Кальнікі, Крутая Гара; Бабі Лес.

83. *Vaccinium Myrtillus, L.* Чарніца.

Сьвежыя і сушаныя ягады ўжываюць пры паносах; Калюга, Кальнікі, Бабі Лес.

## 2. Іншыя лекавыя сродкі.

1. Газа—п'юць адну лыжку газы пры моцных болях жывата; в. Мглё.

2. Гарэлка—ад рэўматызму (мочыць анучку і прыкладаюць да хворага месца); в. Кальнікі.

3. Гусінае сала—ад залатушнай сыпі на галаве; змазваюць хворыя месцы; в. Кальнікі.

4. Гліна—прыкладаюць да вопуха; в, Кальнікі, Мглё.

5. Градзіны—выпаўшы з навальніцай град зьбіраюць у бутэлку і даюць дзецям ад коклюшу; в. Кальнікі.

6. Цьвікі—ад малакроўя (паляць, настайваюць на гарэлцы і п'юць); м-ка Смалявічы.

7. Дым—паляць анучку і акурваюць раны дзеля хуткага зажываньня; усюды.

8. Іголкі—ад рэўматызму (кідаюць у моцны воцат і націраюцца); в. Кальнікі.

9. Курыны памёт—сушаць у печы, заварваюць і даюць піць хвораму трасцай (хворы не павінен ведаць, што ён п'е); в. Уборкі.

10. Мача (чалавечая)—ад ажогу (змачваюць пашкоджаныя месцы); в. Кайкава.

11. Мёд—ужываюць пры гарлавых болях; усюды.

12. Павуціна—прыкладаюць да парэзанага месца; Мглё, Кальнікі.

13. Пот з вакон—ад лішаёў (змачваюць хворыя месцы); м-ка Смалявічы.

14. Цукар палены—ад кашлю і прастуды (паляць на ваду і п'юць); Мглё, Кальнікі.

15. Сода—засыпаюць апаленыя месцы; усюды.

16. Соль (Nace)—засыпаюць апаленыя месцы; усюды.

17. Шкіпінар—бяруць 3 кроплі на цукар і ўжываюць ад прастуды, ад ташнаты і болей жывата; в.в. Мглё, Кальнікі.

18. Чарніла—заліваюць апаленыя месцы; в. в. Мглё, Кальнікі.

19. Шкло—у м-ку Смалявічах існуе такі (сакрэтны) рэцэпт: узяць звычайнае ваконнае шкло, патаўчы яго, прасеяць праз вельмі частае (шоўкавае) сіта і піць з вадой для аборту.

---

П. Раманенка.

# Вандроўка ў комуну.

*(Касьцюковіцкі раён, Магілеўшчына).*

## I.

Касьцюковіцкая школа 7-ка (Магіл. акр.) у гэтым годзе ўзяла шэфства над Бухара-Пролетарскай комунай № 1.

Каб заснаваць жывую сувязь з комунай, школьны Савет прыняў пастанову на другі дзень сьвята Кастрычнікавай рэволюцыі накіраваць у комуну школьны драматычна-музычны гурток, які ў складзе сваім мае і пэдагогаў і вучняў. Гурток павінен быў паставіць у комуне спэктакль і концэртнае аддзяленьне.

Бухара-Пролетарская комуна знаходзіцца на адлегласьці 12 км ад Касьцюковіч. З гэтае прычыны ў комуну паслалі ліст з просьбай прыслаць для ўдзельнікаў вандроўкі неабходную колькасьць падвод. Комуна ахвотна прыслала 6 падвод.

Надвор'е было вельмі добрае, сонечнае, цёплае. Цэльсі паказваў 10°. Паветра было чыстае, празрыстае, у ім была тая прыемная бадзёрасьць, якая прымушала забыцца, што была ўжо позьняя восень. Дзе-ні-дзе над зямлёю насіліся доўгія ніткі серабрыстага павуціньня і пажоўклае лісьце, што яшчэ засталося на дрэвах, ледзь-ледзь трымцела ад лёгкага ветрыку і блішчэла на сонцы зыркім пурпурам.

Са мной на калёсах едуць два вучні і дзьве вучаніцы. Яны прыемна ўсхваляваны вандроўкай і размова ўвесь час ідзе аб гэтым. Адна з вучаніц у руках трымае мандаліну і мы едзем пад акомпанімэнт музыкі. Бойкія, жывыя мэлёдыі як нельга лепш гармонуюць з гэтым блакітным небам, з гэтымі прыгожымі, задумёнымі белымі бярозамі, з гэтымі стусьмелымі палямі, якія далёка беглі наперад і хаваліся недзе далёка за небасхілам.

Паказаліся шэрыя абрысы сялянскіх хат.

Гэта — сяло Мар'явільле.

Калі мы ўехалі ў сяло, з усіх вакон пачалі выглядаць зацікаўленыя твары. У варот таксама стаялі купкі сялян і глядзелі на нас з запытаньнем, нібы хацелі даведацца: хто мы, куды едзем?

Урэшце, адзін з хлопцаў, гадоў 22, у шэрай куртцы, пашытай з самаробнага сукна, пытае ў нас:

— Ці не мобілізаваны вы, таварышы, што едеце такім гуртам?

Мы дзівімся запытаньню:

— Не, мы не мобілізаваны.

— А куды-ж вы і чаго едзеце?

— Мы едзем у Бухара-Пролетарскую комуну, будзем спэктакль ладзіць.

— Значыць вы з тэатрам едзеце? Здаволена кажа хлопец, і мы едзем далей.

Вуліцы сяла вельмі гразкія і мы павольна цягнемся ўперад. Урэшце выехалі за сяло і зноў перад намі шырокае поле, абрамлёнае з правага і левага боку сьцяной далёкага цёмна-сіняга лесу. Сонца схіляецца да самага небасхілу, робіцца барвістым і фээрычна асьвятляе бярозы на шляху.

Уверсе на дрэве дзяцел стукае сваёй дзюбай і гэтыя гукі, як шрот, рассыпаюцца і прыцягваюць нашу ўвагу.

— Калі дзяцел дзяўбе дрэва, дык яно ўжо скора засохне — кажа нехта з нас.

— Чаму гэта так?

— Ён дзяўбе толькі хворыя ці засохлыя дрэвы!

Здалёку доўгім ланцугом паказаўся шэраг хат.

— Гэта сяло Царковішча.

Наперад ведаючы, што на вуліцах сяла таксама будзе гразь, мы зьлязаем з калёс і ідзем нацянькі, „па загуменьню". Тут зусім суха. Абапал вузкай дарожкі стаяць прадоўжныя, нязграбныя гумны са стрэхамі з грязна-жоўтай саломай. Каля аднаго гумна стаіць рабая карова і падымаючы галаву цягне салому з даху. Ходзяць каля гумень сьвіньні. На аднэй з іх на сьпіне сядзіць сарока і шукае сваёй дзюбай жыўнасьці. Сьвіньня здаволена „рухае" — і круціць хвастом.

Праходзім загуменьне, зноў садзімся на падводы. Зварачваем направа. Да комуны засталося ўсяго 2 км.

Сонца зайшло. Шызы змрок няпрыкметна насунуўся з усіх бакоў.

Мы спусьціліся з узгорку і ўзьехалі на гарбаты мост. Зьлева — невялікае возера, досыць прыгожае, справа — каменны млын. Млын маўчыць, на ім робяць рамонт.

Узьняўшыся зноў на гару, мы прыехалі на плошчу, забудаваную дамамі і іншымі будынкамі. Гэта і ёсьць Бухара-Пролетарская ко

II.

Мы пад'яжджаем да дому, які сярод іншых будынкаў вылучаецца сваім надворным выглядам. Гэта, відаць, быў панскі дом. Час наклаў на яго сваю пячатку. Дом выглядаў ужо старым. Цяпер тут хата-чытальня, школа і кватэра настаўніка.

Мы разьмяшчаемся ў школьным памяшканьні. Каб мэтазгодна і продукцыйна скарыстаць час, які застаўся да пастаноўкі спэктаклю-я іду да старшыні комуны т. Падабеда і прошу яго даць мне некаторыя весткі аб комуне. Ён ахвотна ідзе насустрэчу маёй зацікаўленасьці і між намі адбываецца наступны дыялёг:

— Калі заснавалася комуна, колькі цяпер у ёй насяленьня, жывёлы і зямельнай плошчы?

— Комуна заснавалася 1 сакавіка 1918 г. Да гэтай восені комуна налічвала 70 сямей — 125 чалавек усяго. Коняй было 27, кароў 67 (35 дойных), сьвіней 37. Увосень да комуны з сяла Царковішча далучылася яшчэ 73 сям'і і ўсяго насяленьня цяпер 548 чалавек. А жывёлы стала: коняй 107, кароў 110, сьвіньней 199. Зямельная плошча комуны да ўзбуйненьня яе была 288 га, а пасьля ўзбуйненьня стала 1042 га. Уведзены 9-польны севазварот. Кожнае поле па 20 га. Два палі пад жыта, тры — пад бульбу, тры — пад канюшыну, адно — пад авёс і адно — пад выку, пшаніцу, лупін і гародныя расьліны. 60 га знаходзіцца пад сенажацямі, астатняя плошча — папар.

— Якія ўраджаі зьбірае комуна?

— Жыта з гэктара бяром 5/6 тон (50 п.), бульбы 15 тон (900 п.). Невялікі ўраджай тлумачыцца недахопам угнаеньняў. У мінулым годзе было куплена ўгнаеньняў на 900 руб. Гэта для комуны зусім мала. Каб адшукаць сродкі на паляпшэньне становішча комуны, намячаецца ў бліжэйшы час пабудова крухмальнага заводу, што патрабуе 60000 руб. Тады будзе шмат адкідаў ад бульбы і гэта дасьць магчы-

50 / 6 90.

масьць больш трымаць жывёлы, а значыць больш будзе ўгнаеньня. Тады і ўраджаі будуць вышэй.

— Якая сыстэма аплаты працы ў комуне?

— У нас уведзена пайковая сыстэма. Дзеці да 6 год атрымліваюць $^1/_4$ паю, падлеткі да 13 год — $^1/_2$ паю, з 13 да 17 год — $^3/_4$ паю. Усе іншыя атрымліваюць поўны пай: 20 кг жытняй мукі штомесячна, 34 кг бульбы і нявызначаную строга колькасьць круп і тлушчаў.

— Якія сельска-гаспадарчыя машыны ёсьць у комуне і якія падсобныя прапрыемствы?

— У нас ёсьць трактар, малатарня, жняярка, касілка, сеялка (папсаваная), грабілка. Калі, што прыдзе ў нягоднасьць, у нас ёсьць кавалі, якія рамантуюць нашы машыны. У больш сур'ёзных выпадках, дзе патрабуецца складаны рамонт, машыны адсылаюцца ў Менск. Так мінулым летам трэба было адрамантаваць наш трактар і мы накіравалі яго ў Менск. Гэта каштавала 200 руб. Правільна наладжваць нашу с. гаспадарку дапамагае нам раённая агрономія, а вясной і ўвосень мы запрашаем да нас і асобнага агронома. Нашы падсобныя прадпрыемствы: цагельня, якае выпускае 100000 цаглін у год, млын з перамолам да 1 тоны зерня ў гадзіну, вальня, якая прапускае ў гадзіну да 150 мэтраў сукна. Комуна мае яшчэ 3 сады агульнай плошчай да 10 га, што ў ураджайны год дае ад 3000 да 10.000 руб. прыбытку.

— Які чысты прыбытак мела комуна ў мінулым годзе?

— За мінулы год чысты прыбытак быў роўны 1800 руб. пры агульным звароце за год у 40000 руб. Комуна здала крэдытнаму т-ву закантрактаванага аўсу 12 тонн і $1^1/_2$ тоны ільнянага насеньня. Апрача гэтага ў часе хлебазагатовак комуна організавала чырвоны абоз і з ім паслала 10 тон жыта і аўсу.

— Якія ўзаемаадносіны між комунай і вакольным сялянствам, ці былі спробы кулацтва шкодзіць комуне?

— Ваколічнае насяленьне да комуны добра адносіцца. Ня гледзячы на гэта, у 1928 г. у комуны згарэлі дзьве пуні з сенам і збожжам. Агульныя страты ад гэтага 10000 руб. Ня ўдалася адшукаць вінавайцаў. Магчыма, што гэта зрабілі кулацкія элемэнты в. Чарчэнаўкі, якія прэтэндавалі на частку нашых сенажацяў, альбо гэта зрабілі члены былой арцелі „Трудовой уголок", якую ліквідавалі, а зямлю далучылі да комуны.

III.

Невялікае памяшканьне, якое звычайна зьмяшчае ня больш 100 чалавек, цяпер перапоўнена да немагчымага. У ім цяпер ня менш 200 чалавек сабралася. Тут мы будзем ставіць спэктакль.

Перш за ўсё мімаволі зварочваем увагу на групу дзяўчат, прыбраных як у сьвята. Яны ажыўлёна гутараць між сабою. Каля іх увіхаюцца хлопцы, якія імкнуцца паказаць сябе з лепшага боку і пусьціць пыл у вочы меткім словам.

Збоку ад моладзі стаяць пажылыя мужчыны. Яны няўпэўнена пазіраюць вакол сябе, відаць, ня ведаюць, што ім зрабіць: ці застацца тут і пабачыць спэктакль, ці пайсьці дамоў і супакойна ўлегчыся спаць. Урэшце думка, што спэктакль даюць не мясцовыя артысты, а з мястэчка, за 12 км прымушае іх застацца.

Каля мяне стаіць мужчына гадоў 35—38, апрануты ў чорную на ваце куртку. Яго аблічча носіць сьляды той адшліфоўкі, якую горад дае селяніну, калі ён доўга пажыве там.

— Вы, здаецца, раней у горадзе жылі? пытаюся я.

Ён выказвае моцнае зьдзіўленьне і паведамляе, што сапраўды ён 12 гадоў пражыў у Крывым Рагу.

— А цяпер вы ў комуне працуеце?

— Не, я з суседняй вёскі. Але ў комуне часта бываю, кожны тыдзень.

— Як вам комуна падабаецца?

— Людзі сытна жывуць тут. Недахопаў вялікіх ні ў чым ня маюць.

З гутаркі высьвятляецца, што ён гарачы прыхільнік комуны, бо жыцьцё ў ёй для бедняка і нават серадняка больш выгодна, як у вёсцы.

— Зразумела — дадае ён — організацыя комун у нас справа яшчэ новая. А таму ў гэтым бываюць недахопы...

— Цікава ведаць, якія вы знаходзіце недахопы?

— Перш за ўсё для селяніна не падыходзіць пайковая сыстэма аплаты працы. Напрыклад, я і вы едзеце араць у поле. Вы робіце гэта як трэба. А я троху папрацую, ды пад куст і буду спаць. Так да вечара. А ў вечары і я, і вы вяртаемся ў комуну і нам абодвым незалежна ад таго, колькі працавалі мы, залічаць працоўны дзень. Гэта няправільная ўстаноўка... Усё гэта ад таго, што ня ўсе нашы сяляне, нават тыя, якія пайшлі ў комуну, сьвядомы і дысцыплінаваны. Некаторыя з іх ахвотна прагуляюць, асабліва, калі ім гэта не пашкодзіць.

— А як лепш было-б зрабіць?

— Лепш было-б мець зьдзельшчыну. Тут ня будзе мець значэньня колькі часу вы былі на полі, а што вы зрабілі. Прыкладна скажам — комуне трэба ўзьняць 20 га зямлі, а вядома, што селянін за дзень можа ўзараць $^1/_2$ га. Такім чынам, для ўзараньня паказанай плошчы зямлі трэба паслаць 40 чалавек, калі пажадана гэту працу зрабіць за адзін дзень і ня трактарам, а плугам. І трэба зьвярнуць увагу, каб кожны ўзараў ня менш $^1/_2$ га, бо ў залежнасьці ад гэтага і зарплату трэба даваць. А калі хто апрацаваў $^3/_4$ га, дык гэта праца павінна залічвацца за $1^1/_2$ працоўныя дні...

Гутарка спыняецца. Уздымаецца заслона і прадстаўнік Касьцюковіцкага райкому КПБ т. Юрчэня кажа аб значэньні культурнай змычкі школы з комунай.

Пасьля прамовы на сцэне выступаюць музыканты і хор.

Публіка ўважна слухае. Чуцен звон разьбітага шкла.

— Народу шмат, а памяшканьне цеснае. Шыбы і разьбіваюцца — кажа мне мой размоўца і дадае: Вы-б да нас часьцей заглядалі. Змычка комуны са школай вялікая, карысная справа. Комуна мае ў гэтым і культурнае часаправаджэньне.

Пасьля концэртнага аддзяленьня ставіцца п'еса. Артысты на зубок ведаюць ролі. Публіка ўважліва сочыць за ходам п'есы.

IV.

Спэктакль скончаны. Была 12 гадзіна ночы. Ня гледзячы на гэты позьні час, трэба ехаць назад у Касьцюковічы.

Старшыня комуны загадаў запрэгчы коняй і мы зноў едзем.

На дварэ цёмна. Месяца няма і пры змрочным бляску зорак ледзь можна распазнаваць дарогу.

Мы ўсе моўчкі едзем. Троху замарыліся. Хочацца хутчэй даехаць.

# ХРОНІКА.

## Дзейнасьць ЦБК.

### Пасяджэньне 1/I—1930 г.

Заслухана інформацыя т. Бібілы аб мясцовай бібліографічнай працы і сувязі ЦБК з Бел. Дзяржаўнай Бібліотэкай. Прызнана неабходным мець шчыльную сувязь між Бібліотэкай і краязнаўчымі організацыямі. Прынята пастанова:—прасіць краязнаўчыя організацыі дасылаць Бібліотэцы праз ЦБК знойдзеныя кнігі і рукапісныя выданьні, прасіць прадстаўніка Бібліотэкі т. Бібілу напісаць ліст аб гэтым да ўсіх краязнаўчых організацый і зрабіць аб гэтым інформацыю на Краязнаўчай конфэрэнцыі, прасіць Бібліотэку рэгулярна даваць у „Наш Край" бібліографію і дапамагаць краязнаўцам сваім краязнаўчым кніжным фондам. Абмеркавана анкета па экономічнаму раёнаваньню БССР, складзеная т. Смолічам. Абмеркавалі протокол пасяджэньня Віцебскага Акруговага Т-ва Краязнаўства ад 18/XII—29 г. Прынята пастанова раіць т-ву з абвесткі Акруговай Віцебскай Краязнаўчай Конфэрэнцыі выключыць пытаньне аб вывучэньні мястэчка, замяніўшы яго пытаньнем аб вывучэньні фабрык і заводаў. Зацьвердзілі тэкст ліста ЦБК і ВСНГБ да ўсіх заводакіраўніцтваў і краязнаўчых організацый аб узмацненьні і дапамозе краязнаўчай працы на прадпрыемствах. Прынята рэзолюцыя аб слоўнікавай працы краязнаўчых організацый:

1) констатаваць, што праца зьбіраньня карткавага матар'ялу для слоўніка жывой беларускай мовы спынілася, а зьбіраньне матар'ялаў тэрмінолёгічных з колгасаў, фабрык і заводаў—*амаль не пачыналася;* 2) адзначыць, што зьбіраньне слоўнікавага і тэрмінолёгічнага матар'ялу мае асабліва важнае значэньне ў сучасны момант, калі ўрадовыя інстытуцыі і масавая грамадзкасьць патрабуюць хутчэйшай апрацоўкі беларускага слоўніка; 3) лічыць неабходным ажывіць справу зьбіраньня слоўнікавых матар'ялаў, для чаго: а) завастрыць пытаньне аб важнасьці зьбіраньня слоўнікавых матар'ялаў у газэтах, часопісах і асабліва ў „Нашым Краі"; б) Слоўнікавай і Тэрмінолёгічнай камісіям да 10 студзеня распрацаваць частковыя програмы і інструкцыі ў галіне мясцовай слоўнікавай працы, а ўласна наступныя пытаньні: аб укладаньні *этнографічна-тэрмінолёгічных* слоўнікаў; аб зьбіраньні слоўнікавых матар'ялаў у саўгасах, колгасах і на фабрыках і заводах; аб анкетным і экспэдыцыйным зьбіраньні слоўнікава-тэрмінолёгічных матар'ялаў; в) пакідаючы концэнтраваньне слоўнікавых матар'ялаў з месц праз ЦБК паранейшаму, лічыць неабходным заснаваць цесную сувязь слоўнікавай, тэрмінолёгічнай, дыялектолёгічнай і інш. катэдраў і камісій БАН навакол камісіі слоўніка жывой беларускай мовы для ўзмацненьня слоўнікавай працы; г) прасіць слоўнікавую камісію даць падагульненьне слоўнікавай працы за апошні год у „Наш Край"; д) прапанаваць раённым таварыствам краязнаўства паскорыць складаньне раённых слоўнікаў мовы і прысылаць копіі іх БАН; е) прапанаваць акруговым і раённым таварыствам краязнаўства і гурткам краязнаўства асаблівую ўвагу зьвярнуць на зьбіраньне слоўнікава-тэрмінолёгічных матар'ялаў у саўгасах, колгасах ды на фабрыках і заводах і сам.-прамысловых прадпрыемствах, а таксама ўкладаць мясцовыя этнографічна-тэрмінолёгічныя слоўнікі; э) прапанаваць усім краязнаўчым організацыям, апрача працы ўкладаньня мясцовых слоўнікаў, або ў тым выпадку, калі такая яшчэ не разгарнулася, організаваць дасылку слоўнікавых матар'ялаў сваіх членаў для скарыстаньня і апрацоўкі ў БАН; ё) лічыць канечна патрэбным прэміяваць лепшыя зборы мясцовых слоўнікавых матар'ялаў хоць-бы невялікі лік картак-слоў, але якасна каштоўных.

### Пасяджэньне 16/I—30.

Зацьвердзілі плян удзелу ЦБК у Усебеларускай прамысловай і с. г. выстаўцы. Даручана т. Жураўскаму і Касьпяровічу скласьці падрабязны сьпіс экспонатаў на выстаўку. Зацьверджаны тэзісы справаздачы ЦБК на III Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі. Заслухана інформацыя т. Жураўскага аб камандыроўцы яго ў Рагачэўска-Жлобінскі раён. Прынята пастанова аб запрашэньні на Краязнаўчую Конфэрэнцыю прадстаўнікоў

Украінскага Камітэту Краязнаўства і ўсіх краязнаўчых гурткоў г. Менску.

**Пасяджэньне 21/I—30.**

Зацьверджаны тэзісы дакладаў на конфэрэнцыі т. т. Жураўскага, Смоліча, Самцэвіча, Аляксандрава, Ярмашкевіча, Касьпяровіча, Бядулі, Шашалевіча. Прынята пастанова аб замене дакладу т. Грамыкі „Аб карысных выкапнях" з прычынах яго ад'езду—дакладам т. Касьпяровіча „Аб вывучэньні быту рабочых". Зацьвердзілі парадак мэтодычнай часткі краязнаўчай конфэрэнцыі.

**Пасяджэньне 1/II.**

Заслухана інформацыя т. Казака аб выніках III Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі. Прынята пастанова: зьвярнуцца з просьбай у НКА, НДІ і катэдру коопэрацыі і колектывізацыі аб выкананьні пастаноў конфэрэнцыі; даручыць усім краязнаўчым організацыям правесьці перарэгістрацыю сяброў т-ва; мэтодычныя даклады конфэрэнцыі выдаць у II-м выпуску зборніка „Краязнаўства"; пры выезьдзе прадстаўнікоў ЦБК на раёны прызнаць неабходным пераважную ўвагу зьвяртаць на вывучэньне краязнаўчымі організацыямі колгаснага будаўніцтва і прадпрыемстваў. Прынята пастанова аб камандыраваньні т. Шашалевіча у Полацкую акругу.

**Пасяджэньне 11/III.**

Заслухалі інформацыі т. Шашалевіча аб краязнаўчай працы ў Полацкай акрузе і т. Самцэвіча аб краязнаўчай працы ў Халопеніцкім раёне. Прынята пастанова аб зарэгістраваньні краязнаўчага гуртка пры комуне імя Леніна Дрысенскага раёну, дасылцы яму ад ЦБК краязнаўчай літаратуры. У сувязі з пераапрацоўкай школьных програм узьнята пытаньне перад НКА аб уключэньні прадстаўніка ЦБК у склад НМ Камітэт, прадстаўніком вылучаны т. Жураўскі. Зацьверджаны каштарыс для ўдзелу ЦБК ва Ўсебеларускай Прамысловай і Сельска-Гаспадарчай Выстаўцы. Прадстаўніком у Экскурсыйнае Бюро пры НКА ад ЦБК вылучаны т. Касьпяровіч.

**Пасяджэньне 20/III—30 г.**

Заслухана інформацыя т. Жураўскага аб камандыроўцы ў Асіпавічы для вырашэньня пытаньня аб паказе Асіпавіцкага мясцовага Музэю на Ўсебеларускай С.-Г. Выстаўцы. Прынята пастанова ў якасьці раённага Краязнаўчага музэю на Выстаўцы паказаць Асіпавіцкі Музей, даручыўшы т. Немцаву папоўніць Музэй паводле плянаў ЦБК і заключыўшы з т. Немцавым умову аб гэтым. Прынята пастанова аб організацыі ў красавіку месяцы 1930 г. курсаў краязнаўства для менскага студэнцтва.

**Пасяджэньне 1/IV.**

Заслуханы даклад т. Касьпяровіча аб экскурсійнай справе ў БССР. Прынята пастанова тэрмінова скласьці новыя маршруты экскурсій па БССР, даручыўшы апісаньні маршрутаў членам корэспондэнтам ЦБК і краязнаўчым організацыям. Заслухана інформацыя т. Касьпяровіча аб асьветным краязнаўстве. Прызнана неабходным: укладаньне пашпарту раёну і апісаньне школьнага раёну, як уступ да вытворчага пляну школы, выданьне школьнымі гурткамі школьна-краязнаўчых часопісаў у парадку соцспаборніцтва і выкананьне гэтымі гурткамі пэўнай тэматычнай працы. Даручана т. Касьпяровічу зрабіць аб гэтым даклад у Навукова - Мэтодолёгічным Камітэце. Заслухана інформацыя т. Казака аб IV Усерасійскай Краязнаўчай Конфэрэнцыі. Прынята пастанова аб узмацненьні сувязі між ЦБК БССР і ЦБК РСФСР і заснаваньні сувязі з краязнаўчай сэкцыяй Комакадэміі. Зацьверджана програма і сьпіс тэм курсаў краязнаўства для менскага студэнцтва. Вылучана неабходная сума на організацыйныя выдаткі.

**Пасяджэньне 11/IV.**

Заслухана інформацыя т. Казака аб выкананьні дагавору аб соцспаборніцтве між ЦБК і УКК. Прызнана, што соцспаборніцтва ў асноўным выконваецца: у бліжэйшы час закончыцца падрыхтоўка да Першай Усебел. Выстаўкі С.-Г. і Прамысловасьці, будуць організаваны курсы краязнаўства пры БДЗУ, курсы экскурсаводаў, лекцыі аб краязнаўчай працы па радыё, будуць абслужаны членамі ЦБК акруговыя краязнаўчыя конфэрэнцыі, вясною і летам будзе зроблена 5-6 выездаў на месцы для інструктаваньня і дапамогі краязнаўчым організацыям (у раёны суцэльнай колектывізацыі) і г. д. Заслуханы даклад т. Казака аб неабходнасьці зьмяніць сэкцыйную структуру краязнаўчых організацый БССР. Прызнана, што падзел на сэкцыі, які існаваў да гэтага часу ў краязнаўчых організацыях БССР (прыродна-географічная, грамадзка-экономічная, культурна-гістарычная, яўрэйская, польская) быў вельмі агульным і не концэнтраваў увагі краязнаўчых мас на вузлавых пытаньнях сучаснасьці; у мэтах орыентацыі краязнаўчага руху БССР на вузлавых пытаньнях соцыялістычнага будаўніцтва (індустрыялізацыя і колектывізацыя) прызнана неабходным безадкладная замена старога сэкцыйнага падзелу краязнаўчых організацый БССР на новы, які адпавядае патрэбам сучаснасьці; прызнана мэтазгодным у акруговых і найбольш моцных раённых краязнаўчых організацыях правесьці наступны падзел: сэкцыя прамысловасьці, сэкцыя соцыялістычнага земляробства, сэкцыя школьнага краязнаўства; прызнана патрэбным організаваць такія сэкцыі і пры ЦБК. Вылучаны наступныя члены ЦБК, адказныя за сэкцыйную працу ЦБК: у прамысловую сэкцыю—т. т. Аляксандраў і Сабалеўскі, у сэкцыю соцыялістычнага земляробства—т. т. Жураўскі і Самцэвіч, у сэкцыю школьную—

т. т. Касьпяровіч і Шашалевіч. Заслухана справаздача праўленьня Менскага Акруговага Таварыства Краязнаўства (даклад т. Шыманскага і садаклад т. Жураўскага).

Адзначаны наступныя недахопы ў працы таварыства, выкарыстаньне адпушчаных сродкаў, неналаджанасьць выдавецкай справы, слабае кіраўніцтва мясцовымі краязнаўчымі організацыямі неорганізаваньне краязнаўчага актыву ў гор. Менску; прызнана патрэбным хутчэйшае выкананьне наступных прац: выкарыстаньне раённых асьветніцкіх конфэрэнцый ды ажыўленьне краязнаўчай працы, правядзеньне агульна-гарадзкой краязнаўчай конфэрэнцыі, выданьне краязнаўчага часопісу гуртка краязнаўства 20 школы; даручана Прэзыдыуму склікаць у бліжэйшым часе праўленьнем таварыства і абмеркаваць пытаньне аб ажыўленьні чыннасьці таварыства і скліку чарговай акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі ў чэрвені 1930 г.

Вылучаны прадстаўнікі ЦБК на акруговыя краязнаўчыя конфэрэнцыі: у Полацак— т. Казак, у Віцебск—т. Жураўскі.

## Што атрымала ЦБК і рэд. час. „Наш Край“ у лістападзе—сьнежні 1929 г. і студзені — сакавіку—красавіку— 1930 г.

Ад К. Мельнікава (Сураскі раён), Д. Брыцько (Полацкі р.), П. Мініна (Дуброўна), Я. Кляеўскага (Бабчын), Рыгора Шыбанава (Гарадоцкі р.), А. Бялькевіча (Староб. р.), І. Федарава (Езярышч. р.), Юркевіча (Чэрв. р.), Жыгалковіча—слоў жывой мовы—500.

Ад Аршанскага Акруг. Т-ва Краязн.— слоў 10000.

Ад Дрысенскага раён. Т-ва Краязнаўства—слоў 500.

Ад розных краязнаўцаў і гурткоў—дыялектычных програм 21.

Ад Быхаўскага, Бягомльскага і Плешчаніцкага раён. т-ваў краязнаўства—матар'ялы аб апрацоўцы ільну—87 апісаньняў.

Ад Цьвержанкова (Чачэр. р.)—фольклёрных матар'ялаў 60 №№.

Ад А. Казлоўскага (Астр. Гар. р.), А. Пяхоты (Брагінскі р.), Р. Львовіча (Касынічы), Я. Грамовіча (Самахв. р.), Я. Табуліна (Каленкавічы), Р. Шыбанава (Гарадоцкі р.), А. Бялькевіча, І. Хвёдарава (Езярышч. р.), Х. Мялешкі (Плешчан. р.), А. Жышкевіча (Староб. р.), Б. Казлоўскага і М. Кавалёва— фольклёрных матар'ялаў 250 №№.

Ад Азарыцкага раённ. Т-ва Краязнаўства—фольклёрных матар'ялаў 120 №№.

Ад Чэрвенскага раённага Т-ва Краязнаўства—фольклёрных матар'ялаў 440 №№.

Ад Чэрвенскага раённага Т-ва Краязнаўства — рукапісны зборнік „Чэрвеншчына“ № 1.

Ад Шалдукова (Ветка)—артыкул „Забыты гэрой Гомельшчыны“ (Савіцкі).

Ад М. Цыганова (Слуцкі р.).—Да гісторыі сялянскага руху на Случчыне.

Ад Е. Зырко (Пятрыкоў) — артыкулы: 1) Мінулае і сучаснае Юравіцкага раёну, 2) Рэволюцыйны рух у Юравіцкім раёне, 3) Экономічны стан Юравіцкага раёну.

Ад Бародкі (Староб. р.)—Апісаньне в. Лістападавіч.

Ад проф. П. Салаўёва—артыкулы: 1) Да пытаньня аб барацьбе са шкоднікамі, 2) Шкода і карысьць ад крата, 3) З назіраньняў у зоолёгічным габінэце.

Ад д-ра Магілеўчыка.—Стан і пэрспэктывы санітарнага аздараўленьня БССР.

Ад В. Самцэвіча: 1) Саўгас Чырвоны Молат Халоп. р., 2) Некаторыя моманты колгаснага будаўніцтва Барысаўскага раёну, 3) Колгаснае будаўніцтва і краязнаўства.

Ад М. Бруя.—Сучасны Тураў.

Ад А. Крукоўскага.—Колгас Комунар.

Ад Н. Лосева.—Прычыны сьлепаты ў Мазырскай акр.

Ад А. Шашалевіча.—Організацыя працы і быт ў колгасах Чачэрскага раёну.

Ад Д. Селівончыка (Рагачэў).—З гісторыі асьвятленьня на Беларусі.

Ад Л. Пятрова (Смальяны). — Расьлінныя згуртаваньні ваколіц с. Махірава Полацк. акр.

Ад М. Касьпяровіча.—Краязнаўчая праца і студэнцтва.

Ад А. Супінскага.—Усходнія элемэнты ў беларускім народным мастацтве фарбаваньня.

Ад П. Раманенкі.—Вандроўка ў комуну.

Ад В. Купрэвіча.—Лекавыя сродкі ў народнай мэдыцыне Сьмаляв. р.

Ад Хацкевіча і Салавейчыка.—Колгасны рух у Барысаўскім раёне.

Ад А. Шаўковіча і М. Кірыловіча.—Кароткае монографічнае апісаньне Мілашэвіцкага с. с. Лельчыцкага раёну.

Ад А. Шаўковіча.—Краязнаўчыя вандраваньні па Мілашэвіцкім с. с.

Ад. А. Бяляева (Коханава).—Социяльна-экономічнае і культурнае становішча Кохан. р.

Ад С. Шаўковіча (Танеж).—Рэволюцыйны рух на Палесьсі.

Ад М. Вайцянкова.—Казімірава-Слабодзкі бровар у Мсьціслаўлі.

Ад розных раённых т-ваў краязнаўства— этнографічных анкет і анкет па вывучэньню рэлігійных настрояў на Беларусі 400.

Ад Быхаўскага, Бягомльскага і Плешчаніцкага раённых т-ваў краязнаўства—87 апісаньняў апрацоўкі ільну.

Ад М. Дзям'янкова (Прап. р.), У. Быхана (Тураў), П. Сянько (Дукора), Я. Лук'янчука, М. Пеўнева (Журавічы), Сьц. Путрыка, Хв. Мялешкі—фольклёрных матар'ялаў 80 №№.

Ад Асьвейскага раённага т-ва краязнаўства—колекцыя старадрукаў быўшага Асьвейскага кляштару.

Ад У. Уладзімірава. — артыкул „Колгас Чырвоная Зорка і комуна Комінтэрн, Барыс. р.“

Ад Дземяшкевіча.—Саўгасы Чэрвенскага раёну.

Ад А. Крукоўскага. — Арт. Вапняковыя пароды Мазыршчыны.

Ад С. Шаўковіча. — З раёну суцэльнай колектывізацыі.

Ад гуртка юных натуралістых Журавіцкай 7-кі.—Апісаньне колгасу Дружба.

Ад П. Белахвостава (Мсьціслаўль).—Апісаньне в. Лазовае.

Ад А. Абрамовіча. (Стрэшынск. р.)— Нар. апавяданьне аб паўстаньні 1863 г.

## „Дзень птушкі“ ў Н.-Барысаве.

У гэтым годзе краязнаўчым гуртком, у склад якога ўваходзіць сэкцыя аховы прыроды, яшчэ з восені пастаноўлена было правесьці „Дзень птушкі“. Сэкцыя аховы прыроды, вылучыла тройку, якая павінна была заняцца пытаньнем падрыхтоўкі і організацыі ўрачыстасьці. Вучні нашай 7-гадовай школы працуюць на гуце імя Домбаля, бо школа лічыцца прызаводзкай, політэхнічнай. На пасяджэньні фабкому было пастаўлена пытаньне аб водпуску матар'ялаў і інструманта для вырабу шпакоўняў, на што дана была заводам згода.

Каб падштурхнуць працу былі выкліканы групы на соцпаборніцтва з умовамі зрабіць 100 штук шпакоўняў. На агульным сходзе сэкцыі аховы прыроды пастаноўлена было вылучыць на 2-3 чалавекі вучняў у кожную школу з мэтаю ўцягнуць усе школы ў справу аховы і завербаваць больш сяброў.

Трэба прызнацца, што ў гэтых пытаньнях посьпехаў не дабіліся.

„Дзень птушкі“ рашано было правесьці 23 сакавіка. Да гэтага часу была дрэнная пагода, і сьнег толькі што зышоў. Акрамя таго, 23 сакавіка саўпала з нядзельным днём, калі на вуліцы ня толькі гарадзкое насельніцтва, але і шмат прыежджых сялян. 23 сакавіка ў Н.-Барысаве адбывалася 1 раённая конфэрэнцыя колгасьнікаў, дзе стаялі пытаньні аб падняцьці ўраджайнасьці.

У дзень 23 сакавіка вышла на вуліцу група краязнаўцаў і ахоўнікаў прыроды 7 Н.-Барысаўскай школы ў складзе 98 чалавек з шпакоўнямі, школьным сьцягам і плякатамі. Пагода амаль не пашкодзіла. Колёна накіравалася на Проспэкт Рэволюцыі і з песьнямі пайшла да вакзалу, дзе ў будынку клюбу адбывалася конфэрэнцыя. На вуліцы было шмат людзей. Некаторыя ўстаўлялі свае заўвагі. Праяжджаючыя па вуліцы сяляне ўглядаліся на незнаёмую ім зьяву.

Каля клюбу колёна застанавілася і вылучыла 5 асоб са сьцягам і шпакоўнямі. Вылучаныя накіраваліся ў залю конфэрэнцыі колгасьнікаў вітаць яе ад імя маладых ахоўнікоў прыроды, якія таксама прымаюць шчыры ўдзел у пытаньні падняцьця ўраджайнасьці.

Пасьля прывітаньня колёна разышлася на групы па вучастках для разьвешваньня шпакоўняў. Дзеці палезьлі на дрэвы з прывязанымі на паясох хаткамі для птушак.

Мясцовае насельніцтва ахвотна прымала на свой надворак вучняў, аказваючы ім сваю дапамогу ў разьвешваньні.

Па ўсім Н.-Барысаве за апошнія гады школамі і індывідуальна разьвешана да тысячы шпакоўняў.

Уладзіміраў.

## „Дзень Птушкі“ ў г. Полацку.

Школьна-Краязнаўчая Сэкцыя Акруговага Т-ва Краязнаўства супольна з іншымі ўстановамі організавала і правяла грамадзка-карысную кампанію юных краязнаўцаў „Дзень Птушак“. Гэты дзень зьявіўся масавым сьвятам дзяцей.

„Дзень Птушак“ быў праведзены пад лёзунгам грамадзкага агляду ўсёй нашай работы ў справе аховы карысных птушак, а таксама пад лёзунгам падняцьця ўраджайнасьці, барацьбы з палявымі шкоднікамі ў сельскай гаспадарцы. Ува ўсіх школах былі організаваны ўдарныя брыгады з дзіцячага актыву і настаўнікаў па падрыхтоўцы гэтага сьвята. 4 красавіка г. г. а 11 гадзіне раніцы ўсе школы з плякатамі, шпакоўніцамі, чучаламі птушак і шкоднікаў зьявіліся на пляц Волі.

Больш сотні лёзунгаў:

„Ахоўвайце птушак: яны зьнішчаюць шкоднікаў садоў і палёў“.

„Пабудуем шпакоўніцы — зьберажом мільёны ў колгасах і саўгасах“.

„Зьнішчым шкоднікаў у Сельскай гаспадарцы і гэтым зьберажом мільёны ў саўгасах і колгасах“.

„Дзеці, ня зьнішчайце птушак: яны дапамагаюць колгасам і саўгасам у барацьбе са шкоднікамі палёў і садоў“.

„Выканаем пяцігодку ў чатыры гады“ і г. д.

Адбыўся мітынг. Затым карнавал з двумя оркестрамі. У гэтым сьвяце прымала ўдзел да 3000 юных краязнаўцаў. Зроблена было да 800 штук шпакоўніц. Большасьць шпакоўніц былі накіраваны ў калгасы. „Дзень Птушак“ у Полацку прайшоў з вялікім уздымам і ўрачыстасьцю.

С. Мялешка.

## Агульны агляд надвор'я па БССР за сакавік м-ц 1930 г.

(*паводле даных Аддзелу Сеткі Беларускай Геофізычнай Службы*).

Надвор'е ў сакавіку было цёплае.

Тэмпэратура за 1-ую дэкаду была вышэй нормы на:

| | |
|---|---|
| Новае-Каралёва (Віцеб. акр). | 4.5° |
| Менск . . . . . . | 4.1° |

| | |
|---|---|
| Горкі (Аршан. акр.) | 4.4° |
| Чырыкаў (Магіл. акр.) | 4.4° |
| Васілевічы (Гомельск. акр.) | 4.3° |

Сярэднія тэмпэратуры за першую дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | —0.7° |
| Менск | 0.1° |
| Горкі | —0.6° |
| Чэрыкаў | —0.2° |
| Васілевічы | 1.5° |

Першая дэкада сакавіка г. г. на 10—12° цяплей адпаведнай дэкады сакавіка мінулага году.

Сярэдняя тэмпэратура за другую дэкаду вышэй нормальнай на:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | 0.1° |
| Менск | 0.5° |
| Горкі | 0.3° |
| Чэрыкаў | 1.4° |
| Васілевічы | 1.8° |

Сярэднія тэмпэратуры за другую дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | —3.1° |
| Менск | —1.4° |
| Горкі | —2.7° |
| Чэрыкаў | —1.1° |
| Васілевічы | 0.9° |

Другая дэкада сакавіка гэтага году ў сяр. выніках на 0.5 —3° цяплей другой дэкады сакавіка мінулага году.

Сярэднія тэмпэратуры за 3-юю дэкаду вышэй нормы на:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва. | 1.1° |
| Менск | 1.7° |
| Горкі | 1.4° |
| Чэрыкаў | 1.3° |
| Васілевічы | 1.0° |

Сярэднія тэмпэратуры за 3-ю дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | —0.1° |
| Менск | 1.3° |
| Горкі | 0.3° |
| Чэрыкаў | 1·1° |
| Васілевічы | 2.1° |

Сярэднія дэкадныя тэмпэратуры сакавіка мінулага году прыблізна на 2 градусы ніжэй дэкадных тэмпэратур сакавіка г. г.

Сярэднія месячныя тэмпэратуры сакавіка наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | —1.3° |
| Менск | 0.0° |
| Горкі | —1.0° |
| Чэрыкаў | 0.1° |
| Васілевічы | 1.5° |

У сярэднім тэмпэратура сакавіка гэтага году на 2-3° вышэй нормы і на 5-6° вышэй т-уры мінулага году.

Ваганьні тэмпэратур (паводле паказаньняў максымальнага і мінімальнага тэрмомэтраў) наступныя:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1-ая дэкада | ад | —17.0° | да | 8.6° |
| 2-ая „ | „ | —17.5° | „ | 12.4° |
| 3-яя „ | „ | —8.6° | „ | 14.0° |
| за м-ц | „ | —17.5° | „ | 14.0° |

Ападкі за 1-ую дэкаду выпадалі, як у відзе дажджу, так і сьнегу.

Наогул па большай частцы БССР ападкаў выпала за гэту дэкаду 1-5 мм. У паўночных районах Полацкай акр., усходніх районах Віцебскай акр., заходняй частцы Аршанскай, усходняй частцы Менскай адзначана 6—10 мм.

2-ая дэкада. У паўднёвай палове выпала за дэкаду 5—15 мм., паўночнай больш 16 мм., найбольшыя сумы значацца па акругах Віцебскай, паўночнай частцы Аршанскай (25—35 мм.). У сярэдзіне дэкады ападкі былі пераважна ў відзе сьнегу, а з пачатку і канца дэкады ў відзе дажджу.

3-я дэкада. Больш ападкаў значыцца па акругах Гомельскай. Мазырскай і Магілеўскай (10—20 мм.) і менш 10 мм. у іншых акругах. Ападкі выпадалі як у відзе сьнегу так і дажджу (апошні пераважна ў першую палову дэкады).

Сьнегавы насьціл. К канцу першай дэкады сьнегавы насьціл амаль зьнік, асабліва ў паўднёвых акругах. Мяцеліцы адзначаны ў сярэдзіне дэкады.

У сувязі са зваротам халадоў і сьнегападамі 13—15 сакавіка ў паўночных акругах зноў адзначаны сьнегавы насьціл (25—30 см.) і менш 10 см. у паўднёвых акругах.

На першае красавіка сьнегавы насьціл зусім зьнік з палёў.

Вятры пераважвалі заходняга кірунку замест паўдн. і ў. мец 6—8 м. (с) норма 3—6 м. (с).

Тэмпэратура глебы на глыбіні 0.2 м. вагалася ад —2.2° да 3.2, і на глыбіні 0.8 мэтра ад 0.7 па 1.7°.

Стан палявых культур.

Нязначнасьць таўшчыні сьнегавога насьцілу ў гэтым годзе не адбілася шкодна на стане азімых з прычыны мяккасьці зімы. Халады і сьнегапады ў сярэдзіне і канцы сакавіка затрымалі рост азімых.

Складзены 16-IV-30

Маслакавец.

## Да фэнолёгаў і краязнаўцаў.

Вялікае значэньне фэнолёгічных наглядаяньняў як навуковае, таксама і прыкладное (сельска-гаспадарчае, выхаваўчае, асьветнае і г. д.) і тое становішча фэнолёгіі, якое яна займае цяпер, прымушаюць нас падумаць аб неабходнасьці ад саматужніцкага спосабу зьбіраньня і апрацоўкі нагляданьняў перайсьці да організацыі адзінай фэнолёгічнай сеткі.

Час для гэтага бязумоўна надышоў. Калі па лініі краязнаўчай, па лініі паасобных аматараў прыроды—фэнолёгія знаходзіцца ў стадыі агітацыі і пропаганды, дык па лініі школьнай гэтыя папярэднія стадыі ўжо пройдзены (альбо абыйдзены) і. „узаконеныя" програмамі ГУС'а, фэнолёгічныя нагляданьні зьяўляюнца неабходным элемэнтам школьнай працы. Школы могуць і павінны стаць апорнымі, выходнымі пунктамі, на якіх пабудуецца будучая фэнолёгічныя сетка. Праўда, ў большасьці яны недаацэньваюць усяго значэньня зьбіранага імі фэноматар'ялу, разглядаючы яго толькі з боку асьветнага і выхаваўчага, не зьвяртаючы ўвагі на яго навукова-прыкладную вартасьць, але фэноняпісьменнасьць, якая ляжыць у аснове гэтай недаацэнкі, паступова ліквідуецца.

Мой зварот мае мэтай, не разгладаючы гэтага важнага пытаньня (намеран зрабіць гэта ў іншым месцы), узьняць яго з тым, каб сабраўшы фактычны матар'ял з месц, мець магчымасьць рэальна гаварыць аб усесаюзнай фэнсетцы, якая павінна ахапіць і натуралістычныя гурткі і краязнаўчыя арганізацыі, але галоўным чынам школы, як праваднікі і апорныя цэнтры фэнолёгічных ідэй.

У шэрагу месц Саюзу зьбіраньне і апрацоўка фэнонагляданьняў ідзе колектыўным шляхам. На мясцох ствараюцца свае сеткі рознага маштабу—ад гуртковага, школьнага колектыву з малым лікам наглядальнікаў да шырокай сеткі, якая ахапляе цэлыя раёны і краі з сеткай корэспондэнтаў.

Я зьвертаюся да ўсіх школ, краязнаўчых організацый і ў першую чаргу да тых, хто кіруе колектыўнымі фэнонагляданьнямі (усё роўна ў якім маштабе) з просьбай адгукнуцца на мой зварот і інформаваць як аб сваім фактычным стане фэнонагляданьняў на месцы, так і выказаць свае асабістыя меркаваньні ў гэтай галіне.

Каб было ясна, якія пытаньні важны для высьвятленьня стану мясцовай фэнолёгіі, я дазволю сабе пералічыць найбольш важныя з іх:

1. Колькі месц ці асоб дасылаюць нагляданьні?

2. Якую тэрыторыю ахапляюць нагляданьні (вёска, горад, раён і г. д.—адлегласьць у кілёмэтрах ад цэнтру зьбіраньня да найбольш дальняга корэсподэнта).

3. Хто зьяўляецца корэспондэнтам (школа, вучні, пэдагог, паляўнічы, селянін і г. д.).

4. Ці ўвесь год вядуцца фэннагляданьні, альбо толькі па сэзонах?

5. Хто і як апрацоўвае атрыманыя нагляданьні (асоба, гурток, камісія)?

6. Каму дасылаюцца абагульненьні нагляданьняў (ЦБК, сваім корэспондэнтам, у іншыя цэнтры і т. д.)?

7. Ці інформуеце і якім чынам (і каго) аб абагуленьньні нагляданьняў ((даклады, артыкулы, бюлетэні, календары прыроды і інш.)?

8. Ці даўно зьбіраюцца нагляданьні?

9. Па якой програме вядуцца нагляданьні?

Вось некаторыя пытаньні,—адказы на іх дапамогуць высьветліць, наколькі рэальна цяпер магчымасьць брацца за організацыю фэнсеткі. Яны, зразумела, ня вычэрпваюць усяго пытаньня, толькі вызначаюць тое самае важнае, што мае значэньне пры пабудаваньні фэнсеткі.

Усе свае адказы і меркаваньні прашу адрасаваць: Ленинград, Фонтанка, 17, кв. 33 Г. П. Гроденскому.

Наперад дзякую кожнага, хто адгукнецца на маю просьбу, якая накіравана ня толькі да тых, хто ўжо мае справу ў зьбіраньні фэннагляданьняў, але і да кожнага зацікаўленага ў справе пропаганды і агітацыі фэнолёгічных ідэй, да кожнага, хто цікавіцца пытаньнямі фэнолёгіі.

Г. Гродзенскі.

## У бліжэйшыя гады будзе выдадзены „Справочный Словарь славянских поверий".

Гэты слоўнік будзе складацца з 4 тамоў: 1) расьліны, 2) жывёлы, 3) чалавек і грамада, 4) зямля і неба. Матар'ял для першага тому—аб расьлінах—трэба сабраць на працягу 1930 г. Узяўшы на сябе даручэньне даць адпаведны матар'ял па ўсходня-славянскіх паданьнях, зьвяртаюся да ўсіх краязнаўцаў з просьбай дасылаць весткі—у першую чаргу датычных народных паданьняў аб усіх расьлінах — вольна растучых, сельскагаспадарчых, гародных, пладовых і іншых. Пажадана мець матар'ялы па пытаньнях:

1. Мясцовыя назвы кожнай расьліны і зьвязаныя з гэтымі назвамі расказы, легенды. якія тлумачаць гэтыя назвы. Напр., назву расьліны „браткі" тлумачаць тым, што на адным сьцябле гэтай расьліны ёсьць дзьве кветкі—сіняя і жоўтая, назву „чертополох"— тым, што гэта расьліна нібы палохае чарцей.

2. Ужываньне кожнай расьліны ці яе частак—лісьця, кветак, карэньня—у народнай мэдыцыне (ад якіх хвароб і як ужываецца), у народнай абрадовасьці, у варажбе, у сельска-гаспадарчых прыметах і ў быце, напр., у фарбаваньні. Асабліва пажадана ведаць падрабязна аб мясцовых абрадах і прыметах пры сяўбе і жніве с. г. расьлін, аб пасадцы і зборы гародных расьлін, аб зборы і ўжываньні лекавых і фарбавальных траў, аб пасьвенцаваньні некаторых расьлін у рэлігійныя сьвяты і ўжываньне гэтых расьлін (верба, траецкія зёлкі і г. д.); паданьні аб велічыні коласа, абрады з вянкамі, з венікамі, сухім лутавіньнем і г. д.

Сымболічнае значэньне кожнай расьліны і кветкі; прыватна—якое значэньне надаецца асобным расьлінам у снах, народных песьнях і г. д.

4. Мясцовыя паданьні і легенды, зьвязаныя з асаблівасьцямі кожнай расьліны і яе паходжэньнем; напр., легенды аб чырвоным соку вольхі, аб дрыготным лісьці асіны, аб кветках папараці на купальле і г. д.

Матар'ялы просьба дасылаць па адрасу: Ленинград, ул. Халтурина, 5, разряд Этнографии Государственной Академии Истории Материальной Культуры.

Проф. Дм. Зеленін.

---

# БІБЛІОГРАФІЯ.

*А. Шаўковіч і М. Курыловіч.* Кароткі нарыс монографічнага апісаньня паўднёва-заходняй часткі Лельчыцкага раёну, Мазырскай акругі; цэнтар — Мілашэвіцкі сельсавет. 30.V.29 вёска Мілашэвічы Лельчыцкага раёну. 176×222 мм., 76 бал., з малюнкамі, табліцамі і ўкладнымі картамі; пісаны рукой на абодвых бакох балоны.

Мілашэвічы знаходзяцца ў 65 кл ад чыгуначнай станцыі і 55 кл ад параходнай, а таму вельмі прыемна пераканацца, што краязнаўчая праца пачынае ахапляць самыя глухія куткі БССР. Рукапісны зборнік аб Мілашэвіцкім сельсавеце цікавы тым, што адлюстроўвае шчырае імкненьне аўтара — сапраўднага краязнаўцы зразумець асноўныя процэсы прыроднага і экономічнага жыцьця невялікай тэрыторыі, даступнай яго нагляданьням. Для складаньня зборніка затрачана бязумоўна вялікая энэргія і шмат часу, але думаем, што праца недарэмнай была для аўтара, яна пашырала яго сьветагляд, яна штурхнула яго зрабіць некаторыя практычныя вывады і прапановы, яна зьвязала яго з сучаснасьцю.

Што мы знаходзім у зборніку аб Мілашэвіцкім с. с., Больш за ўсё мы маем вестак аб прыродных умовах і зьявах гэтай тэрыторыі. Праўда, гэтыя прыродныя зьявы не ападаны ў пэўнай сыстэме і пляне, але для мясцовых працаўнікоў яны не пазбаўлены цікавасьці. У першую чаргу даюцца весткі і нагляданьні над сьнегавым насьцілам 1928-29 г. Усе нагляданьні ілюструюцца належнымі дыяграмамі, лічбамі, але аўтар робіць памылку, калі характарызуючы зіму 1928-29 г. і раўнаючы яе з зімой 1920-21 г., дае вывад, што такія сьнегавыя лютыя зімы, якая была ў 1928-29 г. паўтараюцца рэгулярна, прыблізна праз 8 год.

Іншыя прыродныя зьявы, якія зарэгістраваў і абагуліў аўтар, наступныя: нагляданьні над тэмпэратурай паветра (сярэдняя t зімы), над ветрам, колькасьцю ападкаў, над рэжымам вод і інш. Асабліва шмат нагляданьняў падана з галіны фэнолёгіі (кастрычнік—лістапад 1928, люты—май 1929 г., параўнальныя табліцы асноўных фэнзьяў 1928-29 г.), хоць аўтар прызнаецца, што за летні час немагчыма даць фэнолёгічныя весткі, бо ён быў у ад'езьдзе. Назіраючы за рэжымам вод, аўтар падкрэсьлівае заўважаны ім факт, які наносіць значную шкоду мясцовай гаспадарцы. Гэта—забалачваньне мясцовых сенажацяй у выніку няправільнай пабудовы млына на р. Вубарці.

Дае аўтар апісаньні глебы с. с., праўда, вельмі павярхоўныя, і некаторыя археолёгічныя весткі. Так, напр., т. Шаўковіч, відаць, не здагадваецца, што ім адкрыта нэолітычная стаянка на паўночным беразе возера Замошша, магчыма досыць багатая. Пра другое возера Прыбалавіцкае ён кажа, што з яго выцягвалі сецямі сярпы, вілы, глякі, але на жаль ня кажа аб гэтым больш дакладна.

Досыць поўнае даецца аўтарам апісаньне лясоў с. с. і тут відаць, што лясная проблема вельмі блізка аўтару, бо ён у гэтым разьдзеле больш за ўсё дае пэрспэктывы, якія наогул патрэбны ў кожным краязнаўчым досьледзе.

Таксама хоць і няпоўны, але маюць цікавасьць падрабязныя весткі аб росьце с. гаспадаркі і насяленьня сельсавету, пачынаючы ад 1923 г. Разам з гэтым аўтар робіць і некаторыя заўвагі аб бытавых умовах вядомых яму вёсак. Тут хоць і павярхоўнае этнографічнае апісаньне, але некаторыя досыць цікавыя вывады і весткі ёсьць у аўтара. Такімі напрыклад, зьяўляюцца весткі аб сялянскай архітэктуры, у якіх аўтар кажа: „калі прыдзеш у хату, дык заўсёды з правага, або з левага боку стаіць печ, гледзячы на тое, з якога боку вуліцы хата. Калі з левага, дык і печ ад уваходу з левага боку і наадварот". Гэта, мусіць, ня зусім так. Трэба было-б заўважыць, які кірунак вуліцы ў адносінах да частак сьвету, бо пабудова хат і асабліва печы бязумоўна знаходзіцца ў сувязі з надзвычайна старымі мітолёгічнымі сьветапоглядамі. Другая цікавая дэталь, якую падае аўтар—гэта вялікае ўжываньне кіслай ежы насяленьнем сельсавету. Ці не знаходзіцца гэта ў сувязі з балотнай мясцовасьцю?

Урэшце, аўтар піша аб вялікай прыхільнасьці насяленьня да гарэлкі. Падае некаторыя весткі, але бязумоўна перавялічвае, калі кажа: „Каханьне (?) да піцьця гарэлкі даходзіць да таго, што некаторыя сяляне бяруць

з коопэрацыі гарэлку ня літрамі, а цэлымі „чацьвярцямі“. За студзень месяц 1929 г. распрадана сялянам с. саветаў Бараўскага, Мілашэвіцкага і Глушкавіцкага 4000 літраў“.

Наогул праца Шаўковіча вельмі цікавая з краязнаўчага боку. Асноўным недахопам яе, што не дае магчымасьці зьмясьціць яе ў друку—зьяўляецца адсутнасьць пэўнага пляну і значны памер зборніка, які ахапляе ўсё „патроху“. Лепш было-б даваць тэматычнае апісаньне сельсавету, што і паглыбіла-б краязнаўчыя досьледы і накіравала-б думку аўтара ў пэўны, строга акрэсьлены бок. У даным зборніку, трэба сказаць, і намячаўся такі ўхіл: мэтэоролёгія, фэнолёгія і лясная гаспадарка сельсавету.

А. Шашалевіч.

---



# Краёвая бібліографія.

Працяг *).

Ханкин, А. Гомельская большевистская организация и Ленские дни. Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 922. № 23. с. 31—34.

Ханкин. Торговля текстильными изделиями в Гомеле в прошлом и настоящем. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 2. с. 43—47.

Хатаевич, М. Гомельская большевистская организация в апреле 1917 г. (Из воспоминаний). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 921. № 12. с. 28-30.

Хатаевич, М. Гомельская большевистская организация в сентябре и октябре 1917 г. (Из воспоминаний). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 921. № 14. с. 39—42.

Хатаевіч, М. Гомельская партыйная організацыя (з успамінаў). Бальш. Бел. 927. № 4 с. 15—25.

Хатаевич. Доклад на общегородской партконференции 3-4 августа 1923 г. [Гомел. Работа губкома]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923, № 49-50. с. 11—23.

Хатаевич, М. Результаты чистки и ближайшие задачи. [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 921. № 14. с. 1—4.

Хатаевич. Состояние партработы в промышленных районах губернии [Гомельской]. (Доклад на 2-м губсовещ. секретарей производств. ячеек). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 46. с. 14—17.

Хейфец, С. Я. История бомб и взрыва в 1906 г. (Из воспоминаний) [Гомель]. Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 923. № 49-50. с. 121—123.

Хижняков. Начали восстанавливать рыбоводное хозяйство. [Гомельск. губ.]. Полесск. Коммун. 925. № 17. с. 84—86.

Хоботько, И. Безработица и борьба с ней [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 68-69. с. 64-65.

Х. П. Дело двинулось. (Заметки о нашей экономич. политике в губ.) [Гомельской]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 921. № 12. с. 4-5.

Х. Р. Год работы. [Отдела по работе среди женщин при Гомельском губкоме]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 921. № 16. с. 22-23.

Хромецкий, П. Работа совхозов Губсельтреста [Гомельской губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 7. с. 39—41.

Хуторецкая. Новые шаги в работе среди крестьянок Речицкого уезда. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 4. с. 32—35.

Хуторецкая. Уездно-городское совещание женорганизаторов по Речицкому уезду. Полесск. Коммунар. 925. № 17 (100). с. 75.

Хуторецкий, М. Некоторые итоги волполитпросветсовещаний по нашему уезду [Гомель]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 58. с. 80—82.

Хуторецкий, М. Приток в партию и методы его увеличения. (По Речицкой организации). (В оценке совещания бюро горячеек). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 77. № 17—21.

[... Центральн. Контрольн. Комиссия ВРКП (б) о работе Гомельск. Губ. К. К. Полесск. Коммунар. 926. № 11-12. с. 113-114.

Цырлин, Д. Оборона „Савой". (К истории Стрекопытовского восстания). Изв. Гом, Губ. Ком-та РКП. 921. № 19. с. 49—51.

Цыркина. Состояние ячеек РКП Гомельской уездной организации. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 44. с. 40—46.

Чекулаев. Состояние сельско-хоз. кооперации [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 9. с. 72—75.

Чернин, Н. О шефстве города над деревней. [Гомель]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 47—48. с. 53—61.

Чернов и Шатенштейн. На пути к 100 проц. [Ликвидация неграмотности в Гомельской губ.] Полесск. Коммунар. 926. № 2. с. 22—27.

[... IV-ое Гомельское губ. совещание по работе среди женщин. (7—9.I 1921 г.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 921. № 7-8. с. 40—43.

[... 4-ое Губернское совещание женотделов (20.II.1923). [Гомель]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 40. с. 33.

Чухман, З. Состояние ячейки трудколлективов (Гомель). Бальш. Бел. 928. № 6-7. с. 102—105.

Шайн, І. Вынікі перавыбараў бюро партячэек у Гомельскім гарадзкім раёне. Бальш. Бел. 928. № 12. с. 83—86.

*) Гл. „Наш Край" 1929 г. №№ 5, 6-7, 8-9, 10, 11, 12 і №№ 1, 2, 3 1930 г.

Шайн, М. Партработа среди пищевиков. (Ячейка КП(б)Б фабр. „Просвет“—Гомель). Бальш. Бел. 928. № 2. с. 81—85.

Шантарович, А. Леса местного значения (Гомельской губ. Изв. Гом. Губ. К-та РКП. 925. № 6. с. 57—59.

Шашалевіч, А. Па Гомельскай акрузе. Краязнаўчыя нататкі. Наш Край. 928. № 11. с. 43—50.

Шейндлин, Б. Ход перевыборов кооперативн. организаций по [Гомельской] губ. и наши задачи. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 921. № 17. с. 6—7.

Шершнев. Жилищная кооперация и ее первые шаги в Гомельских условиях. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 68—69. с. 66—67.

Шернев, С. Работа коммунальных предприятий г. Гомеля. [Электростанция, водопровод, кирпичный завод]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 12. с. 47—48.

Шершнев. Состояние и задачи коммунального хоз-ва. [Гом. губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 67. с. 66—68.

Шершнев, С. Состояние и значение грунтовых дорог губении [Гомельской]. Изв. Гом. Губ. К РКП. 925. № 8. с. 62—63.

[ . . . 6-ое Гомельское губ. совещание РКП. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 921. № 16. с. 8—20.

[ . . . Шестое очередное собрание уполномоченных Гомельского Районого Союза Потребительск. Об-в 18—21. II. 1927. (Доклады, резолюции и постановления). Гомель. Изд. Гом. Союза Потреб. О-в. 927. с. 28.

Шифрин, И. Из воспоминаний участника по ликвидации целого ряда воспоминаний в 1919 г. в Гомельской губ. (бывш. Могилевской). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 922. № 34. с. 43—45.

Шкляров. Водный транспорт и его место в экономике Гомельской губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 13. с. 14—16.

Школьников. Кассы взаимопомощи при фабзавкомах Гомеля, Ново-Белицы и Речицы. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 80. с. 149—151.

Школьников. Плюсы и минусы в работе фабзавкомов Гомеля и Ново-Белицы. (Из материалов обследования). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 78. с. 65—68.

Шмулевич, Б. Ликвидация неграмотности в нашей губернии. [Гомельской]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 68—69. с. 35—37.

Шпигель, Экономика труда в нашей губернии за четыре года. [Гомельская губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 922. № 34. с. 5—9.

Шчэрба, П. Малочная коопэрацыя ў Гомельшчыне. Шлях коопэрац. 928. № 3. с. 54—56.

Щербаков, С. Культурно-общественная работа просвещенцев Гомельск. уезда и задачи волместкомов рабпрос. Изд. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 1. с. 43—46.

Щербинский, П. Белорусская работа в Гомельской губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 8. с. 50—52.

Щербинский. Вопросы культурно-массовой работы среди белоруссов Гомельщины. Полесск. Коммунар. 925. № 19 (102). с. 34—35.

Щербинский. Несколько слов о белорусском движении в нашей губернии. [Гомельской]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 58. с. 36—37.

[ . . . Экономика Гомельского округа. (краткий экономический обзор). Сав. Буд-ва. 927. № 11—12. с. 176—186.

[ . . . Экономическое состояние Гомельской губернии. Нар. Хоз-во Бел. 923. № 6. с. 98—114; № 7. с. 28—49.

Юдин, Б. М. Переспективы волостного бюджета [Гомельск. губ.]. Полесск. Коммун. 925. № 17 (100). с. 55—58.

Юзефович, М. Избы-читальни в Гомельской губернии. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 40. с. 17—20.

Ющенко, И. археол. Археологические раскопки в Гомельщине. В помощь просвещенцу. 926. № 14. с. 120—123.

Яковлев, И. В 1918 году. [в Гомеле]. Изв. Гом. Губ. Ком-тя РКП. 923. № 52—53. с. 117—120.

Якубсон. Безработица и борьба с нею. [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 58. с. 44—50.

Янковский, Р. В Гомельском рабочем факультете им. Ленина. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 57. с. 43—47.

Янковский, Р. Хойникская волость (Речицкого уезда). [Экономическое состояние. Описание]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 46. с. 50—55.

Я-п. Торф и рабочая сила. (Добруш-фабрика, торф-завод.) Проф. Рух. Бел. 928. № 19. с. 4—75.

---

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**

Рэдактар—**З. Бядуля.**

# ЗЬМЕСТ



## МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.



## ХРОНІКА.



## БІБЛІОГРАФІЯ.

Цана 50 кап.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1930 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, праграмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

## У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. Аляксандраў, А. Аніхоўскі, Л. Бабровіч, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, М. В[illegible]евіч, Д. Васілеўскі, І. Віткоўскі, Проф. Васількоў, В. Вольскі, М. Грамыка, М. Гарэцкі, З. Даўгяла, В. Дружчыц, С. Жураўскі, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Кулакоў, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, М. Касьпяровіч, Купрэвіч, М. Ламака, В. Ластоўскі, М. Лур'е, А. Ляўданскі, Д-р Магілеўчык, Я. Мазуркевіч, А. Мікалаеў, С. Мялешка, М. Мялешка, Мацьвяёнак, М. Мікіцінскі, Натальлін, С. Нікіфаровіч, А. Нямцоў, Проф. В. Пераход, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў, Раманчук, В. Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, В. Скардзіс, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. У. Фядзюшын, А. Шашалевіч, І. Шпілеўскі, М. Шчакаціхін і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | | |
|---|---|---|
| На год . . 4 р. — к. | На 3 м-цы | 1 р. 25 к. |
| На 9 мес. . 3 р. 25 к. | На 1 месяц | — р. 50 к. |
| На паўгода 2 р. 25 к. | Падпіска з кожнага месяца | |

Гадавым падпішчыкам выдаецца прэмія — „КРАЯЗНАЎСТВА“ — зборнік програм і інструкцый, выд. ЦБК.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: У Бюро падпіскі Кніга-поштай (Менск, Пляц Волі, 5), у рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, вугал Ленінскай—Унівэрсытэцкай 29/35 Краязнаўства), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.

„НАШ КРАЙ“ прадаецца: у Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.

Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнаўства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1929 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў — за 13 руб.

— 1 комплект за 1929 г. 3 руб. —

Апрача гэтага ў ЦБК прадаюцца:

„Працы I Усебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
„Працы II Усебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
Асіпавіцкі Раён — першы выпуск — 2 р., другі выпуск — 80 к.
Краязнаўства. Зборнік. Цана 1 руб.
Краязнаўчым організацыям скідка 25%.